ДАЛІНА ЦАРОЎ

ПЛАН АГІНСКАГА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 12(29) — 2020

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ТРАВА НАШЫХ ДЗЯДОЎ

CARPE DIEM

# СОФ'Я ВІТАЎТАЎНА,

## ГАСПАДЫНЯ МАСКВЫ

16+

Наша **Гісторыя**
12/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Наменснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — карціна Паўла Чысцякова «Вялікая княгіня Соф'я Вітаўтаўна на вяселлі вялікага князя Васіля Цёмнага». 1861 год.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.01.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0653/20.
Наклад 5077.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Некалькі гадоў таму 33-гадовы Андрэй Горват, жыхар вёскі Прудок у глыбіні Усходняга Палесся, заснуў невядомым, а прачнуўся знакамітым. За год да таго перабраўся з Мінска ў дзедаву хату, завёў гаспадарку і стаў жыць сялянскім жыццём. Свае штодзённыя ўражанні ён апісваў на ўласнай старонцы ў Фэйсбуку. На яго допісы выпадкова наткнуўся рэдактар «Нашай Нівы», уразіўся і апублікаваў у выданні. Гэты матэрыял стаў ашаламляльна папулярным: ён дагэтуль застаецца самым чытаным артыкулам у гісторыі NN.BY. Далей Горват выдаў кнігу «Радзіва Прудок», якая выклікала сапраўдны фурор. Яна вытрымала некалькі перавыданняў, на аўтограф-сесіі да аўтара выстройваліся чэргі. Горват стаў аўтарытэтам для тысяч беларусаў, па яго кнізе паставіў спектакль Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы — сапраўдны феномен.

Нечаканым было тое, што ў дзённіку Горвата апісваліся не нейкія заморскія дзівосы, не сэкс і не таямніцы палітыкі, а традыцыйнае жыццё беларускай вёскі і яе людзей. А гэта, здавалася б, даўно ўжо ўсім на некалькі пакаленняў наперад нагнала аскому. Бо столькі гаворана-перагаворана, што беларусы — вясковая нацыя і ад гэтага многія яе беды. Столькі крытыкавалася даўнейшая беларуская літаратура, дзесяцігоддзямі зацыкленая на вёсцы. Так, здавалася б, намертва ўраслі ў цела ды кроў перададзеныя і нашчадкам комплексы тых колішніх паўвяскоўцаў-паўгараджан, якія ўцякалі са сваёй скалечанай калгаснай сістэмай вясковай радзімы ў гарады, бачачы ў гэтым адзіны шанец «людзьмі звацца».

А тут раптам прачнулася такая цікавасць да таго, ад чаго раней уцякалі! Сярод чытачоў кнігі Горвата — нямала зусім маладых людзей, народжаных у гарадах, дзе жылі ад самага нараджэння ўжо і іхныя бацькі, а часта і дзяды з бабулямі.

Якраз гэтай зменай пакаленняў і тлумачыцца цяга да старой, вясковай Беларусі, яе праўды, этасу. Да таго, што знікае разам з адыходам старэйшага пакалення. Тое, што яшчэ гадоў з 30 таму было для большасці грамадства часткай штодзённасці, нечым само сабой зразумелым, для цяперашняй моладзі — экзотыка. Прыцягальная, бо ў ёй — памяць пра продкаў, частка сямейнай гісторыі. Цікавая не менш, чым «вялікая» гісторыя ўсяго народа, усёй краіны.

Штодзённасць, якая цяпер ужо амаль адышла ў гісторыю, і раней з'яўлялася на старонках «Нашай гісторыі». У гэтым нумары — пра сена, над якім столькі поту пралівалі, але з якім было звязана і столькі рамантыкі (**старонкі 14–21**). А ў адной з нашых улюбёных рубрык, «Нацыянальная геаграфія», мы выпраўляемся ў Валожынскі раён, вёску Леснікі, дзе сто гадоў таму сяляне падпольна вучылі сваіх дзяцей (**старонкі 62–66**).


4


22


19


32














44


62


68


78


38














O·HRI·REX
SAM·LIV·N
SIGIS·AVG
рублі
2




ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ
БССР

# Соф'я Вітаўтаўна, гаспадыня Масквы

**Адны называлі яе «спрытнай інтрыганкай, якая зрабіла шмат зла Расіі». Іншыя якіх толькі ўплываў і наваўвядзенняў не прыпісвалі Соф'і: і законы, і канцылярыя, і выезды літоўскіх князёў і баяраў на службу ў Маскву... Але ці да крамлёўскіх інтрыг было княгіні, якая нараджала адно дзіця за другім? І якія магчымасці дзеяння на гэтым полі пакідалі ёй нормы тагачаснага грамадства? Пра ролю жанчыны ў вялікай палітыцы XV стагоддзя на прыкладзе Соф'і, дачкі вялікага князя літоўскага Вітаўта, жонкі вялікага князя маскоўскага Васіля I і маці Васіля II, піша кандыдат гістарычных навук Сяргей Палехаў.**



WIKIMEDIA COMMONS

**Соф'я і Васіль I.** Вышыўка 1414–1417 гадоў.

## Дачка як інструмент

Гісторыкі адносяць нараджэнне Соф'і да 1370-х. Вітаўту тады было за дваццаць. Ганна, жонка Вітаўта і маці Соф'і, верагодна, паходзіла са смаленскіх Рурыкавічаў.

Калі нарадзілася Соф'я, магчыма, яшчэ быў жывы вялікі князь Альгерд. У маскоўскім паходзе свайго дзядзькі Вітаўт удзельнічаў у 1368 годзе — тады яшчэ нішто не варажыла бліскучай будучыні маладога князя. Дый лідарства Масквы ў паўночна-ўсходняй Русі можна было ставіць пад пытанне: Міхаіл Цвярскі, саюзнік Альгерда, некалькі разоў спрабаваў атрымаць у татараў ярлык на вялікае княжанне Уладзімірскае, адціснуўшы маскоўскіх князёў.

Першая, ненаўпростая згадка пра Соф'ю адносіцца да пачатку 1380-х — часу імклівых зменаў на палітычным полі ВКЛ: бацька Вітаўта Кейстут выступіў супраць свайго пляменніка Ягайлы,

**Вялікае княжанне Уладзімірскае** давала не толькі тэрыторыі і іх рэсурсы, але і прэстыж. Князь, які яго меў, лічыўся старшым сярод іншых князёў паўночна-ўсходняй Русі. Да мангольскага нашэсця падобны статус на Русі давала валоданне Кіевам. Ярлык (дазвол) на вялікае княжанне Уладзімірскае даваў рускім князям хан Залатой Арды.

які пасля смерці Альгерда стаў вялікім князем. Параза каштавала Кейстуту жыцця, а Вітаўту ўдалося збегчы ў Прусію, дзе ён быў прыняты магістрам Тэўтонскага ордэна і хрысціўся. І ў 1384 годзе кіраўніцтва ордэна прадугледжвала, што ў выпадку смерці Вітаўта без нашчадкаў мужчынскага полу ордэн зможа выдаць замуж яго дачку. Відаць, мелася на ўвазе Соф'я, хоць яна і не названая па імені. У тыя часы нашчадак не мужчынскага полу разглядаўся толькі як інструмент «вялікай палітыкі».

### Замуж з эміграцыі

Некаторыя гісторыкі лічаць, што перамовы пра шлюб з Соф'яй маскоўскі княжыч Васіль, сын Дзмітрыя Данскога, вёў з Вітаўтам яшчэ ў 1387 годзе, вяртаючыся з Арды. Як бы там ні было, скора чарговае абвастрэнне адносін з Ягайлам змусіла Вітаўта з сям'ёй зноў бегчы ў ордэн. У мемарыяле, прадыктаваным на мяжы 1389 і 1390 гадоў, Вітаўт скардзіўся, што Ягайла і Скіргайла не дазвалялі яму выдаць замуж «любімую дачушку», за каго ён хоча. Ягайла абгрунтавана баяўся, што тым самым Вітаўт набудзе саюзнікаў.

Вітаўту ўдалося выдаць дачку замуж, калі ён быў у Прусіі, неўзабаве пасля таго, як Васіль I у 1389-м стаў маскоўскім князем. У жніўні 1390-га бурмістр Рэвеля пісаў, што маскоўскія паслы едуць у Прусію па дачку Вітаўта. Паслам, мяркуючы па ўсім, прыйшлося чакаць вяртання бацькі нявесты, што якраз выправіўся ў знакамітую рэйзу у Літву. У паходзе ўдзельнічаў цвет еўрапейскага рыцарства — у тым ліку граф Дэрбі, будучы англійскі кароль Генрых IV Балінгброк, які тады вёў жыццё




**Пячатка Соф'і Вітаўтаўны** з выявай грэчаскага бога паўночнага ветру Барэя, які выкрадае царскую дачку Арыфію, каб знесці на далёкую Поўнач. Ці не аналогія да ўласнага замужжа?

вандроўнага рыцара. Ордэнскае войска спаліла віленскі Крывы замак, загінуў і князь Карыгайла Альгердавіч.

У барацьбе Вітаўта за «отчыну» вайна, дыпламатыя і матрыманіяльная палітыка ішлі побач. Увосень справа з шлюбам была ўлагоджаная, і карабель з Соф'яй, князем Іванам Альгімонтавічам Гальшанскім, які яе суправаджаў, і маскоўскімі баярамі адплыў з Гданьска ў Ноўгарад.

1 снежня пасольства прыбыло ў Маскву, і толькі 9 студзеня 1391 года было вяселле. Напярэдадні Соф'я перайшла ў праваслаўе. Праз сто з нечым гадоў заходні дыпламат Сігізмунд Герберштэйн пісаў, што ў Маскве Соф'ю называлі Анастасіяй. Няясна, што за гэтым стаяла: нярэдкая для заезджаганазіральніка блытаніна, след звароту Соф'і ў праваслаўе або праява феномена хрысціянскай двухімённасці. Прынамсі, на яе саркафагу стаяла імя «Соф'я».

### «Ён не пашкадуе свайго зяця»

І замужам Соф'я захавала сувязі з бацькам, у становішчы якога адбыліся важныя перамены. Улетку 1392-га, памірыўшыся з Ягайлам, ён вярнуўся ў Літву, атрымаў сваю «отчыну» Трокі, а неўзабаве пачаў павялічваць уплыў. Інтарэсы Вітаўта на Русі не абмяжоўваліся землямі ВКЛ, а гэта пагражала канфліктам з Масквой.

Спачатку ўсё складвалася «па-сямейнаму»: так, у 1396 годзе Вітаўт двойчы сустракаўся з Васілём — адзін раз у літоўскім Смаленску, а другі раз у маскоўскай Каломне, пасля літоўскага паходу на Разанскую зямлю. Здавалася б, кіраўнік ►

**Сяргей Палехаў**
кандыдат гістарычных навук, даследчык Вялікага Княства Літоўскага з Расіі. Старшы навуковы супрацоўнік Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы.
Аўтар кнігі «Наследники Витовта. Династическая война в Великом княжестве Литовском в 30-е годы XV века» (Москва, 2015), намеснік адказнага рэдактара расійска-беларускага выдання крыніц «Полоцкие грамоты XIII — начала XVI века» (т. 1–2, адк. рэд. Г. Л. Харашкевіч, Масква, 2015). Цяпер рыхтуе да выдання зборнік крыніц «Дыпламатычны кодэкс Свідрыгайлы».



▶ ВКЛ і ягоны маскоўскі зяць дзейнічалі разам. Прынамсі, так было, пакуль гэтыя дзеянні былі на руку Вітаўту.

Між тым, пакуль Васіль I вёў зацяжную вайну з Ноўгарадам за Дзвінскую зямлю, у Літве справа ішла ад замірэння з Тэўтонскім ордэнам да саюзу з ім. Яшчэ ў пачатку 1398 года комтур Рагніта, які пабываў у Літве, папярэджваў вялікага магістра Конрада фон Юнгінгена: калі Вітаўту ўдасца дамовіцца з ордэнам, ён не пашкадуе свайго зяця. 12 кастрычніка 1398-га Вітаўт заключыў саюз з ордэнам цаной саступкі Жамойці, пры гэтым бакі дамовіліся аб падзеле сфер інтарэсаў: Літве даставаўся Ноўгарад, а ордэну — Пскоў. Гэта ішло насуперак інтарэсам Васіля I, які пачаў збіваць кааліцыю рускіх князёў, а на сустрэчу з Вітаўтам у Смаленск у пачатку 1399-га адправіў Соф'ю.

Як вядома, планы Вітаўта зламала параза ад татараў на Ворскле ў жніўні таго ж года.

Падпарадкаваць Ноўгарад яму так і не ўдалося. Напамінам аб гэтай сустрэчы, відаць, надоўга застаўся не зусім звычайны падарунак Соф'і — «крыж уздвізальны». Той крыж яна згадвала ў завяшчанні, ён застаўся ў казне маскоўскіх князёў.

### «Нораў бацькаў, нясытая на распусту»

За дваццаць гадоў Соф'я нарадзіла Васілю I пяцярых сыноў і па меншай меры чатыры дачкі. Пры маскоўскім двары на яе глядзелі скоса — магчыма, з-за яе паходжання. У Цвярскім летапісным зборніку пра яе сказана: «Нораў мае бацькаў, нясытая на распусту».

Успомнім, што нават польскі гісторык Ян Длугаш, які высока цаніў Вітаўта, крытыкаваў яго за тое, што мог кінуць войска ў паходзе ды памчацца да каханкі. А паводле блытанага аповеду Герберштэйна, Васіль I падазраваў Соф'ю ў здрадзе. Падобныя падазрэнні і абвінавачванні не былі чымсьці вынятковым: у шлюбнай нявернасці вінавацілі апошнюю Ягайлаву жонку Соф'ю

## Паразай на Ворксле

называецца разгром войска ВКЛ, а таксама татарскіх, польскіх і ордэнскіх атрадаў войскамі Залатой Арды пад загадам хана Цімур-Кутлуга і беклярбека (кіраўніка дзяржаўнай адміністрацыі) Едыгея 12 жніўня 1399 года. Вайна пачалася з-за таго, што Вітаўт вызваўся дапамагчы хану Тахтамышу, выгнанаму з Залатой Арды, вярнуць уладу. Татары спачатку рабілі выгляд, што згодныя на перамовы, але насамрэч чакалі падмацавання. Амаль усё войска Вітаўта было знішчана, яму самому цудам удалося вырвацца з атачэння з невялікім атрадам.



WIKIMEDIA COMMONS

**Нараджэнне Васіля II.** Мініяцюра з «Ліцавога зводу». Летапіс сведчыць, што роды былі цяжкія.

## Запавет Васіля I

Прычынай працяглай феадальнай вайны ў Вялікім Княстве Маскоўскім пасля смерці Васіля I было тое, што князь адпісаў дзяржаву свайму сыну Васілю ў абыход запавету бацькі, Дзмітрыя Данскога. Той перад смерцю загадаў, каб пасля Васіля I улада перайшла да яго брата, князя Юрыя Дзмітрыевіча. На той момант (памёр Данскі ў 1389 годзе) Васіль яшчэ не быў жанаты і не меў нашчадкаў.



РАСІЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ

**Завяшчанне Васіля I**, якое Вітаўт зацвердзіў у Смаленску ў 1423 годзе, але не зацвердзіў сам Васіль (пакінута месца для яго пячаткі, прывешаная толькі пячатка Вітаўта).

Гальшанскую, якая для Польшчы была яшчэ больш чужой, чым Соф'я Вітаўтаўна для Масквы. Зрэшты, няма звестак, што Васіль I давяраў чуткам: ва ўсіх трох сваіх запаветах ён надзяляў Соф'ю багатымі ўладаннямі.

Сваяцкія сувязі Соф'і заставаліся важным фактарам міжнароднай палітыкі і ў другім дзесяцігоддзі XV стагоддзя, а кантакты з Літвой не перарываліся, нават калі адносіны Вітаўта з Васілём I аказваліся напружанымі. Так, у 1413 годзе падчас чарговага працэсу Польшчы і Літвы з Тэўтонскім ордэнам з-за Жамойці Соф'я заявіла аб сваіх спадчынных правах на Вялікае Княства Літоўскае. А ў канцы таго ж года яна разам з дачкой гасцявала ў бацькі ў Троках, дзе яе заспеў бургундскі рыцар Гільбер дэ Лануа.

Падарожнік не называе імя дачкі; верагодна, гэта была Ганна, заручаная са спадкаемцам візантыйскага пасаду Іаанам Палеалогам, будучым імператарам Іаанам VIII. Яна прыбыла ў Канстанцінопаль толькі ў 1414 годзе, калі імператар Мануіл II адправіўся аб'язджаць рэшткі сваёй імперыі і пакінуў Іаана на імператарскім троне. Дзякуючы гэтаму некаторыя грэчаскія крыніцы называюць яе «імператрыцай». Аднак у 1417-м Ганна памерла ад чумы, так і не дажыўшы да ўзыходу Іаана на пасад. Але і пасля гэтага сувязі Візантыі і з Масквой, і з Літвой захоўваліся: так, праз некалькі гадоў пасля смерці Ганны італьянскі навуковец, падарожнік Крыстафара Буандэльмонці падарыў Вітаўту вялікую пергаментную карту Канстанцінопаля. Іншая дачка Васіля і Соф'і, Анастасія, ▶

у 1417 годзе выйшла замуж за слуцкага князя Алельку Уладзіміравіча — і гэтае вяселле зноў-такі было справай рук Вітаўта. Хоць ён прыходзіўся Анастасіі дзедам, у Вялікім Княстве Літоўскім яна заслужыла мянушку «маскоўка».

Але з усіх дынастычных спраў нашчадкаў Івана Каліты больш за ўсё Вітаўта цікавіла, хто атрымае ў спадчыну маскоўскі сталец: сын Васіля I (і ўнук самога Вітаўта) ці звянігарадскі князь Юрый, брат Васіля I. Іх бацька Дзмітрый Данскі, паміраючы ў 1389-м, завяшчаў Юрыю вялікае княжанне ў выпадку смерці Васіля.

Якраз у канцы другога дзесяцігоддзя XV стагоддзя, неўзабаве пасля нараджэння Васіля Васілевіча, пачалося чарговае збліжэнне Літвы з Масквой. Вітаўта не на жарт устрывожылі ўцёкі яго даўняга саперніка Свідрыгайлы (гл. пра гэтага князя артыкул у № 1/2018 «Нашай гісторыі») са зняволення, дзе той прасядзеў больш за восем гадоў. Надзеі Вітаўта на тое, што мітрапаліт Грыгорый Цамблак падпарадкуе сваёй царкоўнай уладзе ўсю Русь і даможацца уніі з Каталіцкай царквой, не спраўджваліся. У 1420 годзе рымскі кароль Жыгімонт Люксембургскі прысудзіў Жамойць Тэўтонскаму ордэну, і стала ясна, што чарговая вайна з крыжакамі — пытанне часу.

У сваю чаргу, браты Васіля I не гатовыя былі прызнаць сваім уладаром яго малога сына, а здароўе маскоўскага кіраўніка ўсё горшала. Калі ў 1422 годзе яшчэ абмяркоўваліся перспектывы яго з'езду з Вітаўтам, то ў пачатку 1423-га ён ужо не паехаў да цесця ў Смаленск, а адправіў туды Соф'ю з васьмігадовым сынам Васілём. Тым самым паўтаралася сітуацыя 25-гадовай даўніны.

Услед за княгіняй і княжычам да Вітаўта прыбылі мітрапаліт Фоцій і дзяк Аляксей Страмілаў, якія прывезлі літоўскаму гаспадару завяшчанне яго зяця. І Вітаўт зацвердзіў яго, прывесіўшы пячатку. Справа была настолькі важнай для Вітаўта, што дзеля паездкі ў Смаленск ён ахвяраваў сустрэчай з рымскім каралём Жыгімонтам Люксембургскім, паслаўшы на яе сваіх дарадцаў.

### Удава

Васіль I памёр 27 лютага 1425 года — у 53 гады, у разгар вялікай эпідэміі воспы.

Маскоўскі трон атрымаў у спадчыну яго з Соф'яй сын Васіль Васілевіч, але, як і можна было чакаць, аб сваіх прэтэнзіях паспрабаваў заявіць Юрый Дзмітрыевіч. На час прымірыць князёў дапамагло толькі пасрэдніцтва мітрапаліта Фоція і выступленне іншых сваякоў на баку Васіля. Удзел Вітаўта звёўся да кансультацый з ім: сам ён у гэты крытычны для свайго ўнука момант быў заняты зусім не маскоўскімі, а польска-ордэнскімі справамі і акругленнем сваіх уладанняў на Падляшшы. Але вядома, што ў далейшым Соф'я адыгрывала значную ролю ў захаванні маскоўскага пасаду за малым Васілём.

**Замарыць голадам суперніка**

было досыць пашыранай практыкай у палітыцы XV–XVI стагоддзяў. Унук Соф'і Іван III Васілевіч, імкнучыся да аднаасобнай улады, абвінаваціў у здрадзе роднага брата Андрэя і загадаў закаваць у кайданы ў палатах Крамля, а пасля замарыць голадам. Пад канец жыцця Іван III публічна пакаяўся ў гэтым перад сходам царкоўных іерархаў.
Такі ж лёс спасціг і аднаго з унукаў Івана III — Дзмітрыя. Ён быў сынам Івана Маладога, старэйшага сына Івана III ад першага шлюбу, і меў права на княжацкі пасад. Але бацька яго рана памёр, а ў палацавых інтрыгах перавагу здабыла партыя другой жонкі, Соф'і Палеалог. Калі яе сын Васіль III прыйшоў да ўлады, Дзмітрый Унук сканаў у малым пакоі Крамля ў кайданах, замораны ці то голадам, ці то дымам.

## Соф'я і Вітаўт апошні раз бачыліся ў Менску

Вітаўт быў зацікаўлены ва ўкняжанні ўнука яшчэ і таму, што гэта дазваляла яму ажыццявіць свае планы на Русі, не асцерагаючыся процідзеяння Масквы (можна ўспомніць хоць бы даўно задуманы паход на Пскоў летам 1426 года). А ўдава-княгіня была своеасаблівай гарантыяй гэтага. Успомнім, што самастойны і энергічны Юрый быў «пабрацімам» Свідрыгайлы Альгердавіча — даўняга і часам небяспечнага суперніка Вітаўта (магчыма, Юрый і Свідрыгайла былі таксама швагрmunі: ажаніліся з дочкамі смаленскага князя Юрыя Святаславіча). Невядома, як склаўся б лёс Соф'і ў выпадку прыходу Юрыя да ўлады. Той жа Свідрыгайла, стаўшы вялікім князем літоўскім пасля смерці Вітаўта, «замарыў у няцтве», гэта значыць у ганаровым палоне, яго ўдаву Уляну...

Улетку 1427 года Соф'я пабывала ў Вітаўта ў Менску, калі той выправіўся ў свае ўсходнія валоданні — «далёкія рускія землі», дзе яму прысягнулі разанскія і навасільска-адоеўскія князі. Як пісаў крыху пазней сам Вітаўт, Соф'я з сынамі, валоданнямі і падданымі перадалася «пад апеку, кіраванне і абарону» бацькі, а пасля запрашала яго ў Маскву, але ён не паехаў: трэба было спяшацца ў Кіеў, а затым на Валынь і на запланаваную сустрэчу з Ягайлам.

Становішча Соф'і і яе сына ўмацавалася ў наступным годзе, калі памёр яшчэ адзін брат яе мужа, дзмітраўскі князь Пётр. Яго 54-гадоваму брату Юрыю не засталося нічога іншага, як прызнаць сябе «малодшым братам» свайго 13-гадовага пляменніка.

Пасля смерці Вітаўта ў 1430 годзе канфлікт унутры Маскоўскага княства разгарэўся з новай сілай. У 1431 годзе Васіль II і Юрый Дзмітрыевіч адправіліся ў Арду да хана Улуг-Мухамеда. Той выдаў ярлык на вялікае княжанне Васілю, і ў кастрычніку 1432 года ва Уладзіміры ханскі пасол правёў яго інтранізацыю.

## Падмануты дыпламат

Схіліць хана на бок Васіля дапамог дасведчаны дыпламат, маскоўскі баярын Іван Усевалож. У якасці ўзнагароды ён прагнуў выдаць сваю дачку замуж за маладога маскоўскага князя, але атрымаў адмову. Пакрыўджаны Усевалож з'ехаў да князя Юрыя Дзмітрыевіча і ўсё астатняе жыццё інтрыгаваў супраць Масквы. Некаторыя гісторыкі пішуць, што менавіта Соф'я адмовіла баярыну Івану. Дачку сваю ён аддаў замуж за Васіля Касога, сына Дзмітрыя.

## Скандал на вяселлі як нагода для грамадзянскай вайны

Прыкладна тады ж Соф'я абрала свайму сыну нявесту — Марыю, дачку бароўскага князя Яраслава Уладзіміравіча, які некалі жыў у Літве. Вяселле, якое адбылося 8 лютага 1433 года, адзначылася скандалам: на князю Васілю Касым, сыне Юрыя Дзмітрыевіча, адзін з баяраў пазнаў каштоўную рэліквію — залаты пояс, што некалі належаў Дзмітрыю Данскому, а затым дастаўся дачцэ магутнага баярына Івана Дзмітрыевіча Усеваложа, жонцы Васіля Касога. Соф'я загадала зняць пояс з Васіля. Абураны Васіль Касы са сваім братам Дзмітрыем Шамякам пакінулі вяселле і з'ехалі да свайго бацькі ў Галіч. Гэтая абраза паклала пачатак 20-гадовай грамадзянскай вайне ў Маскоўскім княстве.

## Інцыдэнт з поясам

адбыўся на вяселлі Васіля II. Соф'я Вітаўтаўна прылюдна сарвала з князя Васіля Юр'евіча (Касога) залаты пояс. Той пояс нібыта належаў супольнаму дзеду Васіля II і Васіля Касога — Дзмітрыю Данскому і, па логіцы Соф'і, мусіў перайсці да яе сына. Таксама гэта была, відаць, спроба дыскрэдытаваць род, які меў такія самыя правы на маскоўскі пасад, як і яе нашчадкі. Раз'юшаныя Васіль Юр'евіч і яго брат Дзмітрый Шамяка са сваімі людзьмі з'ехалі з вяселля, па дарозе ад злосці разрабаваўшы горад Яраслаўль.

Юрый двойчы браў Маскву пасля бітваў, прайграных Васілём. У першы раз, вясной 1433 года, пераможаны князь разам з маці быў адпраўлены ў Каломну. У другі, у сакавіку 1434 года, сам Васіль збег у Ноўгарад, ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Соф'я зрывае пояс з Васіля Касога на вяселлі свайго сына.** Карл Гун, 1861 год.

## Як Каломна была сталіцай Масковіі

Калі дзядзька Васіля II звянігарадскі князь Юрый Дзмітрыевіч захапіў Маскву, ён выслаў пляменніка ў Каломну. Васіль II кінуў кліч маскоўскім баярам перасяляцца да яго — і адбылася масавая рэлакацыя. Урэшце Юрый вымушаны быў пакінуць абязлюдзелую Маскву.




**Асляпленне Васіля II.**

▶ а жонка і маці апынуліся ў палоне ў Юрыя.

Неўзабаве, аднак, Юрый памёр, і маскоўскі пасад вярнуўся да Васіля II. Толькі ў 1445 годзе, калі той трапіў у палон да татараў, Маскву заняў Дзмітрый Шамяка. Ён прадухіліў уцёкі Соф'і ў Цвер і трымаў яе ў сваіх уладаннях, пакуль Васіль не стаў атрымліваць верх у 1447 годзе.

### Запавет Соф'і

Незадоўга да смерці, перажыўшы аблогу Масквы татарскім «царэвічам» Мазоўшай (Азоў-Шахам) летам 1451 года, Соф'я склала запавет. Да канца жыцця яна рознымі шляхамі назапасіла вялікія валоданні — аж 52 сялы, і большая частка яе маёмасці дасталася любімаму ўнуку Юрыю, які кіраваў абаронай Масквы ад Мазоўшы, а пасля стаў дзмітраўскім князем.

Цікава, што ў тэксце запавету няма даты. Дакладная дата — 2 лістапада 1451 года — змяшчаецца ў прыпісцы пісца, мітрапалічага дзяка Андрэя Ярлыка, напісанай на уйгурскай мове. У сярэдзіне XV стагоддзя

## Васіля II называлі Цёмным

бо ён быў сляпы. Палітычныя праціўнікі схапілі 30-гадовага князя ў Троіца-Сергіевай лаўры, звінавацілі ў тым, што раздае рускія гарады татарам, і асляпілі. Незадоўга перад тым па загадзе самога Васіля быў аслеплены на адно вока яго стрыечны брат і прэтэндэнт на маскоўскі пасад Васіль Юр'евіч (ад таго ён меў мянушку Касы). Васіль II пражыў без зроку яшчэ 15 год, прычым здолеў вярнуць сабе Маскоўскае княства і паспяхова ім кіраваў.

## Соф'я ў Чухламе

Захапіўшы Маскву, Шамяка ўзяў у палон і сваю мала не 80-гадовую цётку Соф'ю Вітаўтаўну. Пасля, уцякаючы, ён вымушаны быў вазіць яе з сабою па сваіх уладаннях: Галіч, Чухлама, Каргапаль. Ён скардзіўся, што людзей і так мала, а яшчэ трэба пільнаваць, каб цётка не ўцякла. Урэшце па просьбе Васіля II Шамяка адпусціў Соф'ю дадому.

маскоўскія дзякі нярэдка пакідалі уйгурскія манаграмы ці нават невялікія прыпіскі на граматах, якія яны рыхтавалі. Літоўскія канцыляры не ведалі нічога падобнага.

Княгіня зацвердзіла завяшчанне, прывесіўшы да яго сваю пячатку. У Вялікім Княстве Маскоўскім у XV стагоддзі часта выкарыстоўваліся пячаткі з антычных гемаў з міфалагічнымі сюжэтамі.

Соф'я памерла ці то 15 чэрвеня, ці то 5 ліпеня 1453 года, прыняўшы пострыг пад імем Сінкліцікія. Яна была пахавана ў саборы Вазнясенскага манастыра ў Маскоўскім крамлі, побач са свякрухай Еўдакіяй Дзмітрыеўнай. Пасля побач з Соф'яй легла яе нявестка Марыя Яраслаўна. Прыкладна праз паўстагоддзя хтосьці «інвентарызаваў» пахаванні вялікіх княгінь і надрапаў на саркафагу: «Соф'я інака». Гэты надпіс — тое нямногае, што дайшло да нашых дзён ад пахавання дачкі Вітаўта.

У 1929 годзе, напярэдадні разбурэння Вазнясенскага манастыра, навукоўцам удалося абследаваць яго і на сваіх плячах перацягнуць саркафагі маскоўскіх княгінь у Архангельскі сабор. Косткі, скураныя туфлі нябожчыцы ды гліняны рытуальны сасуд — вось што пабачылі навукоўцы ў мармуровым саркафагу Соф'і. Аднак яна пакінула па сабе значна больш — не будзе перабольшаннем сказаць, што без яе ўвесь лёс Усходняй Еўропы склаўся б інакш. ◆

Артыкул напісаны пры падтрымцы Расійскага навуковага фонду (РНФ), праект № 19-18-00247 «Двор рускіх княгінь у сістэме ўладных структур Старажытнай Русі і Заходняй Еўропы ў перыяд Сярэднявечча і ранняга Новага часу (XI–XVI ст.)».

### Атручванне Шамякі

Князь Дзмітрый, па мянушцы Шамяка, быў родным братам Васіля Касога і стрыечным — Васіля Цёмнага. Гэта па яго ініцыятыве Васіля II схапілі і асляпілі. Пасля Шамяка кароткі час быў вялікім князем маскоўскім, але не ўтрымаўся і вымушаны быў збегчы ў Ноўгарад, да апазіцыйна настроенага баярства. Летапісы кажуць, што ў 1453 годзе давераны дзяк Васіля II Сцяпан Барадаты наведаў наўгародскага пасадніка Ісака і перадаў таму пэўнае «зелле». Ісак падкупіў кухара Шамякі, па мянушцы Паганка, і той, гатуючы для князя курыцу, падклаў у яе атруту. Магіла Шамякі захавалася ў наўгародскай Сафіі. У 1988 годзе саркафаг адкрылі і пабачылі часткова муміфікаванае цела. Захаваліся нават унутраныя органы, гэта дазволіла выявіць, што ўтрыманне злучэнняў мыш'яку ў нырках у два з паловай разы перавышае норму. Атручванне мыш'яком выклікае ў чалавека моцнае абязводжванне перад смерцю — магчыма, гэтым можна было патлумачыць і наступную муміфікацыю цела. Не дзіва, што ў XVII стагоддзі цела Шамякі, які пры жыцці падпаў пад анафему Праваслаўнай царквы, палічылі нятленнымі мошчамі праваслаўнага святога князя Фёдара Яраславіча, памерлага ў 1233 годзе. «Мошчы» ўшаноўвалі да XX стагоддзя. Вядомы і лёс кухара Паганкі: ён пастрыгся ў манахі, але ў манастырах яго не хацелі прымаць з-за яго мінулага.

### Уйгурыца

У XV стагоддзі дзякі маскоўскіх канцылярый шырока карысталіся уйгурыцай — адной з моў канцылярый Чынгізідаў. Спецыфічным уйгурскім пісьмом, але ўжо на мове цюркі (татарскай), быў напісаны ярлык хана Тахтамыша каралю Ягайлу 1393 года.

### Выкраданне Арыфіі

На пячатцы Соф'і быў выразаны Барэй — старажытнагрэчаскі бог паўночнага ветру ў выглядзе барадатага мужчыны з крыламі, які выкрадае Арыфію, дачку афінскага цара Эрэхтэя, каб панесці яе на далёкую Поўнач.

## Лёс Кур’яноў

Піша вам чытач «Нашай гісторыі» з самага першага яго нумара, нашчадак таго самага Макара Кур’яна, пра якога ішла гаворка ў артыкуле Дзмітрыя Кішкілевіча «Трагедыя пад Навагрудкам» у № 11/2020 «Нашай гісторыі».

Мая бабуля — яго ўнучка. Далей буду пісаць з яе слоў. Макар з Іванам стапрацэнтна вярнуліся на радзіму. Мая бабуля нарадзілася ў 1933 годзе, таму пра забойства чула толькі са слоў уласнага бацькі. Макар быў настолькі жорсткі, што з шасці ягоных сыноў пяцёра раз’ехаліся па ўсім свеце, ад Ленінграда да Бразіліі, абы далей ад бацькі, з якім застаўся толькі Іван. Бабулін тата Аляксандр разам з іншым братам з’ехаў у Пецярбург да Кастрычніцкай рэвалюцыі і стаў адным з першых кіроўцаў у Расійскай імперыі, калі не лічыць арыстакратаў і прамыслоўцаў, што кіравалі аўтамабілямі асабіста.

Пасля рэвалюцыі яго мабілізавалі ў Чырвоную армію і прымусілі вазіць камісараў, што яму вельмі не падабалася. У час грамадзянскай вайны мой прадзед патрапіў у шпіталь, дзе дактары таксама не любілі новую ўладу і прапанавалі прадзеду дакумент, што ён не можа кіраваць аўтамабілем. Аляксандр вырашыў, што яго бацька не горшы за чырвонаармейцаў, згадзіўся, звольніўся і з узнагародамі вярнуўся на радзіму.

На той момант Макар і Іван ужо былі там, казалі, што іх за забойства апраўдаў суд. Пад польскай уладай Макар быў сябрам Таварыства беларускай школы, абіраўся кудысьці дэпутатам. Іван брата не любіў і хацеў пазбавіць паловы спадчыны, але суд пастанавіў дзяліць пароўну. Іван памёр у 60–69 гадоў на радзіме. Вось і ўсё, што мая бабуля можа сказаць пра імаверных колішніх забойцаў.

**З пашанай, Зміцер Перлаў**



**Ад Рэдакцыі**

На старонцы 86 № 11/2020 «Нашай гісторыі» ў артыкуле Вольгі Івановай «Ірачка, захавай толькі жыццё, гэта ж не вечна» на групавым фотаздымку была памылкова пазначана гераіня артыкула. Выпраўляем памылку і размяшчаем тут здымак з правільна ідэнтыфікаванай Ірынай Волкавай.

## Дзяцінства за польскім часам

Добры дзень! Хачу падзяліцца ўспамінамі маёй маці і яе сястры, цёткі Насты, пра тое, як яны жылі «за польскім часам» у вёсцы Жадзены Пружанскага раёна.

У той час дзецям жылося не салодка, з малых гадоў ім даводзілася



**Жадзенскія школьнікі.** Пачатак 1930-х гадоў.

працаваць: палоць, пасвіць кароў, авечак, свіней, даглядаць каня, хадзіць у лес па дровы і галлё. Але бывала і весела: зімой каталіся з горкі на кажушках ці на санках, летам гулялі ў каменьчыкі, бегалі наперагонкі (мама заўжды была першая), вясной высаджвалі кветкі ў гародчыках і хваліліся, у каго лепшы кветнік. Кветкамі займаліся толькі дзеці. Вырошчвалі настурцыі, нёгцікі (календулу), ружычкі.

З пяці гадоў мама разам з Настай палола проса. Палоскі былі даўгія і вузкія, заўсёды спрачаліся, з якога боку палоць, з левага ці правага. З левага боку было палоць зручней: можна было абаперціся на локаць і менш напружвацца.

У польскай школе мама правучылася толькі два гады. У школе быў вельмі строгі настаўнік, «кіроўнік», які біў дзяцей лінейкай па далонях, калі яны гарэзілі (асабліва хлопчыкаў). Даставалася і мамінаму брату Мішу. Калі ішлі са школы, каб хлопчыкі не білі і не забіралі сшыткі, маці і іншым дзяўчынкам трэба было хутка ўцякаць. Калі нехта псаваў паветра падчас урока, настаўнік пытаўся: «Кто зэпсуў поветшэ?» — дзеці смяяліся і паказвалі на вінаватага.

Адзін з яскравых успамінаў дзяцінства — гэта пах «памяранцаў» на Каляды. Настаўнік пасля святочнага застолля выносіў з дому смецце, сярод якога звычайна было шмат апельсінавых скурак. Дзеці іх любілі збіраць і нюхаць, каб хаця б па паху ўявіць смак гэтага фрукта.

У школу хадзілі па чарзе. Пасля школы трэба было падмяняць пастушку. Калі мама пасвіла кароў з іншымі дзецьмі, то заўсёды лічыла гадзіны па сонцы да прыходу зменшчыцы, часцей за ўсё — сястры Мані. Баба Луца (Лукер'я) давала пастушкам бутэльку малака і праснак з «бульвы» (бульбы). Самае цяжкае было ўставаць і гнаць кароў «на ранкі»: халодная раса, босыя ногі.

Калі «пры панах» хадзілі ў лес па ягады, то рабілі гэта патаемна, бо лес быў панскі і ляснічы заўсёды праганяў, высыпаў ягады. Таму хадзілі заўсёды ціха, не размаўлялі і на кароткі час. А калі праязджаў пан з Варшавы — Віславух, то дзеці любілі бегаць за машынай і нюхаць пах бензіну. Дарэчы, на вёсцы была прымаўка: «Што ты скрывіўся (незадаволены), як пані Віславухша?»

Мама з дзяцінства любіла хадзіць у царкву. Як толькі бачыла, што баба збіраецца ісці, заўсёды прасілася з ёю і плакала, калі тая не брала. Бабе даводзілася вяртацца, мыць і пераапранаць маму, каб ісці з ёй у царкву.

Калі бабуля ішла ў горад, каб прадаць яйкі і малако, дзецям загадвалі нікому не казаць, што дома няма дарослых, калі прыйдуць «мытары». Усе выручаныя ад прададзенага грошы ішлі ці на падаткі, ці на куплю зямлі. Самае цікавае, што грошы (сапраўдныя залатыя) баба мяняла на папяровыя ў банку, бо іх было лягчэй насіць у кішэні каптана. А калі пачалася ў 1939 годзе вайна, то аказалася, што банка ўжо няма і грошы тыя нічога не вартыя. Потым з гэтымі паперкамі дома гулялі дзеці.

**Алена Соніна, Пружаны**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Берешты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён.

Адынец, Антоні Эдвард. **Успаміны пра мінулае**. — Мінск : Лімарыус, 2020. — 360 с. — (Бібліятэка «Наша XIX стагоддзе»).

У кнізе ўспамінаў вядомага паэта Антонія Эдварда Адынца (1804–1885), ураджэнца Беларусі, чытач знойдзе яскравыя малюнкі жыцця беларускай шляхты пачатку XIX стагоддзя, цікавыя факты з гісторыі таемных студэнцкіх таварыстваў Віленскага ўніверсітэта, узнёслыя расповеды пра жыццё віленскіх і варшаўскіх літаратараў. Успаміны «апошняга філарэта», аднаго з блізкіх сяброў Адама Міцкевіча ўпершыню перакладзеныя на беларускую мову і суправаджаюцца грунтоўнымі каментарамі.

Аўтар прадмовы да мемуараў Аляксандр Фядута так акрэслівае іх значнасць:

«Гэтая кніга ўспамінаў цікавая перадусім дзвюма акалічнасцямі. Мемуары Адынца — адна з найбольш яркіх у літаратурным плане крыніц пра жыццё беларускага правінцыйнага дваранства ў першай траціне XIX стагоддзя. Адчуваецца, што з часавай дыстанцыі для аўтара асаблівую каштоўнасць набываюць успаміны пра тых, хто атачаў яго ў дзяцінстве, — адсюль адчуванне адметнай густанаселенасці тэксту. Шматлікія сваякі, сябры дзяцінства паэта ўсплываюць у яго памяці — і застаюцца захаванымі на старонках кнігі...

Другая каштоўнасць заключаецца ў тым, што Адынец досыць падрабязна і аб'ектыўна малюе падзеі, звязаныя з гісторыяй таемных студэнцкіх гурткоў у Вільні. Фактычна «Успаміны...» — адна з галоўных крыніц звестак пра гэтую гісторыю, не звязаных непасрэдна з дакументамі следства».




Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў інтэрнэт-кнігарні **kniganosha.by**.




**Касцы**, вёска Ізбудзішча, Слуцкі раён.

# Трава нашых дзядоў

«На дальней станции сойду,
Трава — по пояс,
Зайду в траву, как в море, босиком…»

Гэтая песня кампазітара Уладзіміра Шаінскага на словы Міхаіла Таніча стала вядомая і папулярная на ўвесь Савецкі Саюз у 1976 годзе, пасля таго, як прагучала ў знятым рэжысёрам Ігарам Дабралюбавым на кінастудыі «Беларусьфільм» дзіцячым фільме «По секрету всему свету». Яна ўся прасякнутая вясковай рамантыкай, супрацьпастаўленай «шуму гарадскому». Але ў ёй як для таго часу і на беларускія ўмовы не ўсё рэалістычна — перадусім тая славутая «трава па пояс», у якую можна нібыта заходзіць як у мора...

На самай справе нічыйную траву па пояс, якую можна было б беспакарана таптаць, у беларускай вёсцы таго часу знайсці было не так проста. За кожным травяным лапікам раўніва сачылі нечыя вочы, бо перад кожным гаспадаром і гаспадыняй стаяла задача неяк пракарміць зімой уласную кароўку, накасіць на яе сена. Зайдзі ў траву — зараз жа прыбягуць гаспадары сварыцца, што топчаш. Разлічваць даводзілася толькі на сябе, бо на надта ўжо вялікае спрыянне дзяржавы спадзявацца не даводзілася. Наадварот, яна толькі ставіла палкі ў колы рознымі абмежаваннямі.

## Выкручвайцеся самі

Пачалося гэта з часоў калектывізацыі на мяжы 1920-х і 1930-х гадоў. Праведзеная надзвычай жорсткімі і бескампраміснымі метадамі, яна прадугледжвала абагульненне ўсіх сельгасугоддзяў, апрача хіба толькі агародаў і садоў, што знаходзіліся пры сядзібах. Ды і тых памер

абмяжоўваўся і фармальна, паводле калгаснага Статута 1935 года, не мог перавышаць паўгектара (уключаючы зямлю, на якой месціліся будынкі), а на практыцы звычайна складаў у тыя часы нашмат менш. Такім чынам, асноўная маса зямлі пераходзіла ў калектыўную ўласнасць, а фактычна рабілася дзяржаўнай.

Безумоўнаму абагульненню падлягалі таксама ўсялякія сродкі вытворчасці, у тым ліку і цяглавая жывёла. Коней у асабістай гаспадарцы калгаснікам было забаронена трымаць амаль да самага канца існавання камуністычнага рэжыму, і гэта правіла вытрымлівалася цвёрда. Забарона была знятая толькі ў 1988 годзе. А вось што тычылася іншай жывёлы, у тым ліку і кароў, то адносна іх была не забарона, а абмежаванні.

Ад пачатку бальшавікі, задумваючы калектывізацыю, з імпэтам імкнуліся абагульняць усё што можна, не пакідаючы ў індывідуальных гаспадарках фактычна нічога. Але вельмі хутка выявілася, што з такім падыходам, пры толькі сімвалічнай плаце за працу ў калгасах, калгаснікі неўзабаве проста паўміраюць з голаду. Таму ім было дазволена мець уласную карову, але толькі адну на сям'ю. А дзе калгаснікі накосяць на карміліцу сена пры абагульненні ўсіх палёў і лугоў, галава начальнікам не надта балела — выкручвайцеся самі. І выкручваліся як маглі: касілі на любых няўдобіцах, у лясах, на балотах, сушылі зелле з агарода і г. д. Але ўсё адно было складана, тым больш што за тую сваю кароўку, як і за ўсё іншае, уключаючы яблыні ў садзе і нават курэй, яшчэ даводзілася плаціць дзяржаве немалы падатак, асабліва ў першае дзесяцігоддзе пасля вайны. Не ўсе гэта вытрымлівалі і самі зводзілі ўсю гаспадарку да мінімуму, седзячы на нішчымніцы.

### «Ай, спасибо Маленкову...»

Калгасная сістэма, праўда, не была ўвесь час аднолькавая. У найбольш нялюдскай форме, калі калгаснікі былі фактычна прыгоннымі без аніякіх правоў, але з процьмай абавязкаў, яна існавала да смерці Сталіна ў 1953 годзе. Пасля ж ягоныя пераемнікі зразумелі, што далей так працягвацца не можа і каб вёска канчаткова не памерла і не разбеглася па гарадах, патрэбна прынамсі частковая лібералізацыя. Ужо праз некалькі месяцаў пасля смерці дыктатара, у жніўні 1953-га, з падачы новага кіраўніка дзяржавы, старшыні Савета Міністраў СССР Георгія Малянкова, на вёсцы быў больш чым у два разы зменшаны падатковы цяжар, а памер прысядзібных участкаў павялічаны аж у 5 разоў. Савецкі народ успрыняў гэта з энтузіязмам і адгукнуўся ўдзячнай прыпеўкай:
*«Ай, спасибо Маленкову —*
*разрешил держать корову.*
*А Сталину — в гробу лежать:*
*не давал козу держать».*

Палепшаныя былі і ўмовы працы ў калгасах. Дзяржава ўпершыню задумалася, каб ад калгаснікаў не толькі браць, але нешта ім за іхную працу і даваць. Павялічыўся памер выплат за працадні, пачала пашырацца і ўзмацняцца сацыяльная інфраструктура на вёсцы. Але ўсё адно без асабістай гаспадаркі калгаснікам выжыць было цяжка. Тым не менш з прыходам да ўлады Мікіты Хрушчова з ягоным валюнтарызмам і россыпам непрадуманых ідэй, якія паводле першаснай задумы мусілі прывесці грамадства да росквіту і хуткай перамогі камунізму, а на справе часта руйнавалі нават тое, што ўжо было, супраць гэтых гаспадарак пачалася арганізаваная ідэалагічная кампанія.

## Сімвалам «прыватнаўласніцкіх інстынктаў» у Макаёнка выступае карова, якую гаспадар адмаўляецца здаць на калгасную ферму

Кампанія тая адлюстравалася ў шэрагу твораў беларускай літаратуры, адзін з самых вядомых і знакавых з якіх — напісаная ў 1961 годзе п'еса Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Яе галоўны герой — працавіты і гаспадарлівы селянін Лявон Чмых, які ўсю сваю працоўную энергію аддае ўласнай гаспадарцы, у выніку чаго мае «дом... харошы, пад цынкам, двор дагледжаны, хлеў пад шыферам, свой садок, восем сямей пчол, прысядзібны ўчастак паўгектара». У калгасе ж ён адпрацоўвае толькі прадпісаны законам абавязковы мінімум працадзён. За гэта «адмоўнага» героя Лявона цягам усёй п'есы дзяўбуць у хвост і ў грыву ўсе героі «станоўчыя»: пачынаючы ад сакратара абкама партыі і канчаючы ўласнай жонкай. Бо, як выказаўся пра Лявона старшыня мясцовага калгаса Буйкевіч, «мужык ты гаспадарлівы, кемлівы... Рукі ў цябе... таксама з мазалямі. Толькі мазалі тыя ты нажыў... на сваім агародзе, у сваім садку. ▸

Не на калгаснай ферме, полі». Гэта падаецца як страшны грэх і прыкмета ідэйнай адсталасці, бо ёсць перашкодай да камунізму, які мае быць пабудаваны ўжо праз 20 гадоў.

У тым жа 1961 годзе была напісана менш вядомая п'еса — «Над хвалямі Серабранкі» Івана Козела. Яе аўтар — выхадзец з Заходняй Беларусі, куды калгасы прыйшлі толькі за дзясятак гадоў да таго, але сюжэт падобны да макаёнкаўскага. Тут апантаны развіццём і пашырэннем уласнай гаспадаркі ўжо не просты калгаснік, а калгасны бухгалтар Федзя Жыгліцкі. І ён таксама ўступае ў суцэльны светапоглядны канфлікт літаральна з усімі сваякамі і суседзямі, уключаючы ўласную жонку. Адзіны чалавек, які Федзю цалкам падтрымлівае, — родная маці, «чалавек стары, аджыўшы». Іншым жа «лепш у калгас выйсці часцей ды зарабіць болей. Там, у грамадзе, і работа відаць твая нечага».

Сімвалам нібыта разбуральных «прыватнаўласніцкіх інстынктаў» у абодвух выпадках выступаюць уласныя каровы, якіх гаспадары, нягледзячы на ціск з усіх бакоў, катэгарычна адмаўляюцца здаваць на калгасную ферму. Як тлумачыў падчас застольнай дыскусіі Лявон Чмых: «Карова — гэта мая свабода, мая эканамічная незалежнасць. Гэта — мой бастыён, мой дот!» У якім, як іранічна заўважаюць апаненты, ён збіраецца бараніцца ад камунізму.

На самай справе, аднак, такія творы былі толькі прапагандай, далёкай ад рэчаіснасці. Хоць і эканамічнае становішча калгасаў, і ўзровень жыцця ў калгаснай вёсцы пасля смерці Сталіна сапраўды даволі істотна палепшалі — не дзякуючы надта мудрай палітыцы партыі, а галоўным чынам таму, што падымацца даводзілася з глыбокага дна, — усё ж такі тая вёска, у якой можна было заможна і выгодна жыць, працуючы толькі ў калгасе і збыўшы ўсю ўласную гаспадарку, існавала як масавая з'ява толькі ва ўяўленнях і дэкларацыях ідэолагаў, а не ў рэальнасці. Можна было заяўляць, як гэта рабілася на пленуме ЦК КПСС у 1958 годзе, што «з ростам грамадскай гаспадаркі калгасаў асабістая гаспадарка калгаснікаў будзе паступова страчваць сваё значэнне. Калгаснікам стане зручней атрымліваць прадукты з калгаса, чым траціць сваю працу на іх вытворчасць у асабістай гаспадарцы». Але на практыцы гэта была манілаўшчына.

**Часы брэжнеўскага застою былі перыядам, калі строгасць законаў кампенсавалася неабавязковасцю іх выканання**

### Перамога камунізму адкладаецца

Калгасная форма сельгасвытворчасці, нягледзячы на ўсе перавагі і льготы, якія ёй даваліся дзяржавай, была настолькі эканамічна неэфектыўнай, што не магла паўнавартасна пракарміць і горад, не тое што ўзяць на сябе і вяскоўцаў, якія тады яшчэ складалі большасць насельніцтва. Якраз наадварот: дробныя прысядзібныя гаспадаркі вяскоўцаў былі калгасам істотнай падмогай, бо толькі закупкі лішкаў прадукцыі з іх дазвалялі выконваць планы і хоць бы так-сяк забяспечваць грамадскія патрэбы. У тым ліку і ў малочных прадуктах.

Таму пасля адхілення ад улады Хрушчова і фактычнага адкладання канчатковай перамогі камунізму на няпэўны тэрмін гаворкі пра актыўнае змаганне з асабістымі гаспадаркамі калгаснікаў ужо не вялося. Праўда, не давалі ім і зялёнай вуліцы: захоўваліся абмежаванні і на колькасць зямлі, і на колькасць жывёлы. Паводле калгаснага Статута, прынятага 28 лістапада 1969 года, «сям'я калгасніка (калгасны двор) можа мець адну карову з прыплодам да аднаго года і адну галаву маладняку буйной рагатай жывёлы да 2-гадовага ўзросту, адну свінаматку з прыплодам да 3-месячнага ўзросту ці дзвюх свіней на адкорме, да 10 авечак і коз разам, пчоласем'і, птушку і трусоў». Прысядзібны ўчастак па-ранейшаму не мог перавышаць паўгектара.

Зрэшты, часы брэжнеўскага застою былі акурат характэрным прыкладам таго перыяду, калі строгасць законаў кампенсавалася неабавязковасцю іх выканання. На перавышэнне калгаснікамі вызначаных нормаў, калі гэта было «ў межах разумнага», а сам калгаснік не канфліктаваў з начальствам, глядзелі тады ўжо звычайна праз пальцы. І не была рэдкасцю сітуацыя, калі сям'я трымала і па дзве каровы, тым больш калі частка малака ад іх здавалася ў калгасную малачарню.

### Два калгасу, трэці сабе

Іншая справа, што накасіць у патрэбнай колькасці сена не толькі на дзве, але і на адну карову было не так проста. Амаль усе ворныя землі і сенажаці



ФОТА РАМАНА ХАЦЯПОВІЧА

**Воз сена.** Вёска Мосар, Глыбоцкі раён. 1974 год.

па-ранейшаму належалі калгасу, а на сваіх максімум паўгектарах, ці нават і крыху больш, якія ўключалі ў тым ліку плошчу двароў і будынкаў, калгасніку хоць бы патрэбную агародніну вырасціць. Праўда, паводле таго ж калгаснага Статута, «праўленне калгаса аказвае калгаснікам дапамогу ў завядзенні жывёлы, зоаветэрынарным абслугоўванні, а таксама забеспячэнні жывёлы кармамі і пашамі». І аказвала сапраўды, толькі што звычайна на кабальных умовах.

Калгасы не выдзялялі калгаснікам участкаў сенажаці за так, а абстаўлялі гэтую «ласку» пэўнымі ўмовамі. Як правіла, калгаснікі выконвалі на карысць калгаса нейкую працу. Скажам, бралі дзялку буракоў ці нейкай іншай культуры, на якой мусілі рабіць увесь гадавы цыкл работ з вясны да восені: некалькі прапалак, прарыванне, церабленне і здача ў калгас гатовай прадукцыі. Праца цяжкая і нудная, але за апрацаваную сотку тых жа буракоў можна было атрымаць сотку сенажаці. Дадаткова магло нешта перападаць і за здадзенае ў калгас малако і прададзеных туды ж цялят.

Магла калгасная сенажаць касіцца «на часць». Сям'я атрымлівала ўчастак травы, які мусіла ўласнымі сіламі скасіць і высушыць. І тады, у залежнасці ад дамоўленасці, нейкую — вядома, меншую — частку забірала сабе, а большую здавала ў калгас. Калі, напрыклад, дамоўленасць была на траціну, то для таго, каб забяспечыць сенам адну сваю кароўку, людзі мусілі накасіць на тры. Як жартавалі, два разы махаем касой калгасу, а трэці — сабе. У кожным разе сена, здабытае ад гешэфтаў з калгасам, атрымлівалася вельмі «трудавое».

### «Што ты сівец косіш?»

Але толькі такім чынам нарыхтаваць сваёй карове сена на зіму звычайна не ўдавалася. Нават калі ты сяміжыльны і можаш фізічна перарабіць гэтулькі лішняй работы, то столькі калгаснай сенажаці табе проста не дадуць — за яе таксама канкурэнцыя, а колькасць абмежаваная. Рэшту трэба дабраць недзе ў іншых месцах.

**Дзесяцігоддзямі ставячы калгаснікаў на мяжу фізічнага выжывання, сістэма сама прывучыла іх да крадзяжоў**

Найчасцей тут прыходзілі на выручку нейкія ўтравелыя мясціны, якія месціліся дзесьці непадалёк ад вёскі, але не належалі калгасу. Лясы, балоты, меліярацыйныя канавы — што ў якой мясцовасці ёсць. Часта ▶

яны мелі нейкага фармальнага гаспадара ці наглядчыка, за іх адказнага, тады даводзілася дамаўляцца з ім, плаціць грошы ці ладзіць пачастунак — а часам і тое, і другое. Ляснік ласкава дазволіць выкасіць нейкую паляну ў сваім абходзе, меліяратар — абкасіць замест яго самога канаву. Трава ў такіх месцах бывае зусім не найлепшай якасці, але на гэта не надта зважаюць — абы карова хоць неахвотна, ды ела. Як у той згаданай п'есе «Над хвалямі Серабранкі»: «Што ты сівец гэты косіш, Федзя? Хіба ад яго малака дадуць каровы? — Трэба ж прахаваць чым дзве штукі зіму цэлую».

А п'еса «Лявоніха на арбіце» пачынаецца з карціны, як да калгасных стагоў на ўскраіне вёскі ноччу падбіраецца гаспадарлівы Лявон Чмых і з захаваннем усіх правіл перасцярогі спрабуе наскубці з іх посцілку сена. Што ж, для калгаснай вёскі гэта таксама будзённая з'ява. Гадамі і дзесяцігоддзямі ставячы калгаснікаў на мяжу фізічнага выжывання, шмат ад іх патрабуючы і мала што даючы ім

**Калі перасталі трымаць кароў, пачала мяняцца расліннасць.** Раней усе палянкі і далінкі выкошваліся і выпасваліся, цяпер яны зарастаюць хмызам, а месцамі і інвазіўнымі раслінамі. **Магчыма, з гэтым звязанае і масавае распаўсюджванне кляшчоў.** Яшчэ 25 гадоў назад спрыяльных для іх нявыкашаных і нявыскубаных скацінай лугавін, абочын і ўзлескаў было не знайсці.

узамен, сістэма сама прывучыла іх і нават заахвоціла да крадзяжоў у сябе. Спрычыніўшыся да фармавання своеасаблівай псіхалогіі: крадзеж у калгасе — гэта не зусім і крадзеж, гэта калі ў людзей — то крадзеш, а ў калгасе проста бярэш, яно «нічыё». Асабліва калі ў цябе праца такая, што ты да таго калгаснага сена ці сырой травы маеш непасрэднае дачыненне: возіш іх, напрыклад, ці вартуеш. Як правіла, старшыні, брыгадзіры ды іншыя калгасныя начальнікі на такое збольшага і заплюшчвалі вочы, нават калі і заўважалі. Калі, вядома, хтосьці ў крадзяжах з калгаса яўна не перабіраў меру і не рабіўся надта нахабным. Хоць можна было, вядома, і проста трапіць пад гарачую руку.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Пастановачнае фота: артысты прыехалі да калгаснікаў, падтрымаць іх музыкай. **Парадная рэальнасць хавала непарадныя будні.**

**Трава па пояс «на дальняй станцыі» была ў часы Брэжнева рэчаіснасцю толькі ў расійскім Нечарназем'і, дзе «раскрестьянивание» адбылося раней**

Ну і, вядома, усё лета ды восень няспынна шалясцелі косы на розных узмежках, пожнях, лянішчах, узбочынах дарог, чыгуначных насыпах, берагах вадаёмаў — ды практычна ўсюды, дзе вырасла хоць якая травіна. Трава па пояс пры сыходзе на далёкіх станцыях была ў часы Брэжнева рэчаіснасцю толькі ў расійскім Нечарназем'і, дзе «раскрестьянивание» адбылося раней, а ў Беларусі яна стала штодзённай рэчаіснасцю толькі ў XXI стагоддзі, калі традыцыйная беларуская вёска састарэла ды дэпапулізавалася. І калі развіццё тэхналогій ды павышэнне агульнага ўзроўню агракультуры зрабіла магчымым нават пры захаванні не надта эканамічна эфектыўнай квазікалгаснай сістэмы ў сельскай гаспадарцы цалкам забяспечваць спажывецкія патрэбы ў тым ліку і вясковага насельніцтва без жыццёвай неабходнасці трымаць уласную карову. ◆

Аляксандр Пашкевіч

ФОТА АНАТОЛЯ КЛЕШЧУКА

# СЕНАВАННЕ

**Цяпер мала якая вясковая сям'я трымае карову. Цяжка, не надта выгадна, а купіць малако і масла не праблема. Дзеці не могуць сабе ўявіць, што да канца мінулага стагоддзя, акрамя буйных калгасных статкаў, пры кожнай вёсцы хадзілі людскія. І кожнаму гаспадару штогод трэба было накасіць сена. Пра галоўную летнюю працу свайго дзяцінства ўспамінае журналіст з Гродна Яўген Лебедзь.**

У 1997-м мне было 10 гадоў.

Наша вёска Руда Яварская на Дзятлаўшчыне вядомая з XVIII стагодзя, калі Радзівілы пачалі дабываць тут балотную руду.

Яшчэ 25 гадоў таму яна была дастаткова вялікай, пад 200 двароў. І амаль у кожным двары трымалі карову.

### Барацьба за сена

Накасіць сена на зіму было пры такой канкурэнцыі няпроста. Вяскоўцы абкошвалі літаральна кожны лапік, і за іх суседзі часам маглі пасварыцца так, што гадамі міжсобку не размаўлялі. Хоць некаторыя фармальна нічыйныя зручныя для сенакосу мясціны былі нефармальна занятыя асобнымі гаспадарамі сілай традыцыі. Усе ведалі, што тут заўсёды косіць той або іншы, а таму і не прыладжваліся, нават калі і паглядалі з зайздрасцю.

Мой дзед Пятро, ці Пецік, як звалі яго аднавяскоўцы, усё жыццё працаваў у лесе, таму заняў сабе палянку ў Ліпічанскай пушчы, якая акружала вёску. Тое месца ля лясной рачулкі называлі Скупа, бо сена яно давала няшмат. Але дзед выкручваўся і касіў яго па тры разы за сезон: з траўня і па першыя маразы. Гэтая палянка захавалася і да сёння, нават слупы яшчэ стаяць, якімі мы гарадзілі дзялку, каб дзікі лычамі не варочалі глебу.

## Разам з сенам на воз часам падавалі і змей

Яшчэ адзін лясны сенакос дзед меў у суседняй вёсцы Капці. «Камандзіроўка» туды была самай цяжкай, бо ў гэтым лесе не было куды дзецца ад аваднёў, камароў і мух. А пад валкамі травы ці сена хаваліся вужакі і жабы. ▸

Цяжэй за ўсіх на гэтым пушчанскім сенакосе прыходзілася стрыманай кабылцы Гнедзе. Ад заедзі яе не ратавала нават посцілка. Таму звычайна я трымаў кабылу за аброць і ганяў мух, пакуль бацька з дзедам складалі воз.

Воз клаў бацька — лепш за яго гэта ніхто не рабіў, — а дзед падаваў яму траву віламі. Часам з травой трапляліся і вужы. «Што ты мне тут падаеш... змеі на воз падаюць», — бурчаў бацька. «Якія там табе вужакі, я нічога не бачу», — казаў дзед у адказ.

З лясной сенажаці ў Капцях звычайна везлі сырую траву, а сушылі на сонечнай палянцы на ўскрайку лесу, за пяць хвілін ад хаты. Далёка па лясных сцежках надта не наездзішся, а тут можна было прыбегчы адразу, калі на вёску надыходзіла хмара. Прагнозам надвор'я з «радзіва» не надта верылі, нават калі там казалі, што «па захадзе без ападкаў». «Халера яго ведае, дзе той захад», — казала баба, пераварочваючы аладкі ў печы.

### Скасіць і высушыць

Акрамя лясных палян, за тое, што старыя палолі калгасныя буракі і здавалі ў калгас малако, у жніўні ім, як і іншым аднавяскоўцам, давалі кавалак сенажаці з калгаса. Узяў 20 сотак буракоў — атрымай такога ж памеру дзялку травы. На працягу двух тыдняў на прасторы паміж ровам і крыштальна чыстай Пад'яваркай збіралася ўся вёска, а па дарозе адтуль да вёскі паўзлі караваны вазоў з сенам. Для дзяцей цэлы дзень сушыць там сена было вялікай асалодай: камароў няма, у рэчцы ловяцца яльцы і ракі, а як дадатковы бонус — торба са смачным абедам ад бабы. Ваду з сабой не бралі: пілі з рэчкі.

Дзед наш не вучыў унукаў правільна касіць. Не давяраў, бо было не да забавы. Затое сам галіў траву так, што пальцамі не зачэпіш. Ідзеш па кошаным нібы па калючай коўдры. І рыхтаваўся ён да касьбы як след: садзіўся на калодку і гадзінамі кляпаў касу, а мы падносілі яму халодную ваду, каб змачыць малаток.

Калі дзед разам з іншымі мужыкамі збіраўся касіць сенажаць, атрыманую за буракі ў калгасе, баба Маня звечара рыхтавала старому чыстую белую кашулю, а мы пампавалі колы на «Бусле»-ровары — да сенажаці пад тры кіламетры. Дзед выпраўляўся на касьбу вельмі рана, пакуль росна і не спякотна, як толькі выганялі ў поле кароў.

## Каб каса была як брытва, дзед кляпаў яе гадзінамі, а мы падносілі яму халодную ваду, каб змачыць малаток

Перад тым, як пачаць працаваць, мужыкі вызначалі межы кожнай дзялкі. Адзін касец нерухома стаяў на адным канцы сенажаці каля загадзя пастаўленай брыгадзірам тычкі, а другі ішоў па траве ад такой жа тычкі з іншага боку роўна яму насустрач. Пратаптаная такім чынам сцежка і была мяжой паміж суседзямі, і не дай бог было за яе залезці.

Праз пару гадзін баба будзіла і мяне, каб ехаў да дзеда разбіваць пракосы. На сенажаці, колькі хапала вачэй — касцы ў белых кашулях, нібы тыя буслы ў траве. Ад дарогі да рэчкі ідзе свежы духмяны пракос. Бярэш граблі, пераварочваеш іх і грабільнам* пачынаеш раскідаць пракос у розныя бакі як мага танчэй, каб трава лепш высыхала.

**Пад'яваркa** — правы прыток Шчары ў Дзятлаўскім раёне. Рэкі тут чыстыя, бо цякуць сярод пясчаных бароў. Пад'яваркa — адна з тых рэдкіх рэчак Беларусі, дзе яшчэ вядзецца стронга. А ў Шчары жывуць занесеныя ў Чырвоную кнігу рыбец (сырць, цырта) і вусач (мірон, келб).

На наступны дзень пры добрым надвор'і сенца падсыхала. У абед яго звычайна варочалі на другі бок, а ўвечары складалі ў копкі. Наступнай раніцай копкі разбівалі віламі і зноў сушылі. А калі сена было ўжо сухое, яго зграбалі ў валок. Аднак пры добрым надвор'і дзед ніколі не спяшаўся звозіць сена, даваў яму «дайсці». Хоць унуку і не цярпелася:

— Дзед, сухое ўжо!

— Га?

— Сухое, кажу, аж трашчыць. — Сонца паціху садзілася, трэба было давезці сена дахаты, схаваць у гумно і паспець у клуб на танцы, а дзед тут усё тупае...

Нарэшце, воз такі складалі, абвязвалі сена вяроўкай, а зверху прыціскалі жэрдкай, якую называлі *рубель***. На надворку воз спынялі, скідалі сена і падавалі яго ў гумно. Трэба было лезці на сена і таптаць яго — запіхваць пад страху або пад бярвенне сценаў або ўціскаць нагамі, каб добра ляжала і не займала шмат месца.

З году ў год падчас складання сена ў гумне развіваецца

* **Грабíльна** (яно, ніякага роду) — дзяржальна, рукаятка грабляў. **Касíльна**, **кассё** — дзяржальна касы.

** **Рубéль** — тоўстая жэрдка, якой уціскаюць на возе сена, снапы, салому.







своеасаблівая кар'ера. Самых малых адпраўлялі таптаць сена, крыху большых — скідаць з воза, а самых дужых — падаваць сена на вышкі віламі. Паціху, убіраючыся ў сілу, прайшоў усе гэтыя стадыі і я.

У гумне горача, ад пылу цяжка дыхаць, хацелася як мага хутчэй злезці і бухнуць у крынічную Пад'яварку. Цяжка было трываць і бабе Мані, якая прымала сена ў гумне.

— Пецік, ну, шмат там яшчэ?

— Зараз злезеш, у драбінах ужо засталося, — аптымістычна адказваў дзед, хоць на самай справе сена таго было яшчэ добрых паўвоза.

І толькі калі нарэшце надворак падмяталі, а воз чысцілі, кожны мог займацца сваімі справамі.

## Бутэлька на барыш*

На зімовы пракорм кабылы сенам разжываліся крыху асаблівым чынам. Справа ў тым, што Гнеду трымалі ўтрох у складчыну: дзед Пецік з родным братам Валодзікам, што жыў цераз плот, а таксама з Іванам, па мянушцы Сівы. Дзед Іван заўсёды ўлетку насіў капялюш, а па нядзелях спяваў у царкоўным хоры.

На кабылу касілі ў жніўні, калі трохі ўжо запаслі сена сваім каровам. Толькі дзе ж узяць той травы?.. Пра гэта дамаўляліся з калгаснымі пастухамі, каб тыя не пускалі кароў на нейкі кавалак пашы з лепшай травой. Шырокія калгасныя пашы знаходзіліся далёка ад вёскі, на другім беразе Пад'яваркі.

Увечары перад прызначаным днём баба збірала дзеду торбу з абедам: абавязкова бутэлька самагонкі на барыш пастухам, вараныя яйкі, кілбаса, сала, кавалак кумпяка, гуркі, цыбуля і хлеб. Утрох мужчыны выязджалі а 4-й гадзіне раніцы і касілі амаль увесь дзень.

Заканчвалася гэтая гісторыя заўсёды аднолькава. Пад вечар кабыла на аўтапілоце цягнула воз па вёсцы, а на ім калодамі ляжалі п'яныя «касцы-гаспадары». Гнеда прыпынялася каля брамы, а ўнукі пад пахі цягнулі старых — кожны свайго — на ложак у хату. Але галоўнае — справу яны зрабілі, барышом пастухам аддзякавалі. І абышліся без аніякіх грошай...

Раніцай наступнага дня, добра выспаўшыся, старыя бралі ўнукаў, ехалі на пашу, хутка зграбалі траву і везлі сушыць.

Гэтаксама было і з саломай, якой падсцілалі хатнюю жывёлу ў хляве. Раней даводзілася красці калгаснае: ноччу ехалі на поле, раскладалі дошкі і закачвалі коткі-цюкі на воз. Здаралася, што воз нават ламаўся, бо качулкі былі вельмі цяжкімі. А ўжо потым калгас сам пачаў прадаваць пракосы саломы: плаціш пару рублёў, сам зграбаеш салому і вязеш дахаты ў стог.

Мае дзед і баба трымалі дзве каровы. Аднойчы нечакана старэйшая карова Кветка захварэла і здохла ў садку пад яблынямі. Суседскім трактарам яе зацягнулі на вялікай блясе ў хвойнік і там закапалі. Дзед Пеця з бабай Маняй моцна перажывалі. І пасля таго засталася ў іх толькі Пярэста з чорнымі круглымі плямамі на баку.

## Перайшло-мінула, што калісь было...

Самае крыўднае для мяне, што ўсе гэтыя цікавыя эпізоды вясковага жыцця ў дзяцінстве не атрымалася зафіксаваць на фотаздымках ці відэа. Ну, якія там былі гаджэты 25 гадоў таму? А калі з'явілася ўся шматлікая сучасная тэхніка, то старыя ўжо не трымалі гаспадаркі. Таму пра тую штодзённую цяжкую працу і звязаныя з ёй традыцыі ды рытуалы засталіся толькі ўспаміны.

А калі б мой дзед і яго аднавяскоўцы ўбачылі, што зараз робіцца на іх сенажацях, дзе толькі гудзе вецер, а трава і зямля ўжо нікому не патрэбныя, то, мусіць, усе разам пакінулі б свой вечны спачын у хвойніку за станам і зноў узялі б у рукі косы. ◆

* **Бары́ш** — так называлі пачастунак аднавяскоўцам, таварышам пасля ўдалай справы, здзелкі, добрай падзеі. Ад гэтага пайшла сучасная традыцыя, калі «абмываюць» набытак ці прасоўванне па службе.

**На ўсіх фота жанчына стараецца прыкрыць ампутаваныя канечнасці свайго мужа, мастака Уладака Стшэмінскага.** На фота: кожнае лета Кацярына з сям'ёй ездзіла на Балтыку, у дом пад Рыгай. Рыжскае ўзмор'е было яе месцам сілы, і, выйшаўшы замуж, яна стала ездзіць туды з мужам.

CULTURE.PL

# Пачатак і канец шчасця

## Кацярына Кобра: каханне і нянавісць з Уладзіславам Стшэмінскім

**У 20 выйшла замуж за калеку — такога ж генія, як сама. З таго часу мусіла кожную секунду быць у мужа на падхваце: рэзаць яму ежу, мыць пэндзлі, тачыць алоўкі, а зімой па слізгаце ў санках вазіць яго на працу ў гімназію... Між тым тварыла ўласнае наватарскае мастацтва, якое пры жыцці ніхто не цаніў. І тут нарадзілася неданошаная дачка... Піша кандыдат гістарычных навук Паўліна Скурко.**

Авангардны мастак Уладзіслаў Стшэмінскі стаў вядомы ў нашых шыротах пару гадоў таму пасля фільма «Паслявобразы» («*Powidoki*»), апошняга ў фільмаграфіі Анджэя Вайды. Лёс аднаногага, аднарукага, напаўсляпога мастака, што ствараў уласную тэорыю жывапісу, зачапіў многіх. Адыграла ролю і тое, што Стшэмінскі — наш зямляк: этнічны паляк, ён нарадзіўся ў Мінску (дом стаяў у раёне цяперашняга Ліцэя БДУ), а ў пачатку Другой сусветнай нядоўга жыў у Вілейцы.

Між тым пра жонку Стшэмінскага, скульптарку Кацярыну Кобру, фільм выйшаў бы не менш цікавы. У нас яна амаль невядомая, хоць для скульптараў па ўсім свеце яе імя — пуцяводная зорка.

Ужо пасля фільма Вайды ў Польшчы пачуліся галасы



**Афіцыйны трэйлер фільма «Паслявобразы».**

супраць гларыфікацыі Стшэмінскага: з мемуараў дачкі вядома, што ў 1940-я, на апошняй стадыі шлюбу, ён здзекаваўся з жонкі, абражаў і не раз збіваў яе мыліцамі. Але цэтлік ахвяры хатняга гвалту — яўна не тое, што можна прычапіць да такой жанчыны.

### Шпітальнае каханне

А пачыналася ўсё з кахання, якое жывілася сумеснай творчасцю. У сямейным шчасці Стшэмінскія здолелі пражыць амаль два дзесяцігоддзі.

Далікатнае дзяўчо — празрыстая скура, вялізныя вочы — закахалася настолькі, што ўзваліла на сябе цяжар даглядаць чалавека без рукі, нагі, яшчэ і сляпога на адно вока. Такім Стшэмінскі стаў у акопах Першай сусветнай. Ён не памятаў, што здарылася. Усеагульна прынятая версія, што саслужывец па неасцярожнасці ўзарваў снарад у акопе. Апошнім часам біёграфы схіляюцца да версіі, што канечнасці мастака былі пашкоджаныя ў выніку газавай атакі і потым ампутаваныя.

Сустрэліся Каця і Уладак у шпіталі ў Маскве, дзе дзяўчына валанцёрыла — даглядала параненых. Стшэмінскі быў старэйшы на 5 гадоў. Вайна папсавала яго цела, але не зачапіла прыгожы, высакародны твар. Яны абмяркоўвалі мастацтва, Каця паказвала свае работы, і пазней Стшэмінскі прызнаваўся, што гэта Кобра прывяла яго ў жывапіс, адкрыла ў ім, дарослым чалавеку, талент мастака.

Кацярына нарадзілася ў Маскве 26 студзеня 1898 года, вырасла ў Рызе, куды пераехалі бацькі, а гімназію заканчвала, вярнуўшыся з бацькамі ў Маскву ў сувязі з пачаткам вайны. Яе мама была рускай, тата меў нямецкія, дацкія і нарвежскія карані. Паводле сямейнай легенды, род фон Кобраў прыехаў у Расію пры Пятру І.

Пасля гімназіі Кацярына вучылася ў вядучых расійскіх творцаў — спярша ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства, а пасля ў Дзяржаўных свабодных мастацкіх майстэрнях. Была адной з найлепшых вучаніц Уладзіміра Татліна — заснавальніка стылю канструктывізм.

Бацькі былі шакаваныя выбарам дачкі. Яны самі планавалі для яе кар'еру дантыста.

Кобра са Стшэмінскім зноў сустрэліся ў Смаленску, дзе разам выкладалі ў філіяле студыі УНОВІС («Утвердители нового искусства») легендарнага Казіміра Малевіча. Тут яны ажаніліся. Тут Кобра стварыла і свае першыя абстрактныя скульптуры. ▶


NIEZŁA SZTUKA

**Каця Кобра — вучаніца рыжскай гімназіі. 1910–1912 гады.**


AWAREWOMENARTISTS.COM

**Прасторавая кампазіцыя №6 (1931 год).**
Скульптура складаецца з металічных прамавугольнікаў, пафарбаваных у розныя колеры, і адной непафарбаванай прамавугольнай фігуры, сагнутай у хвалю. Скульптура нібы ўпісаная ў паралелепіпед, але мы бачым толькі тры яго грані (белую, сінюю, жоўтую). Яшчэ тры адсутнічаюць. Праз гэта ствараецца эфект злучэння скульптуры з паветрам, навакольнай прасторай. Здаецца, што скульптура мае ўпасці, але не падае, а нават ляціць. Эфект адсутнасці гравітацыі даюць, па-першае, прасветы паміж часткамі скульптур. А па-другое, хітрае размяшчэнне і афарбоўка фрагментаў: унізе — лягчэйшыя формы святлейшых колераў, а зверху — большыя і цямнейшыя прамавугольнікі.

**Канструктывізм** — мастацкі, а пасля і архітэктурны стыль, які зарадзіўся ў Расіі каля 1915-га. Ён проціпастаўляе простасць і падкрэслены ўтылітарызм паказной раскошы. Мінімум дэталяў, зыркасць колераў, захапленне індустрыяльным.




**А ў такую дзяўчыну закахаўся Стшэмінскі.**

## «Кацапка» ў Вільні

Калі над авангардыстамі навіс цень — Ленін абвясціў, што пралетарскае мастацтва мае быць прадметным і зразумелым, — Стшэмінскія эмігравалі. Кобра марыла пра Парыж. Але далей за родную мужу Польшчу не паехала.

Падчас нелегальнага пераходу савецка-польскай мяжы Каця несла ўвесь багаж на сабе. Расплаціцца з праваднікамі прыйшлося фамільнай біжутэрыяй. А найдраматычнейшае — скульптуры засталіся ў Смаленску, з сабой дзяўчына змагла ўзяць толькі іх фота.

Спярша пара жыла ў Вільні, на вуліцы Бернардзінскай (каля касцёла Святой Ганны), у бацькоў маладога. Свякроў прыняла Кобру прахалодна. «Нават не думай пра дзіця, мусіш усё жыццё даглядаць Уладака». Родныя мужа гаварылі толькі па-польску, не зважаючы, што Каця нічога не разумее.

За сваю мову на віленскіх вулках нярэдка чула абразы: «кацапка», «бальшавічка»... Польская давалася Каці цяжка, яна так ніколі і не вывучыла яе на належным узроўні. Яе філасофскія тэксты па тэорыі скульптуры рэдагаваў і часткова перакладаў муж.

Суровая свякруха, чужая краіна, адсутнасць мужавай падтрымкі — у выніку маладыя на два гады раз'ехаліся, але захавалі адносіны па перапісцы. Каця жыла з сям'ёй у Рызе. Але пачуццё ўрэшце перамагло. Каб дзяўчына магла атрымаць польскае грамадзянства, пара мусіла павянчацца. Кацярына стала Катажынай.

Патуляўшыся па невялікіх гарадках, Стшэмінскія ўрэшце аселі ў Лодзі. Кобра ўладкавалася выкладчыцай эстэтыкі інтэр'еру ў эканамічным ліцэі.

## Дзяўчынка з касічкамі супраць усяго

Кацярына любіла эпатаж — і ў адзежы, і ў паводзінах. Была халерыкам, мела выбуховы характар. Але ў той жа час была досыць наіўная і даверлівая. Праз гэта не раз цярпела, але і здабывала адданых сяброў.

Цудоўна гатавала: «умела начараваць штосьці з нічога». Многа чытала. Найбольш любіла скандынаўскую літаратуру і Дастаеўскага. Цаніла Някрасава, вельмі добра ведала Пушкіна, цытавала на памяць вялікія фрагменты.

«Мама не мела голасу, але любіла спяваць рамансы Вярцінскага. Бацьку гэта страшэнна нервавала, у яго быў музычны слых, ён не мог слухаць матчынага спеву. А я любіла, калі яна спявае», — успамінала дачка Стшэмінскіх. Любоў да








**«Падвесная канструкцыя №1» — адна з першых скульптур Кобры, створаная яшчэ ў Смаленску**: вялікі эліпс, спалучаны з драўляным кубам і металічным стрыжнем, што заканчваецца паралелепіпедам. Дзякуючы таму, што найбольшы элемент — эліпс — размешчаны ўверсе, складваецца ўражанне, што канструкцыя нібы вісіць у паветры насуперак закону прыцягнення. Гэты прыём Кобра будзе выкарыстоўваць і ў наступных работах. Арыгінал скульптуры не захаваўся, скульптура вядомая па фота з кнігі Кобры і Стшэмінскага «Кампазіцыя прасторы. Разлікі часава-прасторавага рытму» (1931).




Кацярына любіла мехаватыя сукенкі, аздобленыя геаметрычнымі фігурамі ў стылі супрэматызму, каляровыя калготкі. Адзявала капялюшыкі, што нагадвалі шапачкі для плавання. Фасоны прыдумляў муж. А сама яна цудоўна шыла на прывезеным з Рыгі «Зінгеры». Дачка Стшэмінскіх успамінала: «Ад мыліц у бацькі пастаянна рваліся пінжакі пад пахамі, іх трэба было зашываць. А кашулі ён прызнаваў толькі пашытыя маці, з каўняром а-ля Славацкі». **На фота Каця ў сукенцы і шапачцы, якія змадэляваў муж, і Уладак у кашулі, што пашыла жонка.**




музыкі Каця вынесла з сям'і. Яе мама была страшна таленавітай піяністкай, якой прарочылі вялікую будучыню. Але наяўнасць пяцярых дзяцей вымусіла засяродзіцца на сям'і.

З аднаго боку рамантык, з другога — Кобра была мастачкай-даследчыцай, эксперыментатаркай, аналітыкам.

Спачатку яе скульптурныя кампазіцыі не лічылі вартаснымі, а саму яе называлі «дзяўчынкай з касічкамі, якая ў мастацтве адрынае ўсё, нават беспрадметнасць». «Фіглі жалезныя», — пачула яна ад крытыка на першай выставе ў Варшаве, у аўтасалоне на Мазавецкай. Іншы мастацтвазнаўца палічыў, што яе кампазіцыі — гэта прадметы мэблі, «прычым даволі нязручныя». «Паглядзіце каталог, у ім выразна напісана, што гэта не мэбля, а прасторавыя скульптуры», — адбрыў яго Стшэмінскі.

Сітуацыю змянілі дзве тэарэтычна-філасофскія кнігі па мастацтве, напісаныя ў пары з мужам, і выставы ў Еўропе, дзе ідэі Кобры зрабілі фурор. У 1930-я ні пра мэблю, ні пра фіглі ніхто не заікаўся.

У 1931 годзе ў Лодзі Кобра са Стшэмінскім адкрылі першую ў Еўропе галерэю сучаснага мастацтва, аснову склалі іх работы. Найлепшыя творцы-авангардысты з усяго свету дасылалі туды свае творы. У той час на нашым кантыненце такога яшчэ не было, падобная галерэя існавала толькі ў ЗША.

### Прасторавыя кампазіцыі

Кобра здзейсніла капернікаўскі пераварот у мастацтве XX стагоддзя. Яна была першай, хто зразумеў: скульптура — гэта не маналіт. Гэта не толькі матэрыяльнае цела, але і прасветы ў ім, і нават цені, якія яно адкідае. Сёння такі падыход ужо можа ▶

### Рэвалюцыя ў скульптуры

«Нашы гарады задыхаюцца ад адсутнасці парадку і планаванай разбудовы. Нашы скульптуры на плошчах стаяць як прыдарожныя камяні, нібы ўхваленне гэтага хаосу, нібы помнікі яму».

Мастацтва павінна адмовіцца ад салоннасці, ад таго, каб прыносіць асалоду і пачуццё камфорту, меркавала Кобра. Яно мусіць мяняць прастору вакол чалавека, вызначаць рытм яго жыцця.

Кацярына многа пісала пра прасторава-часавыя рытмы скульптуры. «Энергія формаў, якія чаргуюцца ў прасторы, стварае прасторава-часавы рытм». Яна цікавілася фізікай і асабліва тэорыяй адноснасці Эйнштэйна. Час у якасці вымярэння скульптуры з'яўляецца тады, калі прадмет мастацтва жыве, то-бок калі яго аглядаюць, лічыла Кобра. Менавіта глядач, наведнік выставы дадае скульптуры чацвёртае вымярэнне. І ствараючы свае работы, Кобра прадумвае крокі гледача, які мусіць патрапіць у часава-прасторавы рытм яе скульптуры.

«Скульптура з'яўляецца часткай той прасторы, у якой знаходзіцца. Яна ўваходзіць у прастору, а прастора ў яе. Толькі прастора можа праявіць сутнасць скульптуры. Таму ў скульптуры не павінна быць выпадковых фігур, павінны быць толькі тыя формы, якія звязваюць яе з прасторай. А ніяк не звязаныя з прасторай маналіты — гэта адыход ад сутнасці скульптуры. Яе трэба вызваліць ад гэтага».









**Прасторавая кампазіцыя №4 (1929 год).**
Скульптуры Кобры вельмі важна аглядаць з розных бакоў. Таму скульптарка звяртала вялікую ўвагу на спосаб экспанавання сваіх работ. Іх немагчыма выставіць няправільна: гарызантальна, вертыкальна, бокам — могуць стаяць усяляк. Але важна, каб скульптура з усіх бакоў была абкружаная прасторай. Ідэальна, каб меўся пастамент з празрыстага шкла.
Дзіўна павёў сябе Стшэмінскі ў 1948 годзе. Ён арганізаваў экспазіцыю сучаснага мастацтва, і для работ былой жонкі вылучыў найлепшыя месцы. То-бок, нягледзячы на асабістую нянавісць, працягваў шанаваць яе творчасць. Аднак усе скульптуры стаялі ў адзін шэраг. Ні абысці, ні зазірнуць у іх было немагчыма. Мастацтвазнаўцы дагэтуль спрабуюць інтэрпрэтаваць гэты ўчынак.

▸ і не здзіўляць, але да Кобры ніхто такога не фармуляваў.

Скульптура — гэта не прадмет, не сюжэт, не эмоцыя, сцвярджала Кобра, гэта частка прасторы. У гэтым скульптура збліжаецца з архітэктурай. Сучасная скульптура — не замкнёная ў сабе статуя, не фігурка. Гэта чыстая форма, праз якую цякуць прастора і час.

Самым плённым перыядам Кацярыны Кобры былі 1925–1935 гады. У гэты час яна стварыла 9 незвычайных абстрактных скульптур, што лічацца вяршыняй яе творчасці.

## Лікі Фібаначы

гэта элементы паслядоўнасці, у якой кожны наступны лік роўны суме двух папярэдніх: 0, 1, 1, 2, 3, 5, 8, 13, 21, 34, 55, 89, 144, 233, 377, 610, 987, 1597, 2584, 4181, 6765, 10946... Яны названыя ў гонар сярэднявечнага матэматыка Леанарда Пізанскага (па мянушцы Фібаначы).

Суадносіны двух суседніх лікаў у шэрагу Фібаначы складаюць лік Ф=1,618, які прынята называць залатым сячэннем. Паспрабуйце падзяліць 8 на 5, 13 на 8, 21 на 13 і г. д. — і атрымаеце такі вынік. Лік Ф названы ў гонар Фідыя, архітэктара Парфенона. Прамавугольнік, у якога суадносіны даўжынь бакоў складаюць 1,618, называецца залатым. Самы распаўсюджаны прыклад — банкаўская картка.

У прыродзе лікі Фібаначы сустракаюцца паўсюль. Напрыклад, колькасць пялёсткаў у рамонку будзе роўная аднаму з лікаў Фібаначы: 5, 8, 13 ці 21. У шышцы, сланечніку ці квяцістай капусце колькасць спіраляў заўжды роўная аднаму з лікаў Фібаначы.

Мастачка назвала іх прасторавымі кампазіцыямі.

Скульптуры Кобры — простыя і гэтым прыгожыя. Прасторавыя кампазіцыі складаліся з металічных, драўляных, шкляных частак рознай формы і аб'ёму. Асноўныя элементы — квадраты, прамавугольнікі і дугі. Частку элементаў скульптарка падвешвала, гэта стварала дадатковую дынаміку.

Першыя скульптуры творца фарбавала ў белы, колер святла. Гэта можна патлумачыць уплывам Казіміра Малевіча («прарок абстрактнага мастацтва», пісала пра яго Кобра). Ён лічыў, што белы — колер бясконцасці, уплывае на думкі і ўяўленне, ачышчае свядомасць.

З часам Кобра адкрыла сабе магчымасці, якія надаюць іншыя колеры. У работах з'явіліся чырвоны, жоўты, сіні, чорны. Яна стала ўжываць і такі прыём: фарбавала элементы скульптуры з розных бакоў рознымі колерамі, напрыклад, з аднаго боку прамавугольнік жоўты, з другога — чырвоны. Дзякуючы гэтаму, абышоўшы вакол скульптуры, можна пабачыць не адну, а некалькі кампазіцый. З кожным крокам глядач адчувае змену рытму ў структуры твора.

Рытм — важная знаходка Кобры. У яе скульптурах рытм ствараецца не за кошт паўтарэння аднолькавых фрагментаў, а за кошт паўтарэння прапорцый, устойлівага суаднясення памераў розных фрагментаў. Гэта дазваляе гледачу гуляць у цікавую гульню: прагназаваць і вылічваць памеры кожнага наступнага фрагмента.

«Яна імкнулася распрацоўваць сістэму, у якой спалучаюцца ўсе формы, у якой размяшчэнне самых дробных элементаў старанна разлічана», — пісаў гісторык мастацтва Януш Загродскі, які ў 1960–1970-я гады рэканструяваў страчаныя творы Кобры.

Першая сярод авангардыстаў, яна ўзняла пытанне пра сувязь матэматыкі і мастацтва. Усе складнікі яе скульптур вылічаныя па прапорцыях залатога сячэння 8:5. Разлічваючы памеры элементаў, яна таксама абапіралася на лікі Фібаначы.



NIEZŁA SZTUKA

Апошняе шчаслівае лета сям'і на Балтыцы.

## Канец шчасцю

У 1936-м у Стшэмінскіх нарадзілася дачка. Кацярына закінула ўсё і займалася толькі ёю. За 1936–1948 гады Кобра не стварыла ніводнай скульптуры. Дачку назвалі Якубінай-Інгеборгай (святы Якуб быў патронам роду Стшэмінскіх). Дзяўчынка нарадзілася раней за тэрмін і была хваравітай. Першы год жыцця пастаянна плакала. На думку педыятраў, на здароўе немаўляці паўплывала тое, што і мама, і тата ў перыяд цяжарнасці курылі.



PINTEREST.COM/MARZENAMIREWICZ

**Першая з вядомых скульптур Кобры называецца *TOS 75 — Struktura.*** Гэтая кампазіцыя кідае выклік хаця б спалучэннем матэрыялаў: метал, дрэва, шкло і корак. Яна загінула ў вайну і вядомая толькі па фатаграфіі.

**На думку педыятраў, на здароўе немаўляці паўплывала тое, што і мама, і тата ў перыяд цяжарнасці курылі**

Хваравітасць дачкі Стшэмінскі тлумачыў па-свойму. Ён лічыў, што дзіця атруцілі дактары-немцы лютэранскага шпіталя. Ягоная германафобія, набытая, відаць, яшчэ ў акопах Першай сусветнай, у канцы 1930-х абвастрылася. Ён стаў злавацца на жонку за яе нямецкія карані. Злаваўся і на тое, што тая размаўляе з дачкой па-руску. А яшчэ больш — што ►



**Як відаць па фота, Кацярына Кобра курыла не толькі ў час цяжарнасці, але і потым.** На здымку яна з маленькай дачкой.

## Скульптуры на дровы

Сёння вядома зусім мала прац Кобры, не больш за 40: 31 скульптура і некалькі замалёвак (прычым частка скульптур узноўленая па фотаздымках ужо пасля смерці майстрыхі).

Вінаватая ў тым вайна.

Мы вельмі ганарымся, што ў пачатку Другой сусветнай знакаміты Стшэмінскі жыў на беларускіх землях, у Вілейцы (сям'я вырашыла выехаць далей ад месца ваенных дзеянняў). Для яго гэты перыяд сапраўды выявіўся плённым: ён стварыў серыі «Заходняя Беларусь» і «Маім сябрам яўрэям». Але для Кобры гэты ад'езд з Лодзі даўся ў знакі. Па-першае, пастаянная барацьба за выжыванне, пошук працы. На руках — трохгадовае дзіця. «Я хадзіла да багатых паралізаваных бабулек масажыраваць ім ногі за талерку макароны для дзіцяці».

Па-другое, пакуль сям'я была ў Вілейцы, новыя жыльцы іх дома ў Лодзі выкінулі усе працы Кобры на сметнік. Туды ж нацысцкія ўлады вывезлі яе работы з музея. Вярнуўшыся праз паўгода дамоў, яна некалькі тыдняў хадзіла на гарадскі сметнік і ўсё ж адшукала большасць сваіх твораў.

Другая катастрофа адбылася ў канцы вайны. Сям'і не было чым паліць печку. Азлоблены беднасцю і немаччу Стшэмінскі сварыўся, маўляў, што за гаспадыня: дзіця галадае, сядзім у холадзе… Тады Кобра папрыносіла з падвала ўсе свае драўляныя работы, якія калісьці выратавала са сметніка і ўсю вайну берагла, ды пасекла іх на дровы. Ніка на дзесяцігоддзі запомніла смак манкі, зваранай на гэтых дровах…





падчас нацысцкай акупацыі яна прыняла рашэнне ўпісацца ў «рускі спіс» і ўгаварыла мужа далучыцца (потым ён сцвярджаў, што жонка ўпісала яго без згоды). Гэты спіс — пералік рускіх эмігрантаў, якія пацярпелі ад савецкага рэжыму. Асобы са спісу мелі права на большы паёк.

Ад часу нараджэння дачкі Кобра прымала ўсе рашэнні выключна праз прызму інтарэсаў дзіцяці. Стшэмінскі ж адчуваў, што пацярпела ягоная польская годнасць, што ён здрадзіў айчыне (да таго ж мучыўся, што жыве лепш, чым яго сваякі).

Што адбылося за гэтыя гады? Калі і чаму ў шчаслівым шлюбе з'явілася расколіна? Ніякіх дзённікаў, лістоў, што маглі б праясніць сітуацыю, няма. Дзеля выжывання Стшэмінскія шылі торбы, Кацярына рабіла анучных лялек, Уладзіслаў маляваў паштоўкі. І ні дня не абыходзілася без сваркі.

Восем прасторавых кампазіцый Кобры пабудаваныя з геаметрычных фігур, а **дзявятая мае біямарфічную форму. Нагадвае рыбу, якая плыве, ці ліст з дрэва… Магчыма, гэта вобраз мора.** Скульптура створана са сплаву медзі і срэбра, з цэльнага ліста металу. Зверху пафарбаваная шэрым, знутры белым. Гэта адна з тых скульптур, якія Кобра, вярнуўшыся з Вілейкі, уратавала са сметніка.






**Кобра ў апошнія гады.**

У канцы вайны на злосць мужу Кацярына таемна пахрысціла дачку ў праваслаўнай царкве. Падчас хросту Якубіна-Інгеборга стала проста Нікай і пад гэтым іменем пражыла ўсё жыццё. Калі дзяўчынка вечарам стала хваліцца тату, як яе мазалі алейкамі і здзяйснялі розныя праваслаўныя рытуалы, Стшэмінскі ашалеў. Гумовым наканечнікам мыліцы прыцэльнымі ўдарамі ён біў жонку, і біў, і біў... Па ўспамінах дачкі, Кацярына не адбівалася, толькі закрывала галаву.

Неўзабаве Стшэмінскія разышліся. Уладзіслаў узяўся быў судзіцца за апеку, але суседзі ў адзін голас сталі сведчыць супраць яго. Жанчына не паспела выдыхнуць, як пачаўся новы суд: скульптарку абвінавацілі ▶

## Ровар

Пасля разводу Стшэмінскі стараўся перадаваць дачцэ грошы і падарункі. Ён усё ж адчуваў адказнасць за дзіця. Калі бацька перадаў для Нікі ровар, Кобра сказала: «Глядзі, ён перадае табе ровар, каб ты на ім забілася».

Апрача прасторавых кампазіцый, Кацярына Кобра стварыла дзевяць больш традыцыйных скульптур, жаночых постацяў. У іх бачаць уплывы кубізму. Частку такіх скульптур Кобра зрабіла яшчэ ў 1920-я, частку ў 1948-м, гэта былі яе апошнія работы. Прататыпам ранніх лічаць саму мастачку, мадэлямі для позніх былі сяброўка і дачка.

У гэтых аголеных скульптурах няма нічога эратычнага, адзначаюць мастацтвазнаўцы. Яны нібы створаныя самі для сябе, паглыбленыя ў сябе і ніяк не ўзаемадзейнічаюць з асяроддзем. Такі падыход наўпрост супярэчыў поглядам Кобры: яна не раз пісала, што скульптура і навакольная прастора мусяць перацякаць адно ў адно. Зрэшты, пра свае жаночыя фігуры аджартоўвалася: «Для мяне гэта забаўка — як для вас схадзіць у кіно».

На фота: **першая і апошняя жаночыя скульптуры Кобры, 1920-я і 1948 гады**. Копію фігуры дзяўчынкі, злепленай з 12-гадовай дачкі, Ніка ўсталявала на маміным надмагіллі. Сама Ніка памерла ў 2001 годзе, яе пахавалі побач з маці на праваслаўных могілках Лодзі.










SZTUKA ARCHITEKTURY


CULTURE.PL

**Дзіцячы сад паводле Кобры.** «Задача прасторавай кампазіцыі — фарміраванне формаў, якія некалі будуць увасобленыя ў жыццё. Прасторавая кампазіцыя — лабараторнае даследаванне, якое вызначае архітэктуру будучых гарадоў», — пісала Кацярына Кобра. У 1932 годзе яна стварыла Прасторавую кампазіцыю №8. А ў 1934-м скончыла праект дзіцячага садка на падставе гэтай кампазіцыі.
Праект стаў кульмінацыяй канцэпцыі пра сувязь скульптуры і архітэктуры. Гэта не проста «каробка», а збудаванне арыгінальнай формы ў прапорцыях залатога сячэння. Праект дае адчуванне празрыстасці, адкрытасці — унутраная прастора будынка нібы кантактуе з паветрам. Сёлета па гэтым праекце пачалі будаваць дзіцячы садок пры Акадэміі мастацтваў Лодзі. Яго плануюць завяршыць за два гады.

▶ ў «адмове ад польскай нацыянальнасці» — успомнілі ёй «рускі спіс». Кобры прысудзілі 6 гадоў турмы, але пасля апеляцыі апраўдалі.

Псаваў жыццё і былы муж. Чытаць пра подласці, якія чыніў пакрыўджаны Стшэмінскі, проста няёмка. Напрыклад, сам будучы вядучым выкладчыкам Акадэміі мастацтваў, ён забараніў прымаць туды былую жонку. У выніку жанчына, якая 10 гадоў таму рабіла фурор у свеце еўрапейскага мастацтва, выжывала тым, што шыла лялькі на продаж. І тут муж напаскудзіў: дамогся, каб крама Саюза мастакоў не брала яе цацкі для продажу.

У 1948 годзе талент Кобры заззяў апошні раз. Яна стварыла чатыры скульптуры — жаночыя фігуры з гіпсу і металу. А неўзабаве ў Кацярыны знайшлі неаперабельную пухліну маткі. Яна прамучылася год. Дачка-падлетак сама мусіла рабіць ёй уколы морфію. 21 лютага 1951 года скульптарка памерла, ёй было 53. Яна забараніла паведамляць былому мужу пра сваю смерць, Уладзіслаў даведаўся толькі праз некалькі дзён. Яе пахавалі на праваслаўных могілках Лодзі.

А ўчынак Стшэмінскага вярнуўся да яго бумерангам. У 1950 годзе творцу звольнілі з акадэміі за неадпаведнасць догмам сацрэалізму. Цяпер мастак, чыё імя гучала па ўсім свеце, мусіў маляваць шыльды, афармляць вітрыны, скачучы туды-сюды на адной назе на пацеху вулічным падшыванцам.

Ніка Стшэмінская стала псіхіятрам. Ва ўспамінах яна прызнаецца, што адносіны бацькоў паўплывалі на ўсё яе дарослае жыццё, на адносіны з мужчынамі.
У сваёй сям'і яна не бачыла кахання і спачування. Хоць бацька ніколі яе не біў, крыўда за маці была настолькі моцнай, што пасля яе смерці 15-гадовае дзяўчо захацела, каб яе забралі ў дзіцячы дом. Праўда, там аказалася настолькі кепска, што неўзабаве яна ўцякла да таты. Ці ўдалося ім паразумецца — невядома. У наступным годзе Стшэмінскага не стала.

Сімвалічнае прымірэнне пары адбылося ў 1956-м, калі ў час палітычнай адлігі ў Лодзі была арганізавана гучная выстава польскіх авангардыстаў. Кобру і Стшэмінскага выставілі побач, у адной зале. І ўсім было бачна, наколькі гэтыя людзі глядзелі і шукалі ў адным кірунку. ◆




Больш пра Кацярыну Кобру і яе выдатных сучасніц чытайце ў кнізе Славаміра Копера «Жанчыны Другой Рэчы Паспалітай», якая ў 2017 годзе выйшла па-беларуску ў выдавецтве «Галіяфы».



# Беларуская карпатлівасць — еўрапейская якасць

Корпусная і ўбудаваная мэбля

+375 (29) 606-38-38

**www.cesliary.by**




ІП ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ, УНП 691599592



**Школьны перформанс 1930-х гадоў.** Вучаніцы прыватнай украінскай школы імя Алексы Старажэнкі ў Берасці сталі ў форме «Трызуба».

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЛЯКСАНДРЫ ГАРБАЧОВАЙ

# Брэсцкі мір, суп з бычыных хвастоў і таямнічы Воран

## Гід па ўкраінскіх мясцінах Брэста

**У інтэрнэце з'явіўся гід па мясцінах, звязаных з гісторыяй украінцаў у горадзе над Бугам. Яго цікавосткі пераказвае Паўліна Скурко.**

На пешаходнай вуліцы Савецкай у Берасці над аркай дома №104 захаваўся рэльеф «в 1929 р». Што за «р» такое? «Р» азначае «рік», «год» па-ўкраінску — мясцовы жыхар так абазначыў шчаслівы для сябе момант будоўлі. Такіх мілых слядоў мінулага разнамоўя ў гарадах Беларусі засталося зусім мала. Пад гэтай аркай і нарадзілася ідэя гіда. Цяпер ён налічвае 80 пунктаў.

### Вуліца Савецкая: украінцы і яўрэі

У канцы 1920-х гарадскія ўказы, аб'явы і распараджэнні выходзілі ў Берасці не толькі на дзяржаўнай польскай мове, але і па-ўкраінску. Гэтага дамаглася партыя «СельРоб» (Украінскае сялянска-работніцкае сацыялістычнае аб'яднанне), якая

### Берасце і Брэст

Менск і Мінск, Горадня і Гродна, так і Берасце і Брэст. Традыцыйная мясцовая назва горада — Берасць (Бэ́рэсть), Берасце (Бэ́рэстя). Брэст, як і Мінск, Гродна — гэта польскія версіі назваў, якія ў такім варыянце ўвайшлі ў рускую мову пасля далучэння Рэчы Паспалітай. Па-беларуску ў афіцыйнай мове ўжываецца «Брэст», але многія аддаюць перавагу спрадвечнай форме «Берасць» («Берасце»).

карысталася ў рэгіёне вялікай папулярнасцю. Аднаго з яе лідараў, Івана Парэнюка, берасцейцы выбралі дэпутатам гарадской рады, і ён змог дамовіцца з большасцю прагаласаваць за такое рашэнне. Прытым большасць рады тады складалі яўрэі.

У міжваенны час украінцы і яўрэі Берасця не раз выступалі адзіным фронтам у апазіцыі да польскіх уладаў. Так, Абрам і Майсей Сарверы, уладальнікі Тэатра Сарвера (Свярдлова, 4),

ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА




**Вуліца Савецкая, 104 у Берасці.** Звярніце ўвагу на надпіс над аркай. «в 1929 р», дзе «р» значыць «року» — «годзе» па-беларуску.



OGŁOSZENIE

Magistrat m. Brześcia podaje niniejszem do wiadomości właścicieli nieruchomości, domy których zostały wybudowane po 1915 r., iż stosownie do rozporządzenia Dowództwa Okręgu Korpusu O. K. IX., winni oni w terminie do dnia 1-go lipca 1927 roku wnieść do D. O. K. IX. w drodze przez Szefostwo Saperów O. K. IX. podania o uznanie wzniesionych budowli.

Po upływie tego terminu, dozór forteczny przeprowadzi kontrolę zezwoleń i właściciele budynków, nieposiadający zezwoleń władz wojskowych, będą pociągnięci do odpowiedzialności sądowej z art. 138 K. K. za pogwałcenie przepisów budowlanych.

(-) L. PASZKIEWICZ
w. z. Architekta Miejskiego

(-) T. CAŁUŃ
Prezydent m. Brześcia n/Bugiem

Brześć n-B. dnia 7 czerwca 1927 r.
№ 8321

ОГОЛОШЕННЯ

Магістрат м. Берестя цим подає до відома власників нерухомостей, доми яких були вибудовані після 1915 р., що, відповідно до роспорядження Довудства Округи Корпусу IX. в 'и повинні до 1 липня 1927 р. скласти до Д. О. К. IX. через Шефовство Саперів О. К. IX. подання про признання поставлених будинків.

Після цього терміну кріпостний догляд перевірить позволення, і власники будинків, які не матимуть позволень від військової влади, будуть притягнені до судової відповідальности по силі арт. 138 К. К. за зламання будівельних приписів.

(-) Л. ПАШКЕВИЧ

(-) Т. ЦАЛУНЬ

БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ АРХІЎ, АДШУКАЎ І НАДАЎ ДЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ АНДРЭЙ ВАРАБЕЙ

**Аб’явы магістрата павінны выходзіць і па-польску, і па-ўкраінску, пастанавіла гарадская рада Берасця ў 1927 годзе (на фота адна з такіх аб’яў).** Прэзідэнт Берасця спярша не пагадзіўся, і радным давялося шукаць праўды ў ваяводы. Цікава, што і прэзідэнт горада Леапольд Дмоўскі, і радны Іван Парэнюк, які ініцыяваў галасаванне, жылі побач — на вуліцы Шырокай, цяпер гэта бульвар Касманаўтаў.

давалі сваю сцэну мясцовым украінцам для імпрэз. На гэтай сцэне выступаў і Васіль Аўраменка — балетмайстар, які ўзвёў украінскі танец у ранг сусветнага мастацтва. Ён паказаў у Берасці майстар-клас, балет і канцэрт украінскіх танцаў у суправаджэнні хору «Просвіты» (гэта папулярная ў тагачаснай Заходняй Украіне ўкраінская культурна-асветніцкая арганізацыя мела шматлікія аддзелы і на Берасцейшчыне).

Берасцейскія яўрэі паўплывалі і на лёс самога Аўраменкі. Па адрасе Савецкая, 101 знаходзіцца найстарэйшая з дзейных аптэк горада. Будынак у стылі мадэрн праектаваў архітэктар Саламон Грынберг для жонкі (дарэчы, Фаня Грынберг стала першай жанчынай-правізарам, што выпусцілася з Кіеўскага ўніверсітэта). А будавалі яго ўкраінцы з Запарожскай дывізіі арміі УНР, у тым ліку і балетмайстар Аўраменка. Гэта быў адзін з першых у горадзе будынкаў такой вышыні (да Першай сусветнай дазвалялася ўзводзіць толькі на два паверхі, каб у выпадку чаго цяжэй было абстрэльваць крэпасць). ▸

**Да Першай сусветнай у Берасці дазвалялася будаваць дамы толькі на два паверхі, каб у выпадку чаго цяжэй было абстрэльваць крэпасць**

▶ Рэч у тым, што пасля падпісання ў 1921-м Рыжскага дагавора паміж Польшчай і Савецкай Расіяй воіны арміі УНР былі змешчаныя ў спецыяльныя лагеры ў Польшчы. Ім дазвалялі выязджаць адтуль толькі на працу. Таму яны ахвотна наймаліся на будаўніцтва, у тым ліку ў разбуранае Берасце. Менавіта ў Берасці афіцэр Аўраменка і яго саслужыўцы атрымалі дакументы, а значыць — свабоду ездзіць па краіне і выязджаць за мяжу. Ён успамінаў, што купілі адзін касцюм на ўсіх, і ў гэтым касцюме па чарзе хадзілі фатаграфавацца. А атрымаўшы дакументы, на радасцях танцавалі гапака.

## Купілі адзін касцюм на ўсіх, і ў гэтым касцюме па чарзе хадзілі фатаграфавацца

### На школу збіралі калядаваннем

Знакавы будынак — дом на Пушкінскай, 102. Тут у 1920–1930-я гады дзейнічала чатырохкласная прыватная ўкраінская школа імя Алексы Старажэнкі. Дом належаў бацькам аднаго з вучняў, і сям'я ахвяравала яго пад школку. Гэта была ў той час адзіная прыватная ўкраінская школа за межамі «ўкраінскага П'емонта» — Усходняй Галіччыны з цэнтрам у Львове.

Заняткі праводзіліся ў дзве змены. Колькасць навучэнцаў з году ў год вагалася ад 35 да 80.

### Берасцейшчына і ўкраінскасць

Так, як Вільня была цэнтрам беларускага, літоўскага, польскага і яўрэйскага рухаў адначасова, так і Берасце было горадам многіх культур. У XIX–XX стагоддзях дзейнасць структур украінскага руху была ў гэтым краі вельмі заўважнай. Тут дзейнічалі ўкраінскія палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, жылі шматлікія ўкраінскія дзеячы культуры.

**Васіль Аўраменка выступаў з украінскімі танцамі нават у Белым доме і нью-ёркскай Метраполітэн-оперы.** «Падчас яго танца людзі ўпадалі ў экстаз. Яны адчувалі, што дзеецца цуд». За акіянам канцэрты Аўраменкі маглі наведаць і тыя самыя Грынбергі, якім калісьці, у мінулым жыцці, ён будаваў **дом з аптэкай (на фота)**. Сям'я цудам перажыла Халакост, а пасля вайны адразу выехала ў Амерыку.




ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА



WIKIMEDIA COMMONS

**Цяпер у доме на Пушкінскай, 102 жывуць людзі, а 90 гадоў таму была школа.** Украінцы Львоўшчыны прывозілі настаўнікам і вучням літаратуру па Бугу, чаўнамі, каб не мець спраў з паліцыяй. Старыя здымкі школы зберагла ўнучка апошняй дырэктаркі.



ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА



ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЛЯКСАНДРЫ ГАРБАЧОВАЙ

Украінская супольнасць паспрабавала адкрыць і гімназію, але не ўдалося. Таму пасля чатырох класаў вучні ішлі ў польскія або, часцей, у прыватную рускую гімназію Берасця (цяпер будынак па Куйбышава, 11).

**«Уладальнік рэстарана ў Берасці ахвотна даў 50 злотых, але з просьбай, каб яго імя не было абнародавана»**

Крыніцай фінансавання школы былі бацькоўскія ўнёскі і ахвяраванні дэпутатаў сейма ды сенатараў. Сёе-тое прыносілі спектаклі ды калядаванне. «Былі ахвяраванні ад прыватных асоб, — успамінаў адзін з лідараў міжваеннага ўкраінскага жыцця ў Берасці Васіль Дмытрыюк. — Адзін пан, уладальнік рэстарана ў Берасці, ахвотна даў 50 злотых, але з просьбай, каб яго імя не было абнародавана».

За гады існавання школы змянілася тры дырэктары. Апошнім быў Паўло Артэмюк, будучы епіскап Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Платон, якога летам 1934 года проста з дырэктарскага крэсла звезлі ў канцлагер у Бярозе-Картузскай. Пасля яго в. а. дырэктара стала Лідзія Гарбачова. Актыўная феміністка, яна брала ўдзел у Сусветным украінскім жаночым кангрэсе і нават напісала «Азбуку жаночага руху», якая выйшла друкам у 1937 годзе. «Пра якую свабоду можа думаць жанчына, калі яна сама рабыня ў сваім доме? — піша Гарбачова. — А адкуль прыйдзе мудрасць народу, калі палова народу (жанчыны) цёмная і неадукаваная? Хіба невук можа выхаваць, даць асвету іншым? Таму якія жанчыны — такі і народ!» — мудра адзначае Гарбачова.

Дырэктарка яшчэ паспела звазіць вучняў на экскурсію ў Львоў, а пасля польская ▶



ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЛЯКСАНДРЫ ГАРБАЧОВАЙ

**Феміністка Лідзія Гарбачова**, апошняя кіраўніца прыватнай украінскай школы, жыла ў доме па Куйбышава, 10.

ўлада закрыла школу. Але яна праіснавала 10 гадоў, і гэта пры пастаяннай канкурэнцыі з бясплатнымі польскімі школамі.

**Летам 1934 года дырэктара ўкраінскай школы проста з кабінета звезлі ў канцлагер у Бярозе-Картузскай**


WIKIMEDIA COMMONS, ЧАХОВІЧ УЛАДЗІСЛАЎ

**У 1920–1930-я гады ў сціплым зялёным дамку на вуліцы 17 Верасня, 39 размяшчаўся Украінбанк**, які спецыялізаваўся на абслугоўванні сялян-кааператараў. Цяпер будыначак на рэстаўрацыі.


СТАТУТ
УКРАЇНСЬКОГО КООПЕРАТИВНОГО БАНКУ
в Берестї.
Кооператива з обмеженою відповідальністю

WIKIMEDIA COMMONS

## Банк і кааператывы

Пры аўтарытарным польскім рэжыме, калі многія праявы культуры і палітыкі былі пад забаронай, асноўнай сферай нацыянальнага жыцця стала эканамічная — кааператывы. Гэта недаацэненая частка гісторыі.

Сяляне, аб'яднаныя ў кааператывы, бралі крэдыты, куплялі інвентар. Частка прыбыткаў ішла на культурную справу ў іх вёсках. У перыяд росквіту ва ўкраінскія кааператывы на Берасцейшчыне ўваходзілі 3,8 тысячы чалавек.

Пасля кааператыўных курсаў селянін станавіўся іншым чалавекам: ён не проста багацеў, а пачынаў па-новаму мысліць, успрымаў сябе гаспадаром і часткай сеткі.


«ПАМ'ЯТКИ УКРАЇНИ»

**Сяляне з-пад Берасця — слухачы курсаў кааперацыі.** Курсы праходзілі на месцы сучаснага ЦУМа.

## Псеўданім Воран

На другім паверсе дома па Пушкінскай, 35, насупраць цэнтральнага рынка, у 1942–1943 гадах была яўка Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, што змагалася і супраць нацыстаў, і супраць саветаў. Ячэйку ўзначальваў чалавек пад псеўданімам Воран.

Мікола Казлоўскі, вучань украінскай Тэхнічнай школы (цяпер на тым месцы каледж і ліцэй чыгуначнага транспарту па Папаніна, 4), атрымліваў тут украінскую літаратуру, якую спрабаваў распаўсюджваць у горадзе і наваколлі. А хаваў яе пад страхой. Ён пазбег расстрэлу, бо гестапа не знайшло яго надзейную схованку.

Непадалёк, на скрыжаванні Гогаля і Савецкай, у часы акупацыі дзейнічаў Клуб украінскай моладзі, а пры ім — украінскае падполле. Як успамінала ў 1990-я кіраўніца клуба, піяністка

Наталля Шыйко (у пачатку вайны ёй было 21), «прыйшлі хлопцы і сказалі: Наталка, ты грай, а мы будзем рабіць тое, што трэба». Адным з членаў падполля быў берасцеец Дмытро Лівай. Ён уцёк ад гестапа і перайшоў на нелегальнае становішча — стаў заўгасам партызанскага атрада УПА «Помста Палесся», які здзейсніў адну з самых удалых аперацый украінскіх паўстанцаў: вясной 1943 года на дарозе Ковель – Роўна быў забіты нямецкі генерал, шэф спецаддзелаў СА Віктар Люцэ.

У канцы жыцця Лівай жыў у доўгім доме з блакітнымі балконамі па Маскоўскай, 340. Гэта быў чалавек з традыцыямі: кожную вечарыну ён пачынаў з песні «Реве та стогне Дніпр широкий», як тое было ў яго партызанскім атрадзе.

### Мадэрнісцкія сядзібы

Фішка Берасця — яшчэ і дыхтоўныя міжваенныя сядзібы ў стылі канструктывізму.



ФОТА ТОМЫ БАБІНАЙ

Сапраўдным грамадскім цэнтрам быў двухпавярховы дамок па Гогаля, 19. Тут жыў Васіль Дмытрыюк — вядомы лекар, які працаваў у некалькіх бальніцах Берасця, у прыватнасці ў сучаснай бальніцы №1 на Граеўцы.

Сын селяніна з-пад Берасця (ягоная радзіма — Кастамлоты на левым беразе Буга , цяпер у Польшчы) Васіль Дмытрыюк стаў не толькі доктарам, але і палітыкам: у 1922 годзе ён атрымаў мандат дэпутата ў польскі сейм ад Берасцейшчыны.



**Гэты мілы дамок ледзь не ўзарваў польскі падпаручнік**, якога расkватаравалі да Дмытрыюкоў у 1920 годзе. Аднойчы ноччу ад свечкі загарэўся яго чамадан, агонь пайшоў па падлозе і ўжо падабраўся да пачка гранат, які падпаручнік трымаў у сябе. На шчасце, гаспадары своечасова прачнуліся.

Жонка Васіля Дмытрыюка Аляксандра была праваслаўнай актывісткай і першай кіраўніцай берасцейскага Саюза ўкраінак. Яе браты Васіль і Уладзімір Крыніцкія, вядомыя адвакаты, жылі побач, на плошчы Свабоды, 3, цяпер там паліклініка. Крыніцкія абаранялі ў польскім судзе шматлікіх палітычных актывістаў, у прыватнасці членаў Кампартыі Заходняй Беларусі.

У 1940 годзе братоў як кіраўнікоў «Просвіты» ▶



У вайну ў гэтым дамку з дыхтоўнай аркай была **канспіратыўная кватэра УПА.**

ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА

### Меню ўкраінскіх вечарынак

Нейкі час на Гогаля, 19 жыла і сям'я Голадаў, якая пасля пераехала ў прасторны дом у прыгарадным Адамкове, на вуліцу Вясёлую. У іх збіраўся сапраўдны салон. Гасцей прымала Алена Голад, выкладчыца танцаў і знаная кулінарка. Яна дасылала рэцэпты ў львоўскі часопіс інтэлектуальных жанчын «Нова хата» — так яны захаваліся. Варэнікі з тварагом з грачанай мукі, ральмопсы — рулецікі марынаванага селядца з начынкай з цыбулі, морквы ды смажаных памідораў, цяляціна з ячна-карнішоннай начынкаю і торт з каштанаў — меню ўкраінскіх вечарынак Берасця ў міжваенны час.

і Украінбанка арыштавала НКВД. Іх сем'і выслалі, а Васіль і Уладзімір, якім было 52 і 57 гадоў, апынуліся ў турме. 22 чэрвеня 1941 года ахова разбеглася, і людзі выйшлі на свабоду. А праз паўтара года браты трапілі ўжо ў нямецкую турму. Яны выжылі, і ў 1944-м змаглі выехаць у Польшчу.

## Украінскі камітэт

Украінскі камітэт у час вайны знаходзіўся па Камсамольскай, 30. Члены камітэта займаліся справамі пачатковых школ, курыравалі Рамесную і Тэхнічную школы, спрабавалі дамагчыся ўкраінізацыі царквы...

Пры гэтым любыя палітычныя арганізацыі былі пад забаронай. За сувязь з украінскім падполлем каралі расстрэлам.

Быў такі Леанід Перавяртайла. Украінец-усходнік, у 1939-м яго сям'я прыехала ў Берасце з Канатопа на Сумшчыне. У 1941 годзе ён прасякнуўся ідэяй адраджэння ўкраінскай дзяржавы.

### Стары берасцейскі рэцэпт: смажаніна з бураком

2 кг выразкі прырумяніць, падліць вады і тушыць, як звычайную смажаніну. Калі памякчэе, пасаліць, засыпаць лыжку мукі, пакласці 4 чырвоныя буракі, асобна звараныя, рэзаныя кубікам, і 0,5 кг сушаных сліў. Заліць шклянкай смятаны, яшчэ раз давесці да кіпення і падаць. Смажаніна павінна мець шмат падліўкі і быць чырвонай.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY MTOOME




**Тут, на плошчы Свабоды, 3, жылі адвакаты браты Крыніцкія.** Спакойнымі, прыязнымі і бяскрыўднымі называе іх колішні настаяцель Свята-Мікалаеўскай царквы Мітрафан Зноска (а ён быў чалавекам скептычным, мала хто мог атрымаць ад яго такую характарыстыку).

ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА

Устанавіў сувязь з аунаўскім падполлем, распаўсюджваў улёткі. Немцы яго арыштавалі і забілі, а цела павесілі ў памяшканні Украінскага камітэта. Гэта быў знак мясцовым украінцам: вось, глядзіце, што бывае з тымі, хто ідзе супраць немцаў.

## Крэпасць

Гід па Брэсцкай крэпасці налічвае 12 пунктаў. Крэпасць збудаваная на месцы старога горада. Там ёсць унікальны музей, дзе археолагі раскапалі тры вуліцы, 220 пабудоў XIII стагоддзя, часоў Галіцка-Валынскага княства. У Беларусі мала вядома, што і яно разам з Полацкім і Тураўскім з'яўляецца часткай нашай старажытнай гісторыі.

Галіцка-валынскі князь Уладзімір Васількавіч стаў самым значным кіраўніком Берасця за ўсю гісторыю. Ён пабудаваў не толькі Камянецкую вежу на мяжы з Вялікім Княствам Літоўскім, але і вежу ў Берасці (побач з музеем), і першы берасцейскі каменны храм.

Летапісец паказаў яго суперменам: «лицем красен, рукы же име красны и ногы» — з прыгожым тварам, рукамі, нагамі... Праўда, даў і рэалістычныя дэталі: нізкі голас і тоўстая ніжняя губа. Князь пражыў усяго 40 гадоў і памёр ад раку ніжняй сківаці і гартані.

Украінская праваслаўная царква абвясціла яго святым благаверным князем. Ініцыятарам кананізацыі выступіў наш зямляк, берасцейскі ўкраінец Георгій Мусевіч, чэмпіён Беларусі па плаванні і заслужаны трэнер.

**Тут у час апошняй вайны размяшчаўся Украінскі камітэт.** У 1943–1944 гадах у гітлераўскіх турмах загінулі два яго старшыні і шматлікія ўкраінскія дзеячы. Мала хто з украінскіх актывістаў пераэжыў нацысцкую акупацыю.



ФОТА РЫГОРА КУПРЫЯНОВІЧА

Крэпасць — яшчэ і месца стварэння Грэка-каталіцкай царквы. Побач са скульптурнай кампазіцыяй «Смага» ў 1596 годзе прайшоў сабор, які зацвердзіў унію Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай. А яшчэ тут, пры Свята-Мікалаеўскай царкве, настаўнік са Львова Лаўрэнцій Зізаній напісаў знакавыя кнігі: першы царкоўнаславянскі буквар і першы слоўнік з перакладам царкоўна-славянскіх слоў на мову «рускую», гэта значыць беларускую і ўкраінскую (нашы мовы і цяпер маюць 80% агульнай лексікі, а ў XVI стагоддзі яе было больш). Кнігі выйшлі ў Вільні ў 1596 годзе.

У крэпасці месцілася і турма, у якой пры Польшчы адбываў пажыццёвае зняволенне Сцяпан Бандэра. «Брыгіткі» — у мурах былога манастыра ордэна брыгітак — сучаснікі жартам называлі «элітным курортам для вельмі важных персон».

Бандэра і іншыя зняволеныя ўцяклі 13 верасня 1939 года, калі пасля чатырохдзённай абароны ад нямецкіх войскаў палякі пакінулі ўмацаванні. Будынак былога манастыра, ацалелы ў вайну, быў падарваны ў 1955 годзе.

Цяпер большую частку тэрыторыі старога горада займае



**Гід «Брэсцкая крэпасць: украінскія гісторыі»** можна знайсці на сайце izi.travel або па QR-кодзе:



велічны мемарыял савецкіх абаронцаў крэпасці ў 1941-м.

## Берасцейскі мір

Крэпасць — гэта і Берасцейскі мір 1918 года, падпісаны ў Белым палацы. На жаль, ад палаца засталіся толькі руіны, ён быў разабраны падчас пабудовы мемарыяла.

Гэты мір азначаў прызнанне Украінскай Народнай Рэспублікі вялікімі дзяржавамі, яна была адным з бакоў на перамовах. У гонар 75-годдзя Берасцейскага міру ў Кіеве назвалі станцыю метро — «Берестейська».

Цікава, што пры пасярэдніцтве УНР на перамовы трапілі і дзеячы БНР. Украінцы запрасілі паняволеныя народы імперыі ўзяць удзел у перамовах у складзе іх дэлегацыі. І беларусы даслалі Янку Сераду ды Сымона Рак-Міхайлоўскага. Апошні вядомы як аўтар музыкі да песні «Зорка Венера».

З мілага: захавалася меню вячэры ў дзень падпісання міру. На закуску дэлегатам падавалі халодны паштэт з печані з маслам і падсмажаным хлебам, потым суп з бычыным хвастом, на другое яечню з вяршковым соусам і запечаную гуску з чырвонай капустай і бульбай. На салодкае — шчарбет, каву і торт.

Калі УНР прайграла вайну бальшавікам, воіны арміі УНР аказаліся ў бязвыхадным становішчы. У савецкай Украіне іх чакала турма ці расстрэл. І Польшча дазволіла ім перайсці мяжу ды пасяліцца на польскай



WIKIMEDIA COMMONS

**Паэт і чэкіст Дмітро Фалькіўскі** быў адным з першых расстраляных у перыяд сталінскіх рэпрэсій.

тэрыторыі. Так 41 тысяча чалавек, эліта ўкраінскага грамадства, апынулася на эміграцыі. Лагер для інтэрнаваных стральцоў УНР размясцілі ў Берасці, магілы памерлых у той час можна пабачыць на Гарнізонных могілках.

Атрымаўшы дакументы, многія эмігранты з УНР пасяліліся ў Берасці.

## Два класікі: чэкіст і паляўнічы

З Берасцем звязаныя і два ўкраінскія класікі. Паэзію Дмытра Фалькіўскага вывучаюць ва ўкраінскай школе, называюць адным з найлепшых баталістаў і экспрэсіяністаў. Але на радзіме яго найперш ведаюць па вершы «Очерет мені був за колиску», які стаў народным рамансам:

Очерет мені був за колиску;
В болотах я родився і зріс.
Я люблю свою хату поліську…
Я люблю свій зажурений ліс… ▶

▶ Що там тропіки, що там пампаси? —
Загляніть-но у пущу до нас!..
Я оддав би за неї одразу
І Тібет, і Урал, і Кавказ…

Сялянскі сын з-пад Кобрына Дмытро Ляўчук — гэта сапраўднае прозвішча пісьменніка — перад Першай сусветнай скончыў берасцейскую гімназію (цяпер тут філфак БрДУ на вул. Міцкевіча, 28). У 1918 годзе пасля курсаў украіназнаўства (яны праходзілі ў Белым палацы) працаваў настаўнікам у родным сяле Вялікія Лепясы. Калі прыйшлі польскія войскі, ён сышоў у партызаны, адступіў разам з бальшавікамі і тры гады адслужыў у мінскай ЧК.

Пасля Ляўчук пераехаў з Мінска ў Кіеў і ўзяў


WIKIMEDIA COMMONS

Пісьменнік і прадвадзіцель берасцейскага дваранства **Алекса Старажэнка.**

сабе псеўданім. Працаваў у часопісе «Кіно». Перакладаў, у прыватнасці, беларускага паэта Язэпа Пушчу. Пра службу ў ЧК успамінаць не любіў. Ён усвядоміў бессэнсоўнасць ахвяр рэвалюцыі, вершы канца 1920-х проста сочацца раскаяннем.

Як член Саюза пісьменнікаў, ён узяў удзел у будаўніцтве Дома Раліт (гэта значыць работнікаў літаратуры). Але перад засяленнем яго раптам пазбавілі права на кватэру. Фалькіўскі ўзяўся за апеляцыі, справа дайшла да першага сакратара КП(б)У Паўла Постышава. У яго прыёмнай пісьменніка арыштавалі і, абвінаваціўшы ў арганізацыі замаху на першага сакратара, расстралялі.

А ў прыгарадзе Трышын, які цяпер стаў адным з раёнаў Берасця (гл. пра яго ў артыкуле Антося Дацкевіча ў № 6/2019 «Нашай гісторыі»), пражыў апошнія гады іншы класік, аўтар гумарыстычных апавяданняў Алекса Старажэнка (1806–1874) — той самы, у гонар якога пры паляках звалася ўкраінская школа. Дом яго згарэў, на тым месцы цяпер санаторная школа-інтэрнат (вул. Трышынская, 20).

## Мазаіка гаворак Берасцейшчыны

Для большасці берасцейскіх гаворак уласцівая такая яркая рыса ўкраінскай мовы, як ікавізм: на «кот» тут кажуць «кіт», соль — «сіль», лес тут «ліс».

А ёсць на Берасцейшчыне і асаблівыя гаворкі. Сустракаюцца рысы, характэрныя для Карпат ці Балкан, іх перадае «дражнілка»: «Закрий двари, вітар дма» («Зачыні дзверы, вецер дзьме»). Магчыма, гэта сёлы, дзе ў прадаўнія часы перасяліліся людзі з Карпат.

Адметная асаблівасць іншых гаворак — «еканне»: «Жєба в ємці єблачко качєла, зєть на жєбу наступив — жєба чєвкнула» («Жаба ў ямцы яблычак качала, зяць на жабу наступіў — жаба чаўкнула»).

Яшчэ ёсць астраўкі гаворак з «уканнем»: «Муй кут скочив на плут» («Мой кот скокнуў на плот»). Так гавораць не толькі пад Берасцем, але і ў Бярозаўскім, Пінскім раёнах, на частцы Житоміршчыны, Карпат. Магчыма, некалі адно са славянскіх плямён ішло гэтым маршрутам і рассялялася.



Пісьменнік пераехаў у Берасце на пенсіі, у 1868 годзе. Служыў на пасадзе прадвадзіцеля мясцовага дваранства. Новыя апавяданні ён апрабоўваў на суседскіх хлопчыках і сваіх сябрах — берасцейскіх святарах.

**Берасце найпрыгажэйшае вясной, калі квітнеюць абрыкосы. У Берасці іх шмат, як нідзе ў Беларусі**



ПРОСВІТ, PROSVIT.ORG

**Жыхары Берасця прыбіраюць магілы вайскоўцаў Украінскай Народнай Рэспублікі** на Трышынскіх могілках.

Відавочцы ўспаміналі, што з чыноўнікамі і дваранамі ён размаўляў па-расійску, а да сялян звяртаўся па-ўкраінску. Старажэнка шмат маляваў, займаўся разьбярствам і граў на віяланчэлі. Любіў паказаць сілу: як сам пісаў, «згінаў двухгрывенныя і падымаў дзесяць пудоў» — значыць, выціскаў па 160 кг.

На Мухавец пісьменнік хадзіў паляваць на качак. Аднойчы ў час палявання зваліўся ў ваду, прастудзіўся і памёр. Быў нежанаты, дзяцей не меў. Прыбіранне магілы пісьменніка на Трышынскіх могілках — рытуал мясцовых украінцаў, які выконваецца з 1905 года па цяперашні час.




### Трышынскія могілкі

Трышынскія могілкі — найстарэйшыя ў Берасці і адны з найстарэйшых у Беларусі. Яны з'явіліся ў сярэднія вякі на месцы гоцкіх пахаванняў. Тут захаваліся і сялянскія ▶

**Гід «Берасце: украінскія гісторыі. Вялікі тур»** можна знайсці на сайце izi.travel або па QR-кодзе:






**Леся Украінка і вакзал у маўрытанскім стылі**, якім ён быў у часы яе праезду.

## Вакзал «Брэст-Цэнтральны»

Першы берасцейскі вакзал быў пабудаваны ў 1886 годзе, хоць станцыя з’явілася на 13 гадоў раней.

Праз толькі што пабудаваны берасцейскі вакзал праязджала 17-гадовая Леся Украінка. Маці везла яе ў Варшаву на кансультацыю — дзяўчына хварэла на туберкулёз костак. Напэўна, чуллівую Лесю, ды і маці, пісьменніцу Алену Пчылку, уразіў вакзал у маўрытанскім стылі, што нагадваў крэпасць з сярэднявечнага Усходу. Магчыма, жанчынам пашанцавала ўбачыць і ўнікальнае асвятленне — менавіта ў год Лесінай вандроўкі (1888) «Брэст-Цэнтральны» быў электрыфікаваны 160 лямпачкамі. Такога не ведаў тады ніводзін іншы вакзал у Расійскай імперыі, усюды яшчэ карысталіся газавымі лямпамі.

У пачатку 1920-х тут праязджаў 18-гадовы Серж Ліфар, адзін з найвялікшых танцоўшчыкаў XX стагоддзя. Гэты нашчадак казацкага роду дабіраўся з Кіева ў Парыж з прыгодамі. У першы раз яго абрабавалі, арыштавалі і пасадзілі ў камеру да тыфозных. Пры другой спробе ўцячы ад чырвонаармейцаў усё ж удалося.

У Варшаве Ліфар жабраваў два тыдні, пакуль славуты антрэпрэнёр Сяргей Дзягілеў не даслаў яму грошы на квіток у Парыж. Тут хлопца чакала сусветная слава. Толькі... «Нават бліскучы Парыж не змог прымусіць мяне забыцца на мой шырокі, велічны Дняпро», — успамінаў заснавальнік акадэміі танца пры «Гранд-Опера» і ганаровы прэзідэнт Сусветнай рады танца ЮНЕСКА. Ён дазваляў сабе выходзіць на вуліцы Парыжа ў вышыванцы...

Ёсць і гісторыі, звязаныя з УПА. У канцы 1940-х проста на пероне схапілі сувязную Ніну Смачук, якая чакала цягніка. У драўляным самаробным чамадане знайшлі пачак лістовак і фота падпольшчыка Андрэя Міхалевіча. Ніну вырашылі паравербаваць, але яна пры першай магчымасці ўцякла ў лес. У 1951 годзе яе зноў схапілі... А яшчэ народ памятае, як байцы УПА адстрэльваліся ад міліцыі, засеўшы ў ДК чыгуначнікаў (каля самага вакзала)...

Адным з двух архітэктараў, якія ў 1950-я стварылі праект цяперашняга, звыклага ўсім вакзала, быў Генадзь Гранаткін з Кіева. Ён з’яўляецца таксама аўтарам станцый метро «Хрэшчатык», «Дняпро» і «Арсенальная» ў Кіеве.

А найпрыгажэйшы вакзал вясной, калі проста каля рэек квітнеюць белыя яблыні і ружовыя абрыкосы — сляды ўжо зніклых сядзіб чыгуначнікаў.

▶ крыжы на валунах, і манументальныя помнікі гараджан. Захаваліся тут і помнікі берасцейцаў-украінцаў і асоб, звязаных з украінскім рухам.

Сярод іх протаіерэй Канстанцін Зноска, святар Свята-Мікалаеўскай царквы ў цэнтры горада. У міжваенны час ён здаваў домік ля храма ўкраінскай арганізацыі «Просвіта», выкладаў Закон Божы ва ўкраінскай школе і дапамагаў у арганізацыі ўкраінскіх свят у актавай зале рускай гімназіі.

Тут жа знайшоў спачын любімы спявак і кампазітар берасцейцаў, рэгент той жа царквы Васіль Пантэлэвіч, які павесіўся ў турме гестапа.

Тут знаходзяцца пахаванні эмігрантаў з Украінскай Народнай Рэспублікі. На іх магілах характэрныя помнікі — так званыя казацкія крыжы.

У 1993 годзе на могілках адкрылі помнік ахвярам рэпрэсій. Гранітную пліту з надпісам «Вечная памяць ахвярам палітычных рэпрэсій, бязвінна загіблым у турмах, лагерах, рудніках, лесапавалах, прыісках ГУЛАГ» і выявай жанчыны ў жалобе зрабіў мясцовы ўкраінец, кіраўнік маларыцкага філіяла «Просвіты» Уладзімір Харсюк. Гэты актыўны і аптымістычны чалавек таксама зведаў рэпрэсіі: яму, акцёру драмтэатра, у 1950-я гады прапанавалі сысці, паколькі яго мясцовы акцэнт «не адпавядае рускаму тэатру».

У наш час валанцёры кожную вясну, напярэдадні Вялікадня, арганізуюць на Трышыне акцыю «Ясныя вочы» — прыбіраюць магілы ўкраінскіх дзеячаў. «Ясныя вочы» — бо прыбраць на магілах значыць адкрыць вочы продкаў, якія там ляжаць. ◆

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малым два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**

**«Асцярожна: дзеці!» — 75080**

(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)




Кавярня «Florian» у Венецыі.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MARGARITAGLOTOVA

# Carpe diem. Кава

**Італьянцы ператварылі каву ў культ, як гэта ўмеюць толькі італьянцы, піша Андрэй Дзмітранок.**

2020 год. Раніца. Рым. Горад напаўняецца водарам выпечкі і кавы. Хтосьці спяшаецца, хтосьці чытае газету, крамы зачыненыя, яшчэ не гойсаюць скутары.

— Калі ласка, два капучына. Для сіньёры круасан з фісташкавым крэмам, а мне з шакаладнай нутэлай.

Нам падабаецца снедаць у кавярнях. Усяго некалькі еўра — і няма розніцы, турыст ты ці мясцовы. Пакуль бразгаеш кубачкам, ты — частка рытму Вечнага горада. П'еш і назіраеш. Хто ўваходзіць, таго бармен вітае ўсмешкай, а калі гэта жанчына, кажа ёй камплімент.

Сёння ж увогуле дзень асаблівы. У выпадковай кавярні, апроч смачнай кавы, нас запрасілі ў святая святых — месца, дзе пражаць каву.

### Сям'я Чамей

Бізнэсу сям'і Чамей 120 год. Галоўныя актывы — кавярня і цэх па пражанні кавы. Франчэска Чамей, уладальнік бізнэсу, адказаў на мае пытанні:

**— Сіньёр Франчэска, у вас столькі наведвальнікаў, што не прапхнуцца. Гэта прызнанне вашай працы з боку рымлян?**

— Нам пашанцавала пражыць разам гэтыя 100 гадоў. Рымляне нас добра ведаюць і, па сутнасці, наведвальнасць — гэта вынік беспярапыннасці стасункаў і рэпутацыі. Са свайго боку, мы ў пастаянным пошуку высакаякаснай кавы, якую прапануем па справядлівай рынкавай цане, а не завышанай, як гэта часта бывае. Наш эспрэса прадаецца ўсяго за 0,80 €, і гэта самая нізкая цана ў Рыме.

**— Знакамітыя італьянскія брэнды кавы паходзяць з паўночнай Італіі. Ці вялікая розніца ў густах паміж Рымам і поўначчу?**

— Ступень пражання кавы ў цэнтральнай і паўднёвай Італіі,

уключаючы Рым, традыцыйна цямнейшая за тую, што робяць у паўночнай Італіі. Для нас ідэальнае пражанне, калі сумесь становіцца карычневага колеру, прыкладна як вопратка ў францішканскіх манахаў.

## Ідэальнае рымскае пражанне, калі кава робіцца карычневаю, як вопратка ў манахаў-францішканцаў

Акрамя таго, нас адрозніваеце тое, што ў нашых сумесях больш рабусты, чым арабікі. Памылкова лічыцца, што рабуста — гэта сінонім нізкай якасці, але гэта не так. У яе проста больш горкі смак. Я цвёрда перакананы, што папулярная паўсюдна арабіка лепш за ўсё раскрывае свае якасці менавіта ў нашым спалучэнні з рабустай.

— **Мне казалі, добры эспрэса — гэта спалучэнне чатырох кампанентаў: сумесі кававых зерняў, памолу, кавамашыны, рукі. Можаце распавесці пра руку, у чым яе магія?**

— Рука барыста — гэта, безумоўна, важны кампанент, нават легендарны, але ў параўнанні з іншымі яму надаецца занадта вялікае значэнне. На мой погляд, галоўнае — гэта правільны ціск кавамашыны. Аднак пры самым правільным ціску мала што атрымаецца, калі барыста не ў стане выбраць належную ступень памолу, скарэктаваць яе ў залежнасці ад умоў надвор'я ці



ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Машына для пражання кавы** у кавярні сям'і Чамей.

калі не захоўвае сваю кавамашыну ў належным стане.

Апошняе можа прывесці да таго, што саб'ецца правільны ціск і будзе празмернай экстракцыя з непрыемным смакам гарэння. Я думаю, што, калі кажуць пра руку, маюць на ўвазе здольнасць адчуваць каву.

— **Адкуль ваша зерне?**

— Мы імпартуем каву з Бразіліі, Калумбіі, Гватэмалы, Перу, Мексікі, Эфіопіі, Уганды, Інданезіі, Індыі, В'етнама.

У Італіі не прасіце *espresso*, кажыце *caffè*, а *latte* абавязкова суправаджайце словам *caffè*, калі не жадаеце атрымаць шклянку звычайнага малака.
Увогуле, італьянцы кіруюцца правілам: каву з малаком п'ём выключна зранку. Шпіён-іншаземец можа ўдаваць сябе за мясцовага да той пары, пакуль не замовіць пасля абеду які капучына ці мак'ята.

— **Парайце, як правільна купляць каву?**

— Самая простая і ў той жа час эфектыўная парада, якую я магу даць, — па магчымасці набываць каву ў зернях. Звяртайце ўвагу на цэласнасць, аднастайнасць, памер. Ступень пражання залежыць ад таго, якую каву вы жадаеце бачыць у сваім кубку. Увогуле, аматары кавы ведаюць, што хатні млынок — гэта найлепшая інвестыцыя. Людзі марнуюць шмат грошай, каб купіць дарагія кавамашыны, і я іх разумею — гэта сімвал статусу. Але добры млынок з кававаркай гейзернага тыпу дазваляе атрымаць каву мока з ідэальным смакам. ▶



**Памол кавы на продаж** у кавярні сям'і Чамей.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА




**Антоніа Фарына,** памочнік сіньёра Франчэска, параўновае яшчэ не пражанае зерне з гатовым.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

▶ **— Што для вас кава, апроч прафесіі?**

— Кава — мая страсць. Гэта не толькі напой, але яшчэ і вечны пошук спалучэнняў за межамі кубка. Кава можа быць інгрэдыентам для кактэйляў, лікёраў, дэсертаў, з яе робяць нават муку. Калі б вы толькі маглі пакаштаваць цірамісу з маёй кавай ці негроні* з настоем кававых зерняў! Карацей кажучы, мне прыемна ўсведамляць, што мой прадукт можа прысутнічаць больш шырока, чым іншыя могуць сабе ўявіць. І ўрэшце, я проста люблю каву.

## Пастух Калдзім з казой

Еўропа спазнала смак кавы напрыканцы XVI стагоддзя, што па часе супала са знаёмствам з прадуктамі Новага Свету: бульбай, таматамі, шакаладам. Але Амерыка не мае дачынення да паходжання кавы. Як і само чалавецтва, кава — афрыканка.

Стагоддзямі адседжвалася, нікому не замінаючы — расла дзікім дрэвам у эфіопскай правінцыі Кафа. Пакуль у 850 годзе пастух, імя якому Калдзім, не заўважыў, што козы, як падсілкуюцца ягадамі невядомай расліны, робяцца надзвычай бадзёрымі.

Эфект пастуха зацікавіў, і ён аднёс ягады мясцовым манахам. Манахі першымі зрабілі з кавы напой — узвар з лісця.

Праз некалькі стагоддзяў эксперыментаў кававае зерне паспрабуюць упершыню пра́жыць. Адбудзецца гэта прыкладна ў XII стагоддзі ў Емене.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY IGORVETUSHKO

**Майстэрства барыста —** важны кампанент добрага эспрэса.

На Аравійскім паўвостраве кава заваявала вялікую папулярнасць. Ужыванне алкаголю забаранялася Каранам, а кава — не, у часы з'яўлення святой кнігі мусульман кавы яшчэ не ведалі.

## На фоне Венецыянскай лагуны

Лекар, батанік і амбасадар Венецыі ў Каіры Праспера Альпіні адным з першых завязе каву ў Еўропу і занатуе: «У Егіпце часта сустракаецца дрэва, на якім растуць плады, званыя егіпцянамі "бон". Арабы і егіпцяне робяць з іх адвар і п'юць замест віна. Гэты адвар прадаецца ва ўсіх мясцовых корчмах, як у нас віно».

Раней за Альпіні пра каву пісалі генуэзскі марак Антоніа Менавіна і аўгсбургскі медык Леанарда Раўфвольф, але ў асобе Альпіні ўвасабляецца і роля Венецыі. Гэта яе купцы наладзілі пастаўку кавы ў Еўропу, гэта тут, у горадзе на вадзе, адкрылася першая кавярня.

Альпіні заўважыць істотную дэталь: арабы пілі каву ў корчмах. То-бок акцэнтуецца здольнасць кавы спрыяць сацыяльным кантактам. Пазней у Еўропе гэта пацвердзіцца і нават стане пагрозай стабільнасці: «Кава — хрысціянскі напой, а кавярні — увогуле зборышча бунтаўнікоў і крамольнікаў», — скажуць у царкве.

Новы прадукт напужае лекараў і навукоўцаў. Прафесар Каломба з Марсельскага ўніверсітэта ў 1679 годзе прамовіць: «Часціцы, якія змяшчаюцца ў напоі, валодаюць настолькі магутнай сілай, што разбураюць усю лімфу і высушваюць ныркі. Яны таксама пагражаюць мозгу, абязводжваючы яго і высушваючы звіліны. У выніку ў спажыўцоў кавы непазбежна развіваецца знясіленне, параліч і імпатэнцыя». Спрычыніліся да дэманізацыі

* **Негроні** — кактэйль з джыну, кампары і вермуту з лустачкай апельсіна.

і гандляры алкаголем, якія, баючыся канкурэнцыі, сцвярджалі: «Кава — гэта сіроп з сажы і агідны адвар старых ботаў».

Аднак хоць паходжанне з мусульманскага свету, незразумелыя медыцынскія наступствы, канкурэнцыя і шэраг іншых міфаў да часу стрымлівалі распаўсюджанне звычкі, але ўрэшце ўсё ж не вытрымалі перад


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PXHIDALGO

Ягады кафейнага дрэва.

масавым густам. Большасці людзей напой спадабаўся, як і магчымасць бавіць час у кавярні.

### Фларыян Франчэскары частуе гасцей

Першая еўрапейская кавярня з'явіцца ў 1640 годзе ў Венецыі на плошчы Сан Марка. Ёсць меркаванне, што гэтай кавярняй была *«Florian»*, але гэта не так. Першая кавярня мела назву *«Arab»* і да нашага часу не захавалася. А ў чым дакладна *«Flroian»* (адчыненая гандляром Фларыяна Франчэскары ў 1720 годзе) была першай, дык гэта ў дазволе наведваць кавярню жанчынам.

Венецыянцы новы тып установ ухвалілі. У кавярнях яны сустракаліся з сябрамі, праводзілі гандлёвыя аперацыі, абмяркоўвалі гарадскія навіны і плёткі. Па сутнасці, рабілі тое ж самае, што робім і мы ў XXI стагоддзі.

Кавярня *«Florian»* была ў эпіцэнтры. Там працавала рэдакцыя першай у свеце газеты гарадскіх навін *«Gazzetta urbana veneta»*. А калі пачаўся рух за незалежнасць, *«Florian»* ператварылася ў штаб супраціву.

У свой час кавярню любілі наведваць Жан-Жак Русо, Ёган Вольфганг фон Гётэ, Джордж Гордан Байран, Эрнэст Хемінгуэй, Іосіф Бродскі. Працуе яна і сёння: кубачак кавы — ад 3 еўра, а адчуванне гісторыі цаны не мае.

Калі вы цікавіцеся гісторыяй Венецыі, чытайце № 2/2020 «Нашай гісторыі», дзе гораду прысвечаны асобны матэрыял.

### Юрый Кульчыцкі з круасанам

Хто хоць раз наведваў Львоў, той абавязкова будзе мець планы туды вярнуцца. Там смачна, цікава, а кава — адна з візітовак горада. Як яе толькі там не гатуюць і не падаюць! Нават імітуюць, што здабываюць у шахце (гл. артыкул Андрэя Кусія ў № 5/2018 «Нашай гісторыі»).

Агулам у Львове можна пакаштаваць больш за 30 гатункаў кавы, але ж галоўны напой — кава па-венску. Вена? Але чаму я тады пішу пра Львоў? Усё проста. Менавіта каля Львова ў 1640 годзе нарадзіўся Юрый Кульчыцкі — стваральнік кавы па-венску.

Авантурыст па натуры, Кульчыцкі адзначыўся тым, ▶

### Італьянская тэрміналогія

Кава стварае эстэтыку і ў залежнасці ад геаграфіі мае безліч нюансаў. Палякі залiваюць дробнага памолу каву кіпнем, ірландцы дадаюць у каву віскі, туркі гатуюць на гарачым пяску. Пра беларускія традыцыі чытайце тэкст Алеся Белага ў № 4 «Нашай гісторыі» за 2018 год.
Але галоўнае месца ў гісторыі кавы займае Італія. Гэта яе мовай мы замаўляем каву. Вось толькі некаторыя папулярныя віды:

*Cappuccino* — «капюшон», эспрэса з вялікай малочнай пенкай, што нагадвае накідку манаха-капуцына.
*Macchiato* — «з плямкаю», эспрэса з кропелькай малака.
*Ristretto* — «зменшаны», вельмі моцны эспрэса з малой колькасцю вады.
*Freddo* — «халодны», эспрэса з лёдам.
*Caffelatte* — эспрэса з малаком.
*Moccacino* — эспрэса, вяршкі, шакалад.
*Espresso romano* — «па-рымску», эспрэса з лімонам.
*Americano* — «па-амерыканску», эспрэса з вялікай колькасцю вады.

Памятаеце, у галівудскім кіно часта прапануюць падліць кавы са шклянога збана? Гэта кава «па-амерыканску», яе робяць у кававарцы кропельнага тыпу, а *americano* — эспрэса, у які дадалі вады. Адно значэнне, але ў залежнасці ад мовы дае розныя вынікі.

▶ што аднойчы выратаваў Вену ад захопу турэцкімі войскамі. За гэта ён атрымаў узнагароду: дом, пазбаўленне ад падаткаў і турэцкі трафей — 300 мяхоў кавы. У адрозненне ад венцаў, Кульчыцкі ведаў пра каву, бо ў юнацтве яму давялося пабыць у турэцкім палоне. Венцы ж каштоўнасць невядомага зерня ацаніць не маглі, ды і не шкада было для героя.

Кульчыцкі адкрые кавярню «Дом пад блакітнай бутэлькай», адно што толькі венцы, нават пакаштаваўшы, каву не прымуць адразу. Яны будуць хадзіць у кавярню, каб паслухаць героя, а не дзеля кавы. Тады Кульчыцкі пачне эксперыментаваць: першым дадасць у каву цукар, у напоі з'явіцца малако. Так турэцкая кава перарадзілася ў знакамітую каву па-венску.

А ці любіце вы круасаны? Іх з'яўленне — зноў-такі заслуга Кульчыцкага. Ён узяў за прататып усходнія булачкі з формай паўмесяца і зрабіў іх часткай кававай традыцыі.

### Італьянскія інжынеры

Эспрэса ці экспрэса? Усё залежыць ад месца. Першапачаткова гэтая назва кавы ніяк не звязаная з хуткасцю, бо паходзіць ад італьянскага *esprimere* — «выціскаць». Адпаведна, гэта кава, зробленая пад ціскам. Таму правільна казаць «эспрэса».

Але што рабіць з характарыстыкай, якая так і напрошваецца, — экспрэса? Дарэчы, у Іспаніі ды Францыі прыжыўся менавіта тэрмін «экспрэса». У Беларусі яго таксама можна пачуць, але лепш пазбягаць, інакш засмяюць і шчокі стануць румянымі, нібы круасаны падыходзяць у печы. Толькі дарэмна саромецца, хуткасць і ёсць сутнасць эспрэса.

Кавамашыну для эспрэса распрацуюць трое міланцаў. У 1901 годзе Луіджы

**Першы ў Беларусі кафенгаўз** працаваў на рынкавым пляцы Слоніма, фасадам да рынка, тылам да палаца, дзе жыў князь Агінскі («Наша гісторыя», №11/2019).
У Гродне першы кафенгаўз адкрыў у пачатку 1770-х Антоні Тызенгаўз. Ён стаяў акурат на тым месцы, дзе цяпер месціцца галоўны корпус Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.
А першай кавярняй у Вільні лічыцца цукерня Казіміра Штраля на Замкавай (*Pilies*, 26), што адкрылася ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Бецэра запатэнтуе прынцып выкарыстання камбінацыі вады і пары. У 1903-м Дэзідэра Павоні набудзе патэнт і знойдзе ідэальны ціск (9 бараў) падачы вады. Завершыць удасканаленне Джавані Ахіле Гаджыя, які ў 1938-м даб'ецца правільнай пенкі — важнага складніка будучай папулярнасці.





**Юрый Кульчыцкі сярод наведвальнікаў сваёй кавярні «Дом пад блакітнай бутэлькай»** у Вене. Карціна невядомага мастака XVIII стагоддзя.

## Рабуста

**гарчэйшая за арабіку. Але арабіка лепш раскрывае свой смак менавіта ў спалучэнні з рабустай**

Добры эспрэса — моцны, духмяны, мае, як кажуць, кансістэнцыю — трохі цягучы, як цягучым бывае добрае віно. Пенка мусіць быць шчыльнай, пакрываць усю паверхню і не спадаць дзве хвіліны. Самой кавы няшмат: літаральна кропелькі, але выразныя

Ранішняя кава на фоне Везувія.

**У Неапалі ёсць традыцыя «падвешанай кавы».** Гэта калі замаўляеш адну каву, а плаціш за дзве. Адзін кубачак потым застанецца таму, хто сродкаў на каву не мае.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ENCRIER

і з глыбінёй смаку, поўнага адценняў. Эспрэса падаецца ў нагрэтым кубачку з вузкім дном і тоўстымі сценкамі. Ён такі маленькі, нібыта памерам хацелі прадухіліць траплянне ў амброзію лішняй кроплі вады.

На адну порцыю ідзе 7–9 грамаў свежазмолатай кавы, а гатуецца эспрэса ад 20 да 27 секундаў. Чым не экспрэса? Важна тое, што хуткасць прыгатавання адносна колькасці кавы не дазваляе вылучыць увесь кафеін, а ўсяго 60 мг. Адпаведна, можна прымаць да 5 порцый эспрэса на дзень, улічваючы, што дзённая норма здаровага чалавека — 300 мг.

Змены ад вынаходніцтва эспрэса былі тэктанічнымі. З хуткасцю, з якой беларусы змянілі ўяўленне пра сябе, гэтак жа сама па ўсім свеце адкрыецца безліч кавярняў з італьянскімі кавамашынамі. У добрых кавярнях і сёння сустрэнеш гэтую італьянку. Яна прыгожая, як узор інжынернага дызайну, пыхкае і пагруквае, нібы маторны аддзел карабля.

**Альфонса Біялеці вынайшаў кававарку мока пасля назірання за тым, як жанчыны мыюць бялізну.** Яны напаўнялі бакі вадой і грэлі іх на агні. Вадзяная пара падымалася і праходзіла праз брудную бялізну. Гэты прынцып быў выкарыстаны ў кававарцы.

PINTEREST.COM



**Кавамашыны ў пачатку XX стагоддзя** мелі даволі спецыфічны выгляд.

**Паглядзець, як у Італіі робяць эспрэса**, можна па к'юар-кодзе.



## І глядзіць на абуджэнне Везувія

Аднойчы ваш аўтар назіраў, як Везувій зацягваў чорным дымам неба Неапаля. Пяці раёнам горада загадалі эвакуіравацца з-за пагрозы вывяржэння вулкана. Але на маіх вачах неапалітанцы, нягледзячы на рызыку паўтарыць досвед суседняй Пампеі, працягвалі павольна смакаваць эспрэса. *Carpe diem*, «жыві сённяшнім днём», казалі старыя рымляне — мы пілі каву. ◆



**Партрэт Міхала Клеафаса Агінскага**, мастак Франсуа-Ксаўе Фабр, 1805 год.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ ЛІТВЫ.

**Міхал Клеафас Агінскі**
(1765–1833), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, дыпламат, кампазітар. Прадстаўнік уплывовага літоўска-беларускага магнацкага роду, ад пачатку праваслаўнага, а з XVII стагоддзя каталіцкага.

З маладосці займаў высокія дзяржаўныя пасады, быў паслом на сойм Рэчы Паспалітай, камісарам Скарбовай камісіі ВКЛ, вялікім мечнікам літоўскім, вялікім падскарбіем літоўскім. У якасці паўнамоцнага прадстаўніка Рэчы Паспалітай пабываў з дыпламатычнымі місіямі ў розных краінах Еўропы. Быў у добрых

# План Агінскага

## Як спрабавалі адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае пад скіпетрам Расійскай імперыі

**Як толькі ў 1795 годзе з палітычнай карты свету знікла Рэч Паспалітая абодвух народаў, яе эліты адразу пачалі шукаць спробы адрадзіць некалі магутную дзяржаву. Крокі былі розныя: адныя шукалі апекі пры дварах еўрапейскіх манархаў і ўрадаў, іншыя ўскладалі спадзеў на сумесную вайну з Турцыяй супраць Расіі і ўнутранае паўстанне. Але былі і такія, якія спрабавалі паразумецца ў гэтай справе з расійскім імператарам. Пра адзін з такіх планаў піша кандыдат гістарычных навук Павел Булаты.**

### Палітык, дыпламат і ваяр

Пачынаючы з першых гадоў XIX стагоддзя многія ліцвіны і палякі бачылі галоўным сваім збаўцам Напалеона Банапарта. Менавіта з асобай французскага імператара і яго вялікай арміяй звязваліся надзеі на адраджэнне незалежнасці Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Гэта знайшло сваё адлюстраванне, сярод іншага, і ў пачатку моды называць Напалеонамі сваіх нованароджаных дзяцей (гл. пра гэтую традыцыю, якая расцягнулася больш чым на стагоддзе, артыкул Дзяніса Лісейчыкава ў № 7/2019 «Нашай гісторыі»).

Але былі і такія, хто не хацеў давяраць лёс краіны амбітнаму карсіканцу. Частка шляхты зніклай краіны вырашыла пашукаць шчасця на іншым баку супрацьстаяння. Самым вядомым палітыкам гэтай групоўкі быў Міхал Клеафас Агінскі.

Так, гэта менавіта той самы Агінскі, вядомы цяпер перш за ўсё як кампазітар, аўтар знакамітага паланэза «Развітанне з радзімай». Але музыка для Міхала Клеафаса была толькі хобі, бо ў першую чаргу ён быў усё ж палітыкам і дыпламатам. Ягоная палітычная кар'ера пачалася даволі рана і развівалася хутка ды паспяхова: у 20 гадоў Агінскі быў абраны паслом на сойм (гэта як цяпер дэпутат парламента), у 25 стаў надзвычайным паслом у Рэспубліцы Злучаных Правінцый (так тады зваліся цяперашнія Нідэрланды), а ў 28 атрымаў пасаду вялікага падскарбія літоўскага (аналаг міністра фінансаў).

Потым было паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам, падчас якога літоўскі падскарбі ўзяўся за шаблю. А пасля яго паразы трыццацігадовы Агінскі быў вымушаны на некалькі гадоў пакінуць бацькаўшчыну і падацца на эміграцыю. Тады, дарэчы, і з'явіўся знакаміты паланэз.

адносінах з апошнім каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім, карыстаўся ягоным даверам і падтрымкай.

Падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 годзе ўвайшоў у Нацыянальную раду як віленскі дэлегат, змагаўся на поўначы Беларусі, зрабіў са сваім атрадам рэйд да Дынабурга (цяперашні Даўгаўпілс у Латвіі). Пасля паразы паўстання быў вымушаны эміграваць, маёнткі былі секвестраваныя.

Вярнуўся на радзіму ў 1801 годзе, актыўна ўключыўся ў грамадска-палітычнае жыццё. Быў цалкам лаяльны Расійскай імперыі, стаў сенатарам, узнагароджаны прэстыжнымі ордэнамі. У гэты час разбудаваў родавы маёнтак у Залессі на Віленшчыне (цяпер Смаргонскі раён), зрабіўшы яго прыкметным культурным цэнтрам. Жыў у Залессі да 1823 года, а пасля назаўсёды выехаў у Італію, на радзіму сваёй другой жонкі, Марыі дэ Неры. Памёр у Фларэнцыі.

Пакінуў пасля сябе чатырохтомныя «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1815 года». Па-беларуску пакуль выдадзеныя першыя два тамы ў перакладзе Вольгі Рамановіч.





### Паміж Напалеонам і Аляксандрам

Шанец Агінскаму вярнуцца з эміграцыі даў палацавы пераварот у Расіі ў сакавіку 1801 года, пасля якога на трон замест забітага змоўцамі Паўла І узышоў ягоны сын Аляксандр І. Той спачувальна ставіўся да Польшчы і палякаў, а таму працягнуў ім руку паразумення. Міхал Клеафас Агінскі быў сярод тых, каго гэта адразу натхніла і збудзіла надзею.

У 1801 годзе ён прыехаў у Гродна і прысягнуў новаму расійскаму імператару. А той выказаў прыязнасць да былога паўстанца і дапамог яму вярнуць спрэчкі з раней секвестраванымі зямельнымі ўладаннямі. Магчыма, у вачах некаторых сучаснікаў Агінскага яго адносіны з расійскімі ўладамі маглі ўспрымацца як здрада, але сам Міхал Клеафас лічыў, што робіць справу на карысць айчыне.

Вера ў магчымасць паразумення з расійскімі ўладамі не згасла ў яго і ў наступныя гады, калі ў шляхецкіх асяродках былой Рэчы Паспалітай поўным ходам забуяла напалеонаманія. Агінскі тады быў адным з нямногіх шляхціч аў, хто не даверыўся Напалеону і не бачыў у ім вызваліцеля. Ён, дарэчы, неаднаразова асабіста сустракаўся з Банапартам і найвышэйшымі чынамі Францыі і з гэтых сустрэч зразумеў, што адраджэнне Рэчы Паспалітай не ўваходзіць у планы Францыі, а Вялікае Герцагства Варшаўскае, створанае Напалеонам у 1807 годзе, не больш чым фармальнасць. Падпарадкоўвалася яно непасрэдна імператару Францыі, а вайсковыя фармаванні, набраныя з палякаў, выкарыстоўваліся як «гарматнае мяса» ў розных кутках Еўропы.

**Вялікае Герцагства Варшаўскае** дзяржава, утвораная ў 1807 годзе паводле ўмоваў Тыльзіцкага міру Напалеона з Аляксандрам І з польскіх тэрыторый, якія падчас другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Прусіі і Аўстрыі. Гэтае дзяржаўнае ўтварэнне з'яўлялася пратэктаратам напалеонаўскай Францыі і праіснавала да 1813 года.

Таму Агінскі асэнсавана зрабіў стаўку на расійскага імператара, які падаваўся яму больш ліберальным і адкрытым, чым французскі. І такое меркаванне не было беспадстаўным: Аляксандр І у першыя гады кіравання лічыўся рэфарматарам і да тэрыторый беларускіх і літоўскіх губерняў, далучаных да імперыі яго бабкай Кацярынай ІІ, ставіўся цярпіма. Там параней шаму дзейнічаў Статут ВКЛ 1588 года (яго дзеянне працягвалася да 1831 года ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, а ў іншых — да 1840-га), а справаводства і навучанне, як і ў часы Рэчы Паспалітай, вялося па-польску. Агінскі лічыў, што расійскі імператар павінен замацаваць гэтыя парадкі

### Слава кампазітара

Хоць у наш час Агінскі асацыюецца перадусім з паланэзам «Развітанне з радзімай», за гады свайго жыцця ён перажыў яшчэ як мінімум дзве хвалі музычнай славы, звязанай з іншымі творамі. У 1792 годзе кампазітар стаў вядомы ў Расіі. Па ўспамінах Агінскага, які быў у той час з візітам у Пецярбурзе, пад ягоны паланэз фа мінор танцавалі літаральна на ўсіх балях расійскай сталіцы.

А праз два гады да кампазітара прыйшла ўжо еўрапейская слава. Напісаны ў 1794 годзе Паланэз фа мажор, вядомы таксама пад назвай «Паланэз смерці», разышоўся па ўсіх еўрапейскіх сталіцах. Агінскі пісаў у мемуарах, што аднойчы ў часы эміграцыі ў Дрэздэне ён афармляў дакументы ў адным з бюро. Маладая немка, пабачыўшы знаёмае прозвішча, спыталася ў Міхала Клеафаса, ці не ведае ён трагічна загінулага Агінскага, паланэз якога граюць паўсюль.

З кампазіцыяй была звязаная легенда, нібыта аўтар паланэза скончыў жыццё самагубствам з-за нешчаслівага кахання. Агінскі ў адказ засмяяўся, сыграў на канторскім піяніна сваю музыку і запэўніў немку, што з аўтарам усё добра.



**Такім Агінскі бачыў Санкт-Пецярбург у 1811 годзе**, калі пісаў свае прапановы да Аляксандра І. Неўскі праспект і Казанскі сабор на малюнку Бенжамена Патэрсэна.

PASTVU.COM




**Тэрыторыя меркаванага аўтаномнага Вялікага Княства Літоўскага** ў адпаведнасці з планам Агінскага.

заканадаўча, а да таго ж ён можа зрабіць яшчэ і невялікі крок у бок аўтаноміі.

## ВКЛ у далюблінскіх межах

У маі 1811 года Міхал Клеафас перадаў імператару ліст з праектам загада, які сёння больш вядомы нам пад назвай «План Агінскага». Гэты дакумент — бачанне Агінскім таго, як мусіць быць уладкавана жыццё на землях, што яшчэ два дзесяціоддзі да таго былі суверэнная дзяржавай. План складаўся ўсяго з 11 невялікіх артыкулаў, але ў іх Агінскі змог ахапіць асноўныя сферы ўладкавання жыцця меркаванай новай аўтаномнай адзінкі Расійскай імперыі — Вялікага Княства Літоўскага.

У лісце да плана Агінскі спрабуе патлумачыць Аляксандру І перавагі сваёй прапановы. Міхал Клеафас піша, што план Напалеона аб адраджэнні польскай дзяржавы ў выглядзе Варшаўскага герцагства пацярпеў паразу, але многія палякі і ліцвіны ў Еўропе яшчэ чапляюцца за яго як за саломінку. І калі расійскі імператар працягне ім руку дапамогі ў выглядзе новай польска-літоўскай аўтаноміі ў складзе імперыі, то яны з радасцю стануць пад расійскія сцягі ў хуткай вайне. А ў тым, што вайна будзе, Агінскі не сумняваўся.

Першы артыкул плана Агінскага выглядае даволі дзёрзка. У ім акрэсліваюцца землі, якія прапаноўвалася ўключыць у склад аўтаномнай правінцыі. Акрамя традыцыйных Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў, Міхал Клеафас прапаноўваў лічыць часткай Вялікага Княства Літоўскага Кіеўскую, Падольскую і Валынскую губерні, а таксама Беластоцкую вобласць і Тарнопальскую (Цярнопальскую) акругі. У складзе Рэчы Паспалітай гэтыя землі былі часткай Каралеўства Польскага. Бо, як вядома, перад заключэннем Люблінскай уніі ў 1569 годзе польская шляхта дабілася таго, каб кароль Жыгімонт Аўгуст выдаў указ аб далучэнні да Кароны Польскай Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны (гл. пра гэта падрабязней у артыкуле Уладзіміра Падалінскага ў № 6/2019 «Нашай гісторыі»).

Такім чынам, сваім планам Агінскі фактычна імкнуўся да адраджэння межаў ВКЛ далюблінскіх часоў. Адміністрацыйным цэнтрам адроджанага княства мусіла стаць яго старадаўняя сталіца — Вільня.

**16 паланэзаў Агінскага ў выкананні вядомага брытанскага піяніста Іва Залускага**, прапрапраўнука кампазітара, можна праслухаць па спасылцы. № 1 — Паланэз фа мажор («Паланэз смерці»), № 3 — Паланэз фа мінор.



## Свае людзі і свае законы

Значная частка артыкулаў-прапаноў тычыцца адміністрацыйнага ўладкавання княства. Агінскі прапаноўваў даручыць кіраванне Вялікім Княствам Літоўскім урадніку з тытулам імператарскага намесніка і ўтрымліваць яго за дзяржаўны кошт, а таксама стварыць пры імператару літоўскую канцылярыю на чале са статс-сакратаром. Канцылярыя мусіла непасрэдна займацца кіраваннем справамі княства.

Унутранае кіраванне меркавалася даручыць Адміністрацыйнай радзе пад ►



Агінскі асэнсавана зрабіў стаўку на расійскага імператара, які падаваўся яму больш ліберальным, чым Напалеон

апекай імператарскага намесніка, у якую б уваходзілі розныя дэпартаменты. Пры гэтым усе сябры рады прызначаліся б непасрэдна расійскім самаўладцам. Але ў гэтай схеме быў адзін істотны момант, вынесены ў асобны артыкул. Усе пасады ў сістэме дзяржаўнага кіравання маглі б займаць толькі асобы, народжаныя ў Вялікім Княстве Літоўскім, а таксама тыя, хто меў тут уласнасць. Так ствараўся цалкам мясцовы апарат кіравання, нягледзячы на адсутнасць выбарнасці ўраднікаў і іх прызначэнне імператарам.

Важны пункт плана абгаворваў тое, якія законы будуць дзейнічаць на землях Вялікага Княства Літоўскага. Агінскі прадугледжваў, што літоўскі Статут назаўсёды застанецца асновай грамадзянскага заканадаўства для княства. Такім чынам Міхал Клеафас імкнуўся заканадаўча замацаваць ужо наяўную практыку. Гэта ж тычылася і мовы дзяржаўнага справаводства ў аўтаноміі: паводле Агінскага, такой мовай для ВКЛ мусіла стаць польская, якой у той час працягвалі карыстацца ў далучаных губернях. Як вядома, польская мова ў канцы XVII стагоддзя была вызначана як мова дзяржаўнага справаводства ў Вялікім Княстве Літоўскім, замяніўшы старабеларускую і трывала замацаваўшыся ў колах эліты.

Апошняй інстанцыяй для вырашэння ўсіх грамадзянскіх і крымінальных спраў мусіў быць вярхоўны суд у Вільні. Не ў Пецярбурзе, а ў адміністрацыйным цэнтры Вялікага Княства. Хоць пры гэтым права прымянення

## Шчырая адданасць імператару

Нягледзячы на няўдачу свайго плана па адраджэнні ВКЛ, Міхал Клеафас Агінскі да канца жыцця добра ставіўся да імператара Аляксандра І. Пішучы ў Фларэнцыі ў студзені 1826 года, праз два месяцы пасля смерці Аляксандра свае мемуары, ён адзначаў:

«Я ніколі не быў ні прыдворным, ні лісліўцам, і зусім не карыслівасць і не славалюбства натхнілі мяне на тое, што я скажу пра імператара Аляксандра, бо ў той момант, калі я выводжу гэтыя радкі, яго больш няма ў жывых і ўся Еўропа носіць жалобу па тым, што страціла яго. Але пашана, якую належыць аддаць праўдзе, і неабходнасць выказаць тое, што я адчуваю, не дазваляюць мне абысці маўчаннем уражанне, якое Аляксандр выклікаў у маім сэрцы. Яно ніколі не пакідала мяне з таго часу, як я першы раз наблізіўся да яго ў Пецярбурзе.

Яго працяглае добрае стаўленне і давер, якім ён уганараваў мяне, тыя прыязныя водгукі пра мае паводзіны, што ён даваў кожны раз, як толькі для таго надараўся выпадак, міласцівы прыём, які ён аказваў мне заўжды да апошняга моманту, калі я меў шчасце бачыць яго ў 1817 годзе, зацікаўленасць, выяўленая ім да майго лёсу і да лёсу маёй сям'і, — усё гэта дастатковыя матывы, каб спарадзіць ува мне шчырую адданасць імператару. А чым толькі я не абавязаны яму як паляк за абарону, якую ён дараваў маім суайчыннікам, за яго давер да іх, за сведчанні павагі і прыязнасці, якія ён даваў ім, за падтрымку нацыянальнай адукацыі ў польскіх правінцыях, падпарадкаваных Расіі, і за тое, што было большым за ўсё гэта ... — за ўзнаўленне Польшчы [маецца на ўвазе ўтварэнне ў 1815 годзе аўтаномнага Царства Польскага ў складзе Расійскай імперыі, якое атрымлівала ўласнае канстытуцыйнае ўладкаванне. — **Рэд.**]».




**Сядзіба Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі**, Смаргонскі раён.

смяротнага пакарання і памілавання заставалася толькі за імператарам.

І ўжо па-за межамі плана Агінскі прапаноўваў імператару Аляксандру І стварыць асобную армію ВКЛ. Але распрацоўку канкрэтнага плана арганізацыі войска ён збіраўся перадаць больш дасведчаным у вайсковых справах асобам.

## Нявдзейсненыя мары

У рэальнасці план Агінскага застаўся толькі на паперы. Ёсць шмат поглядаў на тое, чаму Аляксандр І марудзіў з яго выкананнем. Найперш для рэалізацыі плана было вельмі мала часу: крыху больш за год. Ён быў распрацаваны вясной 1811-га, а ўжо летам наступнага года пачалася вайна з Напалеонам. І хоць Агінскі прадбачыў будучае супрацьстаянне і прапаноўваў сваім планам перавабіць частку актыўных палякаў на бок Расіі, што паляпшала б яе стратэгічнае становішча, імперская бюракратыя была вельмі маруднай і да пачатку вайны ўсё адно не змагла б рэалізаваць настолькі маштабныя пераўтварэнні.

Тым не менш на працягу ўсёй кампаніі 1812 года Міхал Клеафас Агінскі не пакідаў надзеі на рэалізацыю свайго плана. Сярод іншых ён сустракаўся і размаўляў пра гэта са славутым галоўнакамандуючым расійскай арміі Міхаілам Кутузавым, які, дарэчы, два разы, у 1799–1801 і 1809–1812 гадах, быў літоўскім генерал-губернатарам. Але ніякіх канкрэтных вынікаў гэтыя сустрэчы не далі.

Пасля вайны ж ужо было і зусім не да таго. Напалеона разбілі, а тэрыторыя створанага ім Варшаўскага герцагства па выніках Венскага кангрэсу 1815 года ўвайшла ў склад Расійскай імперыі і атрымала статус аўтаноміі — Царства Польскага. Яшчэ адна аўтаномія на захадзе імперыі ў выглядзе Вялікага Княства Літоўскага расійскім уладам была проста непатрэбная. Да таго ж значная частка расійскага дваранства разглядала тэрыторыі беларускіх губерняў як «спрадвечна рускія землі» і ні пра якія асаблівыя правы для іх чуць не хацела.

Не меншую ролю ў тармажэнні на шляху да рэалізацыі плана адыгрывала і асоба самога імператара. Па ўспамінах сучаснікаў, у палітычным жыцці Аляксандру І было ўласціва крывадушніцтва. Хоць ён і абяцаў Агінскаму прыняць план, дэманстраваў клопат пра Вялікае Княства Літоўскае, дэклараваў прыхільнае стаўленне да памкненняў шляхты будаваць сваю дзяржаву пад апекай Расіі, але рабіў гэта толькі на словах. Да справы ж урэшце так і не дайшло.

Агінскі быў гэтым вельмі расчараваны і пасля заканчэння вайны з Напалеонам стаў паступова адыходзіць ад палітычных спраў. У 1815 годзе, пасля таго як была завершана пабудова палаца ў Залессі, Міхал Клеафас разам з сям'ёй перабраўся туды з Пецярбурга. У сваіх мемуарах пяцідзесяцігадовы палітык і кампазітар занатаваў: «Мой узрост і хваробы прымушаюць мяне адысці ад спраў, каб знайсці ў самоце радасць адпачынку і супакою ад бурлівага жыцця». А апошнія 10 гадоў жыцця, з 1823 па 1833 год, ён правёў у эміграцыі ў Італіі. Гэтым разам прымусіў Агінскага змяніць клімат не палітычны фактар, а кепскі стан здароўя. А развітаўшыся з радзімай чарговы раз, ён больш на яе не вярнуўся. ◆

WIKIMEDIA COMMONS

**Засохлае суквецце дзягілю** зімой у Ісландыі.

# Angélica archangélica

## Дзягіль — «еўрапейскі жэньшэнь», расліна арханёлаў

**Гэтым летам у Кяльменскім раёне на паўночным захадзе Літвы паставілі сімвалічны помнік у гонар мужнасці і самаадданасці літоўскіх медыкаў у змаганні з эпідэміяй каранавіруса. Два дзясяткі найлепшых літоўскіх кавалёў сумесна выкавалі ўручную 42 суквецці расліны пад назвай дзягіль. Але чаму менавіта гэтая расліна, якая расце і ў нас, стала сімвалам змагання з эпідэміяй? Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Лекі арханёльскія

Так склалася, што дзягіль у заходняй культурнай традыцыі здаўна ўспрымаўся як цудадзейная лекавая расліна, па дапамогу да якой асабліва звярталіся ў часы жахлівых эпідэмій. Першая хваля яго папулярнасці прыпала нібыта яшчэ на сярэдзіну XIV стагоддзя, калі ён лічыўся найлепшым лекам ад чумы — «чорнай смерці». Хоць пра сапраўдную ягоную эфектыўнасць ад гэтай хваробы казаць складана.

Храналогія станаўлення еўрапейскага культу дзягілю няпэўная. Сустракаюцца сцверджанні, што дзягіль дапамагаў ад чумы не ў XIV стагоддзі, а толькі ў XVII-м, падчас сумнавядомай «Вялікай чумы» ў Англіі і іншых еўрапейскіх краінах. Ці нават што гэта была не чума, а воспа. Але менавіта падчас нейкай эпідэміі адзін манах нібыта сасніў Міхаіла Арханёла, які паказаў яму на дзягіль як на паратунак, параіўшы жаваць ягонае карэнішча. Таму расліну ў Еўропе і пачалі называць *Angelica,* або *Archangelica*, а таксама зёлкай Святога Духа і іншымі падобнымі назвамі.

Праўда, спачатку абыходзіліся без містыкі. Славуты нямецкі лекар Парацэльс сутыкнуўся

**Пук** — другая беларуская назва дзягілю. І ад «дзягілю», і ад «пуку» пайшло нямала беларускіх прозвішчаў.

**Дзя́гіль лекавы, дзягіль аптэчны, пук** (*Angelica archangelica*) двухгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых, з зеленавата-белымі кветкамі і прыемным пахам. На першым годзе жыцця ўтварае прыкаранёвую разетку вышынёй да 1 м з невялікім пучком лісточкаў, а на другім адрастаюць вялікія лісты і з'яўляецца высокае сцябло.

Дзікарослы вырастае да 2,5 м, а акультураны — нават да 3 м вышынёй. Вельмі любіць вільгаць, расце ў вільготных лясных ярах, сярод хмызнякоў, на балотах, у забалочаных яловых, хваёва-бярозавых лясах і па берагах рэк і ручаёў. Часам утварае досыць вялікія зараснікі, як і ягоны даволі блізкі сваяк, баршчавік Сасноўскага, з якім яго нават могуць зблытаць збіральнікі-пачаткоўцы. Часам дзягіль памылкова называюць шматгадовай раслінай, таму што зараснікі могуць доўга існаваць на тым самым месцы.

Дзягіль, дарэчы, як і баршчавік, таксама ўтрымлівае пэўную колькасць фуракумарынаў — рэчываў, якія ўзмацняюць адчувальнасць скуры да сонечнага святла. Таму збіраць яго трэба асцярожна, найлепш у маі, калі фуракумарынаў яшчэ не назапасілася зашмат. Хоць некаторыя збіральнікі зёлак найлепшым сезонам лічаць верасень. Таксама расліна ўтрымлівае кумарыны, гліказіды, дубільныя рэчывы, эфірныя алеі, арганічныя кіслоты, пекцін, вітаміны С і В.

Як лекавая расліна дзягіль паляпшае працу страўніка і кішэчніка, што спрыяе вывядзенню з арганізма шкодных рэчываў. Яго таксама ўжываюць пры лячэнні ад алкагольнай і нікацінавай залежнасці. Кампрэсы і ванны з дзягілем дапамагаюць пры болях у мышцах і рэўматызме, пры шэрагу скурных захворванняў і запаленнях ротавай поласці. А мазь з дзягілю загойвае раны. Дзягіль дапамагае пры парушэннях сну, мігрэнях і працяглай дэпрэсіі. Ужываецца ў ежу і як гародніна, і (пераважна карэнішчы і насенне) як прыправа пры прыгатаванні мясных страў і соусаў.

А даўнейшая народная медыцына ўвогуле лічыла яго сапраўднай панацэяй. Дымам ад сушанага дзягілю абкурвалі хаты і хлявы, пры хваробах як людзей, так і жывёл, а яшчэ тады, калі, як лічылася, трэба было адагнаць «нячысты дух».



Дзягіль таксама з'яўляецца сыравінай для стварэння эфірных алеяў.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MADELEINESTEINBACH




WIKIMEDIA COMMONS

Батанічная ілюстрацыя з кнігі Ота Вільгельма Томэ «Flora von Deutschland, Österreich und der Schweiz, 1885».

з выкарыстаннем дзягілю пры лячэнні чумы ў Мілане ў 1510 годзе, але нічога не згадаў пра яго містычную сувязь з архангелам. Атаясамліванне дзягілю з архангелам прасочваецца ў пісьмовых крыніцах толькі з канца XVI стагоддзя. Праўда, не заўжды і не ўсюды гэта быў менавіта архангел Міхаіл. У нямецкіх народных легендах гэта хутчэй Габрыэль, а ў французскіх — Рафаэль. Аднак увогуле сувязь менавіта з Міхаілам заставалася на працягу Новага часу найбольш устойлівай. Традыцыйна ў Заходняй Еўропе лічыцца нават, што дзягіль пачынае цвісці 8 мая, на дзень памяці Міхаіла Арханёла. І тыповая міфалагічная свядомасць, ясная справа, не магла гэта лічыць выпадковасцю.

## Паўночны прысмак

Як лекавая і харчовая расліна дзягіль быў здаўна вельмі ▸

папулярны на поўначы Еўропы як у скандынаўскіх, так і ў фіна-ўгорскіх народаў (фінаў і саамаў). Традыцыйна лічыцца, што менавіта скандынавы і падказалі астатнім еўрапейцам, што дзягіль нібыта дапамагае стрымліваць распаўсюд чумной эпідэміі.

Народы Поўначы сапраўды здаўна цанілі дзягіль вышэй, чым іх паўднёвыя суседзі: і як лекавы ды водарны сродак, і проста як ежу. Расліна дае вялікую колькасць зялёнай масы з даволі прыемным салодкім



З дзягілю таксама робяць **цукаты**.

смакам, прытым ужо ў маі-чэрвені, калі да новага ўраджаю яшчэ вельмі далёка. Гэта асабліва каштоўна ў суровых умовах Поўначы. Мясцовая кухня ведае, напрыклад, сцёблы дзягілю, звараныя ў малацэ паўночных аленяў, і смажаныя цукаты з іх.

Звычаёвае ісландскае і нарвежскае права ахоўвала зараснікі дзягілю прыкладна гэтаксама, як Статут ВКЛ хмельнікі або бабровыя гоны. Злодзея, які хацеў нарваць або накапаць дзягілю ў чужых уладаннях, можна было беспакарана збіць, адабраўшы і здабычу, і іншую маёмасць, якую ён меў пры сабе.

**Ісландскае і нарвежскае права ахоўвала зараснікі дзягілю прыкладна гэтаксама, як Статут ВКЛ хмельнікі або бабровыя гоны**

Нібыта нават і саму расліну ў Цэнтральную і Заходнюю Еўропу завезлі ў XIV стагоддзі са Скандынавіі, але гэта, хутчэй за ўсё, толькі легенда. Бо дзягіль, нават гэтага канкрэтнага

## Чаму дзягіль?

Дакладнае паходжанне сучаснай беларускай (а таксама рускай і ўкраінскай) назвы расліны невядомае, але існуе некалькі версій. Адныя выводзяць яго этымалогію з дыялектных слоў «дзяглы» (моцны, здаровы) або «дзягнуць» (папраўляцца ад хваробы), іншыя — ад праславянскага выразу *degili* (расліна з лекавымі ўласцівасцямі). Магчыма, што асновай магло стаць і ніжненямецкае *de engil* (анёл).

Характэрна, што сувязь з арханёлам падкрэслівае польская назва расліны — *Arcydzięgiel*. А вось літоўская *šventagaršvė* (даслоўна — «святая снітка») спалучае як агульнаеўрапейскую традыцыю, так і ўключае згадку пра шырокае ўжыванне расліны ў ежу, як і сніткі.

У сваю чаргу, ад назвы гэтай расліны паходзяць назвы беларускіх вёсак Дзягільна (Дзяржынскі раён) і Дзягелец (Бярозаўскі раён). У апошняй у даўнія часы, калі вёска ўваходзіла ў Слонімскі павет, было занатавана асабліва шырокае ўжыванне дзягілю. Як распавядаюць мясцовыя жыхары, ён некалі тут рос у кожным двары.



**Група кавалёў — стваральнікаў пяціметровай скульптуры дзягілю.** Ужвенціс (Літва), ліпень 2020 года.

віду *Angelica archangelica,* распаўсюджаны па Еўразіі даволі шырока, а яго альтэрнатыўнай прарадзімай называюць Блізкі Усход, больш канкрэтна — Сірыю. Усяго ж у родзе *Angelica* каля 50 вельмі блізкіх сваякоў «нашага» дзягілю, у тым ліку шырока ўжываны ў кітайскай медыцыне *Angelica sinensis*, які ў Кітаі шануецца нароўні з жэньшэнем. А часам і дзягіль называюць «еўрапейскім жэньшэнем».

Дарэчы, сваяк дзягілю, баршчэўнік сібірскі, або проста «борщч», адыгрываў даволі блізкую ролю ў даўнім рацыёне нашых продкаў, ратуючы іх ад веснавога голаду. Калісьці ж нават саму страву пад назвай «боршч» варылі менавіта з баршчэўніку, калі буракі, запазычаныя з Візантыі разам з усходнім хрысціянствам, яшчэ не былі ў нас вядомыя.

## «Не зраблю ніц, бо яны ўмеюць дзягіль піць!»

Цяжка сказаць, наколькі шырока легенды пра дзягіль — арханёльскую зёлку — былі вядомыя ў Літве і Беларусі ў больш даўнія часы. Некаторыя батанікі сцвярджаюць, што дзягіль увогуле з'явіўся ў нас толькі ў XVIII стагоддзі, і лічаць яго інвазійным відам. Але несумненна, што легенды тыя ўспомніліся ці актуалізаваліся, набыўшы асаблівую вастрыню ды актуальнасць, у сярэдзіне XIX стагоддзя, падчас вялікай эпідэміі халеры (гл. пра гэтую хваробу артыкул Андрэя Вашкевіча ў № 7/2019 «Нашай гісторыі»).

Паколькі дакладнага спосабу лячыць гэтую небяспечную хваробу тады не ведалі і хапаліся за любыя даступныя сродкі, то прыдаўся і дзягіль.




Фота з калекцыі Элізы Ажэшкі, вялікай аматаркі зёлак. **На здымку выяўленыя траўніцы з Гродзеншчыны са зборам дзягілю**: вясковая лекарка Люцыя з вёскі Глядовічы, вялікая знаўца батанікі і народнай медыцыны, і яе памагатая, 17-гадовая Ульянка Снопка з вёскі Міневічы. 1880-я гады. Абедзве згаданыя вёскі цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Мастоўскага раёна.

Магчыма, як і ў выпадку з іншымі хваробамі, што былі дагэтуль, сапраўды часткова падзейнічалі дэзынфекцыйныя і агульнаўзмацняльныя ўласцівасці расліны. А таксама яго цалкам рэальная здольнасць спрыяць больш інтэнсіўнаму вывядзенню таксінаў з арганізма праз мачу, пот і сліну. Але часткова, мабыць, дзейнічала і вера-самапераканане, якая таксама ў некаторых выпадках выдатна мабілізуе ахоўныя сілы самога арганізма нават пры прыёме простага плацэба.

Так ці інакш, у нашай народнай памяці дзягіль доўга заставаўся паратункам менавіта ад халеры і ў пэўнай ступені ад любой масавай пошасці. Этнограф Міхал Федароўскі ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Лекавы дзягіль** у польскіх Татрах.

то, бывала, кажа: "Фіц, фіц, я тут не зраблю ніц, бо яны ўмеюць дзягіль піць!"»

## Дзягілеўка

(адзін з мноства магчымых рэцэптаў)

- 5 г сухой травы мелісы
- 15 г сухога кораня дзягілю альбо 50 г свежага
- 1 г карыцы на кавалак
- 1 г цёртага мускатнага арэха
- 10 г сушаных гваздзікоў
- 250 г цукру
- 1 л гарэлкі (у ідэале, 70%-й)
- бутля або слоік 2 л

Корань дзягілю як мага больш здрабніць і заліць спіртам, разведзеным паловай вады (або гарэлкай, мацункам як мага больш блізкім да 70%). Настояць на працягу 3 тыдняў. Затым дадаць карыцу, гваздзікі, мускатны арэх і мелісу і настойваць яшчэ 3 тыдні. Затым дадайце цукровы сіроп (развядзіце 250 г цукру ў 250 мл кіпню), прыбярыце шуму, астудзіце і ўліце яго ў настойку. Настойвайце на працягу яшчэ 3 тыдняў, пасля чаго настойку працадзіце. Гатовая дзягілеўка павінна вытрымлівацца не менш за 3 месяцы для дасягнення найлепшай якасці.

▶ ў канцы XIX стагоддзя, праз два пакаленні ад эпідэміі, запісаў успаміны старых людзей на Гарадзеншчыне: «Даўнейшых часоў, як панавала надта халера, то людзі мачылі дзягіль у гарэлцы і пілі, а халера хадзіла пад вокнамі і дзе знюхае дзягіль,



PINTEREST.ES

**Этыкетка лікёру**, які рабілі ў ГДР у 1980-я. У яго складзе быў экстракт дзягілю.

## Дзягілеўка

Самай распаўсюджанай формай ужывання дзягілю як лекаў была менавіта настойка на гарэлцы.

Дзягілеўку як лекі ад халеры апелі ў сваіх вершах вядомыя польска-беларускія паэты, якія самі былі сведкамі піку эпідэміі ў 1848–1849 гадах. Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) пісаў:

> «Баліць сэрца ці галоўка,
> Можа й млоснасць чутна —
> Дзягілеўка і пярцоўка
> Уратуюць хутка».

А яму ў тон працягваў Адам Плуг (Антон Пяткевіч):

> «І пра дзягіль расказваюць дзівы —
> Як Літву лупцаваў мор страшлівы,
> Корань дзяглю ў гарэлцы мачоны
> Людзям толькі й даваў абарону».

*(Пераклад абодвух вершаў Ванды Марцінш душ Рэйш)*

Менавіта тады дзягілеўка і атрымала рэпутацыю тыпова літоўскай настойкі. І захоўвае сваю пазіцыі да сённяшняга часу, прынамсі ў нашых суседзяў, больш як хатні, аматарскі напой. Калі ў 2001-м святкавалі 90-годдзе польскага паэта, нобелеўскага лаўрэата Чэслава Мілаша, яму сярод іншых падарункаў паднеслі і вялікую бутэльку свойскай дзягілеўкі ў якасці сімвалічнага напаміну пра ягоную радзіму — Літву.

**Класічная дзягілеўка** — жоўта-зялёная настойка на сцёблах, сабраных у маі, калі расліна цвіце.
**Пупкоўка** — настойка на дзягілі, ядлоўцы, каляндры.
**Дзягілевы джын** — 60-градусная настойка, паўторна перагнаная на дыстыляцыйным апараце.

Яшчэ адным рэгіёнам, дзе гэтая настойка таксама зрабілася ўстойлівай мясцовай традыцыяй, сталі польскія Татры. Магчыма, справа ў агульнай беднасці абодвух рэгіёнаў і неразвітасці ў іх сучаснай навуковай медыцыны, а таму больш трывалым даверы насельніцтва да сродкаў медыцыны народнай.

Міхал Федароўскі, дарэчы, зафіксаваў у Слонімскім павеце, што для найлепшага магічнага ўздзеяння настойваць гарэлку на дзягілі трэба было 9 дзён — сакральны лік, які часта сустракаецца ў народным зельніцтве.

Класічная дзягілеўка — вадкасць жоўта-зялёнага колеру з даўкім карэнным смакам, мацункам 35–45%, якую часцей за ўсё вырабляюць, настойваючы на гарэлцы сцёблы дзягілю (сабраныя ў маі, калі расліна цвіце). Але для вырабу напояў або для араматызацыі выпечкі і іншых страў можна выкарыстоўваць таксама і карэнішчы ды насенне дзягілю.

У шляхты Рэчы Паспалітай доўгі час была папулярнай і настойка «пупкоўка», якую было прынята піць у гонар нараджэння чарговага дзіцяці ў сям'і. У яе склад уваходзілі дзягіль, ядловец, каляндра і іншыя карэнішчы і насенне. Ісландцы ж, а ў пэўнай ступені і англічане, любяць моцны 60% дзягілевы джын — г. зн. настойку, паўторна перагнаную на дыстыляцыйным апараце.

Увогуле, у многіх краінах існуе вялікая колькасць настоек, лікёраў і джынаў на аснове розных частак расліны, якія некалі былі больш папулярнымі, чым сёння, — як і народныя медычныя сродкі ў цэлым, нягледзячы на перыядычныя хвалі цікаўнасці да асобных з іх. Многія лікёры (у Францыі, Партугаліі і інш.) па традыцыі носяць лацінскую назву *Angelica*, а ў такія лікёры, як *Chartreuse, Benedictine*, ці ў літоўскую настойку «999» дзягіль уваходзіць як адна са складовых частак. ◆



**Аскепак люстэрка каля старога рукамыйніка на занядбаным будынку старой школы.** Захажэва каля Леснікоў, Валожынскі раён.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

# 15-гадовы злачынца: вучыў грамаце

**Чаго толькі не забаранялі беларусам на працягу іх гісторыі, піша Андрэй Голуб.**

У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя сялянскія дзеці ў Расійскай імперыі маглі атрымаць пачатковую адукацыю або ў царкоўна-прыходскіх школах (кіраваліся Сінодам), або ў народных вучылішчах (падпарадкоўваліся Міністэрству народнай асветы). Хоць царкоўна-прыходскіх школ у Расіі было значнай больш, чым народных вучылішчаў, апошнія давалі лепшыя веды.

Вось толькі з гэтымі вучылішчамі ў нас была істотная праблема. У губернях, дзе ў 1864 годзе была праведзена земская рэформа, імі апекаваліся земствы. Але на заходніх ускраінах імперыі, закранутых паўстаннем 1863–1864 гадоў, расійскі ўрад земскую рэформу праводзіць не стаў.

Таму нічога дзіўнага, што, паводле перапісу 1897 года,

**У Валожынскім раёне ёсць дзве вёскі Леснікі.** Адна бліжэй да Люцінкі, у Пяршайскім сельсавеце, а ў нашым артыкуле гаворка пра тую, якая ў Дорскім сельсавеце, бліжэй да Сугваздаў.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Крыж на ўездзе ў Лесніке,** аздоблены стужкамі.

у Паўночна-Заходнім краі толькі 18,1% сялян назвалі сябе пісьменнымі. У той жа час у цэлым у еўрапейскай частцы Расіі пісьменнасць сярод сялян была на ўзроўні 25,7%.

### «Не трэба й кланяцца Яхіму — наняць дарэктара на зіму…»

Часта сяляне вырашалі вучыць сваіх дзяцей самастойна. Наймалі **дарэктара** — знаёмага пісьменнага чалавека, які за невялікія грошы зімой вучыў дзяцей чытаць, пісаць, лічыць. Такі выпадак апісвае ў паэме «Новая зямля» Якуб Колас. Там, як мы памятаем, ляснік Міхал у раздзеле «Дарэктар» прывёз з вёскі ў леснічоўку хлопчыка Яська Базылёва, які вучыў таму, што ведаў сам, сыноў гаспадара Уладзю, Алеся і Костуся.

У іншым выпадку сяляне грамадою самі ладзілі нешта падобнае на школу: наймалі настаўніка, дамаўляліся, у чыёй хаце будуць весціся заняткі. Што тут кепскага, здавалася б? Але не з пункту гледжання ўладаў. Нелегальнае навучанне часта заканчвалася штрафамі або нават арыштамі. Толькі Мінскі акруговы суд з 1883 па 1917 год разгледзеў каля 378 крымінальных спраў, якія тычыліся парушэння правіл адкрыцця школ і навучання дзяцей грамаце.

Паказальнай тут будзе гісторыя, якая адбылася з жыхарамі вёскі Леснікі і аднайменнай ваколіцы ў Пяршайскай воласці Мінскага павета (цяпер Валожынскі раён).

### 15-гадовы настаўнік

У снежні 1908 года Казімір, Франц, Антон, Ігнат Пратасевічы і Станіслаў Лужынскі вырашылі рэшту зімы падвучыць сваіх дзяцей. Нехта падказаў, што ў суседняй вёсцы Агароднікі ва Уладзіслава Іваноўскага ёсць сын Яраніслаў, які ўмее чытаць і пісаць.

Іваноўскаму прапанова спадабалася: 15-гадовы сын заробіць па 75 капеек з вучня за зіму, а як прыйдзе пара сеяць, вернецца дадому.

Як набожныя каталікі, сяляне атрымалі і благаславенне ксяндза Умінскага ў Пяршаі.

### Па тры дні

Пасля Каляд пачаліся заняткі для 17-ці вучняў — 12 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. Малады настаўнік вучыў усяму таму, пра што сам даведаўся за тры зімы хатняга навучання ў такога ж, як і ён сам цяпер, настаўніка.

Кніжак спачатку не было, але пасля тры асобнікі падручніка па рускай грамаце «Книга для чтения в народных училищах Северо-Западного края России» недзе адшукалі. Былі ў распараджэнні школкі і шэсць польскіх малітоўнікаў. Яшчэ ▶




ФОТА АНДРЭЯ ГОЛУБА

**Хата Мальвіны Пратасевіч — самая старая ў вёсцы.** Жанчына ўсё жыццё пражыла ў бацькоўскай хаце, муж да яе прыйшоў у прымы. Здаецца, яна была адной з вучаніц школкі. У спісах навучэнцаў ёсць дзесяцігадовая Мальвіна Пратасевіч. Вядома, што яе муж быў таксама Пратасевіч, прозвішча яна не мяняла.

▶ на ўсіх 17 вучняў было ажно восем сшыткаў — на некаторых, дзе былі вокладкі, настаўнік мог паказаць партрэты Аляксандра Пушкіна і Міхаіла Лермантава, чые вершы дзеці чыталі і вучылі на памяць.

Школа разам з настаўнікам пераходзіла кожныя тры дні з хаты аднаго вучня да другога, але часцей за ўсё заставалася ў адным месцы на шэсць і болей дзён, бо ў некаторых бацькоў вучылася па некалькі дзетак.

Так праміналі студзень і люты. Пачынаўся сакавік, і ўжо праз які месяц вучоба мусіла скончыцца.

## Нязваны госць

5 сакавіка 1909 года заняткі праходзілі ў хаце Юзафа Пратасевіча. Раптам у хату ўляцеў паліцыянт Мікалай Кулага.

Навучанне ў школе скончылася доўгім спісам абвінавачанняў гаспадара хаты, што без дазволу заснаваў і адкрыў навучальную ўстанову, узяў да сябе асобу для навучання дзяцей, якая не мела патрэбнага пасведчання (артыкул 1049 і частка 2 артыкула 1051 Улажэння аб крымінальных і папраўчых пакараннях). Маладога настаўніка ўраднік абвінаваціў у тым, што той вучыў дзяцей у прыватным доме, не маючы патрэбнага па законе пасведчання (частка 1 артыкула 1051). На развітанне Кулага забраў з сабой як рэчавыя доказы падручнікі, малітоўнікі і сшыткі.




**Дарэктар і яго вучні ў «Новай зямлі» Якуба Коласа.** Ілюстрацыя Георгія Паплаўскага.

## Земская рэформа

праводзілася ў Расійскай імперыі адразу пасля ліквідацыі прыгоннага права — у 1864 годзе. Галоўная яе мэта — забраць частку распарадчых паўнамоцтваў у губернскіх уладаў і перадаць іх выбарнаму мясцоваму органу — земству, паколькі дробныя пытанні на месцы вырашаць эфектыўней. Земствы, да прыкладу, займаліся рамонтам дарог, наймалі лекараў, арганізоўвалі навучанне ў народных вучылішчах. Але з-за таго, што склад земства не прызначаўся, а выбіраўся на месцы, расійскі ўрад не рызыкнуў пашырыць рэформу на заходнія губерні.

Цікава, што ў той жа дзень ураднік выкрыў яшчэ адну таемную школку — у вёсцы Сядлішча.

Следства доўжылася з 15 сакавіка па 31 мая.

## Развіты настаўнік ці не?

Ксёндз Умінскі прасіў, каб пратакол склалі на яго, а не на маладога Іваноўскага. Але просьба была марная. Доля Браніслава Іваноўскага як непаўналетняга вырашалася асобна. Паліцыя старанна вызначала, ці дзейнічаў ён па сваёй волі і ці разумеў, што робіць.

Спачатку сваякі і суседзі маладога Іваноўскага ў адзін голас казалі, што Браніслаў маларазвіты і не можа цалкам адказваць за свае ўчынкі. Але пасля ў Пяршаі з Мінска прыехаў для агляду хлопца доктар Рэпер. І тады бацькі далі паўторныя паказанні, якія пацвердзілі заключэнне медыка: Браніслаў Іваноўскі для свайго ўзросту добра развіты і можа цалкам адказваць за ўсе свае ўчынкі.

На гэтым следства скончылася. Справа была перададзена




**Пасека ў старым закінутым садзе.**



**61-гадовы Міхал Шумейка ездзіць на работу на ферму ў Леснікі з Ласокіна.** Жыхароў у саміх Лесніках засталося зусім мала, яшчэ колькі хат сталі лецішчамі. Кукурузу на корм каровам Міхал падвозіць на кані. «Да пенсіі мне засталося паўтара года, — кажа Міхал, закурваючы. — А на пенсіі рабіць не буду, няма сілы ўжо».

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

ў Мінскі акруговы суд, які прызнаў Юзафа Пратасевіча і Браніслава Іваноўскага вінаватымі па ўсіх выстаўленых абвінавачаннях. Канчатковы прысуд быў вынесены 10 кастрычніка 1909 года. Бацьку вучня і настаўніку суд прызначыў штраф у памеры двух рублёў або арышт на суткі, калі грошай не будзе. Таксама Пратасевіч з Іваноўскім мусілі пароўну аплаціць дарогу і працу доктара Рэпера, якая была ацэнена ў 13 рублёў 11 капеек. Каб чытачу зразумець, наколькі вялікім быў такі штраф, прывядзём такі факт: у пачатку XX стагоддзя кілаграм ялавічыны з лапаткі каштаваў прыкладна 45 капеек.

## Дарэктар стаў фермерам

Цікава склаўся лёс нешчаслівага настаўніка з Агароднікаў. У канцы 1920-х Браніслаў Іваноўскі разам з яшчэ двума землякамі выехаў у Аргенціну па лепшую долю. Тады так рабілі многія жыхары Заходняй Беларусі (гл. артыкул Сяргея Шабельцава «Беларусы-чакарэра: як нашы суайчыннікі багацелі ў Аргенціне» ў № 5/2019 «Нашай гісторыі»).

Эміграцыя не была мёдам. У адным з лістоў да родных Браніслаў успамінаў, што грошай яму хапала толькі каб паесці.

Разам з двума сябрамі яны ўзялі 200 гектараў зямлі за 1000 кіламетраў ад Буэнас-Айрэса. Няўдала: ураджай 7 год запар знішчала саранча. Урэшце Браніслаў Іваноўскі зямлю прадаў і пераехаў у сталіцу. Пасля яшчэ раз — у правінцыйны гарадок. Перад пенсіяй Іваноўскі працаваў ►

## Што выкладалі ў расійскіх школах?

Праграма пачатковых вучылішчаў была зусім простай. Адукацыйныя чыноўнікі прадпісвалі навучыць дзяцей толькі чатыром рэчам: Закону Божаму, чытанню, пісьму ды «першым чатыром дзеянням арыфметыкі» (то-бок складанню, адыманню, памнажэнню і дзяленню). Пяты прадмет — царкоўныя спевы — прадпісвалася праводзіць там, дзе ёсць для гэтага магчымасць.

на фабрыцы і разам з жонкай-швачкай трымаў невялікую тэкстыльную краму. У іх быў сын Альберт, які ўспадкаваў сімпатыю бацькі да педагогікі і вывучыўся на выкладчыка фізікі і матэматыкі.

Малодшы брат Бранiслава Уладзіслаў скончыў за польскім часам настаўніцкую семінарыю, хоць настаўнікам не працаваў. А ягоны сын, Збігнеў Іваноўскі, стаў доктарам палітычных навук і цяпер кіруе Цэнтрам палітычных даследаванняў Інстытута Лацінскай Амерыкі Расійскай акадэміі навук і выкладае на факультэце глабальных працэсаў у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. ◆


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО



АЎТАР — УЛАДЗІМІР САДОЎСКІ

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Будынак старой школы ў Захажэве з аркадамі на ўваходзе** доўгі час прадавалі з аўкцыёну, але ён так і стаіць занядбаны.

**«Абрысы розныя»: малюнкі і чарцяжы гетмана Януша Радзівіла** / Уклад. Мікола Волкаў; аўтары тэксту Мікола Волкаў, Кірыл Карлюк. — Мінск: Беларусь, 2020. — 160 с., [40] л. іл.

«Абрысы розныя» — гэта назва калекцыі ўласнаручных малюнкаў і чарцяжоў гетмана Януша Радзівіла, якая з'яўляецца ўнікальным зборам і не мае блізкіх аналагаў ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне. На іх адлюстравана вялікая колькасць будынкаў і краявіды цэлых гарадоў Беларусі, Украіны і Польшчы: Алыкі, Барысава, Быхава, Варшавы, Горваля, Дубны, Жоўквы, Замосця, Кіева, Копыся, Лоева, Любчы, Макарава, Межыгораў, Менска, Ражанкі, Росі, Сакаля, Слуцка, Супрасля, Шклова. Перад намі паўстае цэлы свет, які амаль цалкам загінуў у полымі войнаў 1648–1667 гадоў.

Дадзенае выданне знаёміць чытача з велізарнай інтэлектуальнай спадчынай гетмана Януша Радзівіла, якая доўгі час была незаслужана забытай. Гэты збор уяўляе сабой зафіксаваныя на паперы роздумы і назіранні іх аўтара, які з'яўляецца адной з самых цікавых і супярэчлівых асоб у гісторыі Рэчы Паспалітай XVII стагоддзя.




У кнізе апублікаваныя малюнкі гетмана з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі і Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, зроблена іх атрыбуцыя, прааналізавана тэматыка выяў і асобных сюжэтаў, а таксама кантэкст іх стварэння.

Кніга выдадзеная Нацыянальным гістарычным архівам Беларусі, непасрэдна рыхтавалі яе да друку Мікола Волкаў і Кірыл Карлюк — сталыя аўтары нашага часопіса.

Мікола Волкаў неўзабаве пасля выхаду кнігі напісаў у сябе ў Фэйсбуку:
«У час працы над "Абрысамі featherznymі" не раз даводзілася адчуваць пэўны недавер, калі казаў, што Януш Радзівіл рабіў чарнавыя і чыставыя замалёўкі. Нават добрыя гісторыкі і знаўцы XVII стагоддзя слаба верылі, што гетман мог бавіцца маляваннем. І цяпер, калі мы дастаткова ўпэўнена даказалі аўтарства Януша і напісалі аб гэтым кнігу, некаторыя проста не гатовыя гэта прыняць і лепей будуць жыць у свеце сваіх уяўленняў, чым пачытаюць кнігу.

Падобна, што мы дрэнна разумеем мінулыя эпохі і часта схільныя сваю логіку распаўсюджваць на дзеянні продкаў. А калі яны не састасуюцца, то хутчэй будзем лічыць продкаў дурнямі, чым прызнаемся сабе, што не разумеем іх. Прыгадваю, як многія, гледзячы на вытанчаныя нясвіжскія гарматы Германа Мольцфельта, не маглі паверыць, што з іх стралялі, бо такую ж прыгажосць не будуць рабіць для жаўнераў. Але так было: і вытанчаныя гарматы рабілі для абароны замкаў, і суровы гетман у перапынках між бітвамі з задавальненнем бавіўся маляваннем. Такі цікавы быў час!»

Кнігу можна набыць у кнігарнях па ўсёй Беларусі.

**Выйшаў № 3 часопіса «ARCHE» за 2020 год**

На яго старонках — навукова-папулярныя артыкулы са шматлікімі ілюстрацыямі.

У нумары:
– артыкулы гісторыка Аляксандра Кур'яновіча і палітолага Міхася Плліскі пра малавядомыя старонкі палітычнай гісторыі Беларусі 1990-х гадоў;
– палемічныя нататкі рэдактара часопіса Валера Булгакава;
– нарысы публіцыста Дзмітрыя Валасовіча пра малавядомыя эпізоды Другой сусветнай вайны;
– развагі экскурсавода Цімоха Акудовіча пра праблемныя моманты музейных комплексаў у радзівілаўскіх Нясвіжы і Міры і ў касцюшкаўскай Мерачоўшчыне;
– матэрыялы гродзенскіх гісторыкаў Андрэя Вашкевіча і Васіля Герасімчыка пра каранавірус і іншыя прадвеснікі апакаліпсісу, Кастуся Каліноўскага і ягонае паўстанне, Расійскую імперыю, узнікненне і замацаванне слова «Беларусь» і іншыя;
– рэфлексіі гісторыка Алеся Белага пра Брэст як беларускі Севастопаль і сярмягу Тадэвуша Касцюшкі;
– нататкі філолага і журналіста Стася Раманчука пра ўнёсак Эдуарда Лімонава ў беларускую мову і сувязь перакладу песні «L'estaca» з арыгіналам;
— публікацыя краязнаўца Уладзіміра Садоўскага пра тое, як пісалі імя і імя па бацьку ў раннія гады БССР.

Пытайцеся часопіс у кіёсках «Саюздрука» па ўсёй Беларусі. Таксама яго можна набыць у мінскай кнігарні «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72), «Мой модны кут» (пр. Незалежнасці, 58, павільён 333), іншых прыватных распаўсюднікаў.



На сайце **arche.by** даступная не толькі папяровая, але і электронная версія.




ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Аўтар ля грабніцы Тутанхамона.** У часы пандэміі нават у такіх месцах можна спакойна пабыць у самоце і цішы.

# Адзін у Даліне цароў

**Егіпецкі Луксор з сусветна славутымі храмамі і некропалямі раскошна пусты ў час пандэміі, расказвае кандыдат сацыялагічных навук і знаны беларускі падарожнік Аляксей Ластоўскі.**

Егіпет ніколі не цікавіў мяне як турыстычны кірунак. Ціскацца ў масавых экскурсіях? Ну не. Кавід усё змяніў — выбрацца з Беларусі хоць куды стала клопатнай справай. Захаваліся адзінкавыя кірункі — у тым ліку і Егіпет. Мой сябра-егіптолаг аднойчы ў размове сказаў, што цяпер найлепшы час для падарожжа туды: няма абмежаванняў на перамяшчэнні па краіне, усе турыстычныя мясціны адчыненыя, а самае галоўнае — цяпер там практычна адсутнічаюць турысты!

Пасля прылёту і засялення ў гатэль папярэджваю на рэцэпцыі, што не варта хваляваццa пра маю адсутнасць у нумары цягам некалькі дзён. Мясцоваму турагенту кажу, што ніякія мегашыкоўныя экскурсіі па зніжаных цэнах мяне не цікавяць. Закідваю неабходны паходны набор у заплечнік, выклікаю *Uber* — і на аўтавакзал.

## З горада жывых у горад мёртвых

Першае ж уражанне ад гэтага турыстычнага анклава — шокавае. Пасля выхаду з аўтобуса на цябе накідваюцца дзясяткі мясцовых жыхароў, якія прапануюць праехаць на таксоўцы, пераплыць на іншы бераг, купіць амулет, накарміць галодных дзяцей, набыць алкаголь — карацей, забяспечыць усе патрэбы белага турыста.

З гэтага натоўпу трэба выбірацца з жалезнай рукой і халодным сэрцам, бо не наша задача — ратаваць усіх жыхароў Егіпта, якія перажываюць цяжкія часы са згасаннем турыстычнай індустрыі. Мне пакуль карціць толькі пераплыць на грамадскім пароме на іншы бераг Ніла, дзе ўжо чакаюць гаспадары знятай кватэры. На пароме, калі плывеш па ціхай велічнай рацэ, абвейвае прыемны ветрык і напружанне дня пакрысе адпускае. З «горада жывых» з яго нязменнымі за тысячагоддзі клопатамі ты перабіраешся ў «горад мёртвых» з засыпанымі некропалямі і памінальнымі храмамі.

На раніцу я дамовіўся з луксорскім аўтарытэтам Бесам (не трэба палохацца, гэта імя старажытнаегіпецкага бога, падобнага да нашага дамавіка),

**Тур у Егіпет**
каштаваў каля 500 долараў за 12 дзён побыту ў гатэлі з пералётам у Хургаду і пражываннем *all inclusive* уключна. Набыты тур — гэта адзіная магчымасць трапіць у Егіпет цяпер. Можна знайсці і больш танныя туры, а можна выбраць сабе пяцізоркавы гатэль. Паколькі ў планах было адразу выправіцца ў вандроўку па краіне, то гатэль быў абраны з самай таннай катэгорыі, але лепш такога не рабіць, калі ёсць жаданне ўсё ж з камфортам правесці адпачынак на моры.
**Турфірма паклапоціцца, каб вы перад вылетам прайшлі тэст на каранавірус, які абавязкова патрабуюць па прылёце ў Егіпет.** З прыемных навінаў — на некаторы час у краіне ўведзены бязвізавы рэжым, у тым ліку і па прылёце ў Хургаду.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PAULPRESCOTT

**Тыповая забудова Луксора** за межамі турыстычных маршрутаў.

каб той павазіў на сваёй машыне па мясцінах левага берага, бо дыстанцыі там прыстойныя і пешшу неадольныя. Яго дрындулет памятае яшчэ часы Клеапатры, але галоўнае, што чалавек прыстойны, спакойны і яўна заслугоўвае дадзеных яму рэкамендацый.

### «Калі ты п’еш са зладзеямі, бойся за свой кашалёк…»

На світанку мы накіроўваемся ў знакамітую Даліну цароў, дзе стагоддзямі для фараонаў будавалі ў скалах велічныя грабніцы. Будаўнікі спадзяваліся, што скалы абароняць скарбы фараонаў ад раскрадання лепш, чым піраміды. Толькі спадзевы гэтыя былі марнымі — большасць мясцовых пахаванняў была разрабавана яшчэ ў часы Старажытнага Егіпта, ды і пазней рабаўнікі не ведалі літасці.

Таму сапраўдны цуд адбыўся 4 лістапада 1922 года, калі брыгада брытанскіх археолагаў на чале з Говардам Картэрам і лордам Джорджам Карнарвонам раптоўна знайшла фараонскую грабніцу, да якой не дабраліся злачынныя рукі. Роўна праз 98 гадоў і я магу зайсці ў гэтыя падземныя пакоі, дзе дагэтуль ляжыць высахлая мумія Тутанхамона.

Яго грабніца, пры ўсёй сваёй славе, адна з самых сціплых у Даліне цароў па памерах, складаецца, па сутнасці, з дзвюх невялікіх камер. Але некалі яны былі цалкам заваленыя скарбамі, якія археолагі даставалі добры дзясятак гадоў. Навукоўцы думалі, што не можа быць грабніца такой маленькай і тут мусіць быць прыхаваная нейкая патаемная камера, але найноўшае сканаванне вынікаў не дало.

Тутанхамон правіў мала, памёр у 19 гадоў. Даследаванні муміі паказваюць, што ў яго было шмат прыроджаных захворванняў, ён з цяжкасцю хадзіў. Гэта ўсё наступствы інцэстуальных шлюбаў. Тады фараоны жаніліся на сваіх сёстрах ▸


WIKIMEDIA COMMONS

Паром вязе людзей **на заходні бераг Ніла — у «горад мёртвых».**

▶ (як і сам Тутанхамон), і гэта мела трагічныя наступствы для нашчадкаў. Тут жа, у грабніцы, былі знойдзеныя і дзве маленькія муміі неданошаных



WIKIMEDIA COMMONS

**Говард Картэр даследуе саркафаг Тутанхамона**, 1922 год.

дочак фараона. Без нашчадкаў дынастыя перарвалася. А імя Тутанхамона з-за палітычных перадзелаў улады было забытае, дый саму грабніцу неўзабаве засыпалі будаўнічым смеццем, калі будавалі некропаль для Рамзеса V.

Дзякуючы гэтаму забыццю тысячы год таму сёння мы маем магчымасць убачыць пахаванне фараона ва ўсім багацці інвентару! Усе легендарныя знаходкі з пахавання паступова збіраюцца і будуць выстаўленыя падчас адкрыцця Вялікага Егіпецкага музея ў 2021 годзе. Там яны нарэшце будуць сабраныя разам, упершыню з часоў адкрыцця грабніцы. Цяпер ідуць дыскусіі,




WIKIMEDIA COMMONS

**Грабніцы Тутанхамона і Рамзеса V/VI** у Даліне цароў.

ці вывозіць з грабніцы мумію і саркафаг Тутанхамона, але, хутчэй за ўсё, саму грабніцу таксама надоўга зачыняць для тэрміновай рэстаўрацыі.

**Пік Аль-Курн узвышаецца над усёй Далінай цароў.** Ён мае пірамідальную форму, і, як лічаць некаторыя егіптолагі, падабенства піка да піраміды стала прычынай з'яўлення царскага некропаля менавіта тут.

WIKIMEDIA COMMONS

## Антычныя графіці

Гэтая грабніца была добра вядомай ужо ў антычным свеце. Тады яна была даволі папулярным турыстычным аб'ектам (хоць сам панятак турызму зарадзіўся значна пазней), пра што сведчаць нашкрэбаныя старажытнымі турыстамі графіці. Але антычныя падарожнікі лічылі, што яе стварылі для легендарнага цара Мемнана, героя Траянскай вайны.

Мільёны наведвальнікаў за без малога стагоддзе пакінулі далёка не лепшы адбітак на тысячагадовых роспісах.

Цяпер жа з-за пандэміі па ўсёй Даліне цароў блукае самае большае пара дзясяткаў наведвальнікаў. Можна без усялякай чаргі зайсці нават у самую вядомую і папулярную грабніцу ды спакойна яе разглядаць, без дыхання ў спіну легіёна турыстаў.

## Апошні шлях для фараона

Варта абавязкова зазірнуць і ў суседнюю грабніцу Рамзеса V/VI, якая лічыцца адной з самых прыгожых у Даліне цароў. Падвоеная назва атрымалася таму, што пачаў яе будаваць Рамзес V, але пакіраваў Егіптам ён толькі чатыры гады. Недабудаваную ж грабніцу перахапіў ягоны



Калідор грабніцы Рамзеса V / VI.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

дзядзька, Рамзес VI. Ён дазволіў змясціць сюды і саркафаг свайго пляменніка. Як бачым, пры ўсім значэнні, якое надавалі захаванню пра сябе пасмяротнай памяці фараоны, са сваімі папярэднікамі яны не цырымоніліся.

Дабудаваная ўрэшце грабніца атрымалася вельмі доўгай (117 метраў), і надзвычай добра захаваўся дэкор: проста ад увахода мы разам з богам сонца адпраўляемся ў падарожжа па падземным царстве памерлых. Так і душа памерлага фараона накіроўвалася ў грабніцы такім жа маршрутам, што гарантавала Рамзесу пасмяротнае жыццё.



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

Роспіс грабніцы пісца Мены.

Доўгі калідор вядзе да пахавальнай камеры, дзе столю займае грандыёзны роспіс багіні зорнага неба Нут, у чорных і залатых колерах. Кожны вечар багіня праглынае сонца і кожны ранак наноў нараджае яго. Бясконцы цыкл вечнага нараджэння, у які ўключаныя і душы памерлых фараонаў.

Самай прыгожай у Даліне цароў лічыцца грабніца фараона Сэці, але яна адчынілася нядаўна і наведванне яе каштуе шалёных грошай — каля 100 долараў. Я вырашыў абмежавацца класікай, а навінкі пакінуць на наступны візіт, на тлусцейшыя гады. ▶




План грабніцы Рамзеса V / VI.

WIKIMEDIA COMMONS



ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

**Аўтар каля разбуранай статуі Рамзеса II.**

### ▸ Грабніцы для кожнага: ад фараона да будаўніка

Агулам жа левы бераг Ніла засыпаны безліччу грабніц, хоць сэрцам, безумоўна, з'яўляецца легендарная Даліна цароў. Непадалёк знаходзіцца Даліна высакародных, дзе хавалі прадстаўнікоў арыстакратыі, сваякоў фараона і візіраў. Менавіта тут праводзіў у 1862 годзе свае раскопкі наш граф Міхал Тышкевіч, патаемна, уначы, падкупіўшы ахоўнікаў (пра яго жыццёвыя прыгоды падрабязна распавядаецца ў артыкуле ў №10/2020 «Нашай гісторыі»).

Арыстакратычныя грабніцы меншыя па маштабах, хоць часам зусім не саступаюць па эстэтычных вартасцях. І калі фараоны выпраўляліся ў пасмяротнае жыццё па фармалізаваным каноне, па загадзя вызначаных тэкстах сакральных кніг, то візіры загадвалі ўпрыгожваць сцены грабніц карцінамі свайго жыцця, і таму мы з іх можам значна больш даведацца пра арганізацыю эканомікі і грамадства Старажытнага Егіпта.

Некропалі Фіваў даюць нам уяўленне не толькі пра жыццё вярхушкі грамадства. На ўзвышэнні Дэйр эль-Медзіна можна ўбачыць, як жылі рабочыя, будаўнікі і мастакі, што займаліся стварэннем грабніц. Тут нават цікавыя не ўмовы іх жыцця — калі меркаваць па рэштках жытла, досыць спартанскія, — але тое, што іх уласныя грабніцы маюць сваю версію арганізацыі пасмяротнага жыцця, з узвышаным адлюстраваннем фізічнай працы.

**З архіва жыхароў рабочага пасёлка можна даведацца, што будаўнікі пірамід ладзілі забастоўкі, калі ім мала плацілі**

На гэтым месцы была знойдзена фантастычная знаходка — архіў штодзённай перапіскі насельнікаў рабочага пасёлка.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY MATEJH

**Тэрасы храма Хатшэпсут** з вышыні.



ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

**Сцяна памяці ў рэстаране Абдула Расула і яго нашчадкаў.** На момант наведвання ўстанова была практычна пустой.



**Тэрасы храма Хатшэпсут** ідэальная пляцоўка для трагедый. Тут ставяць «Аіду» падчас летніх оперных фестываляў. Тут адбыўся і адзін з самых сумнавядомых тэрактаў у найноўшай гісторыі Егіпта: у 1997 годзе ісламскія тэрарысты забілі тут 62 турыстаў з розных краін.

З яго можна даведацца, што рабочыя ладзілі забастоўкі, калі ім мала плацілі за выкананую працу, і маглі дабівацца ад фараонаў выканання сваіх патрабаванняў. Тады вам не цяпер! І вось цікавая дэталь: у тым жа архіве рабочага пасёлка была знойдзена і практычна ўся любоўная лірыка Старажытнага Егіпта.

### Цар цароў і пустата

Але час зрабіць перапынак, выпіць кавы, бо галава ўжо перапоўненая ўражаннямі. Бес спыняецца ля рэстарана, які знаходзіцца ля храма Рамзеса II. Невялічкая ўстанова, сямейны бізнэс, які мае дзівосную гісторыю стварэння. Продак цяперашняга ўласніка Абдул Расул 12-гадовым хлопчыкам цягаў ваду для працаўнікоў на раскопках Говарда Картэра, і менавіта ён знайшоў схаваны ў пясках ход, які вывеў на грабніцу Тутанхамона.

Узрадаваны фантастычнай знаходкай археолаг падараваў хлопчыку каралі з пахавальнага інвентару фараона. Пазней егіпецкія ўлады забралі ў Абдула каштоўную знаходку, але замест гэтага далі грошы на адкрыццё рэстарана, які падтрымлівае яго сям'ю ўжо цэлае стагоддзе. Ціхае і спакойнае месца, дзе табе не спрабуюць прадаць легендарныя каралі, а прыносяць халоднае піва (што ў Егіпце надзвычайная рэдкасць!).

Адсюль адкрываецца від і на руіны разбуранага храма Рамзеса II, якія тысячагоддзямі ўражвалі, бянтэжылі і натхнялі — як старажытных элінаў, якія прыдумалі легенду пра магутнага цара Азімандзіяса, так і адукаваных еўрапейцаў.

Рамзес II, які лічыцца самым магутным фараонам за ўсё існаванне Старажытнага Егіпта, пабудаваў гэты храм, каб увекавечыць свае ваенныя поспехі. Фараон скарыў шматлікія народы ад Нубіі на поўдні да Лівана на поўначы, дзе сутыкнуўся з магутнымі хетамі. Але ён не здолеў скарыць прыроду і лёс. Мемарыяльны храм быў знішчаны землятрусам, а рэшткі знішчанай гіганцкай 17-метровай фігуры фараона назаўжды сталі сімвалам безнадзейнасці ў змаганні з часам.

### Жанчына-фараон

Больш удала задачы захавання свайго пасмяротнага храма дала рады Хатшэпсут, якая ўвайшла ў гісторыю як адна з нешматлікіх жанчын-фараонаў (ці правільна сказаць «фараонак»?). Цікава, што на выявах яна з барадою, каб адпавядаць канонам валадароў. Яе мемарыяльны храм з трыма велічнымі тэрасамі, драматычна размешчанымі на фоне гор, выглядае нават крыху па-мадэрнісцку.

## Хатшэпсут, жанчыну-фараона, на барэльефах выяўлялі з барадою

Сярод барэльефаў варта адшукаць сцэны, якія нагадваюць пра славутую экспедыцыю ў таямнічы Пунт (гісторыкі і цяпер б'юцца над загадкай, дзе ж насамрэч месцілася гэтая багатая ▶




WIKIMEDIA COMMONS

**Фелукі на Ніле** ў прамянях сонца на захадзе.

▸ краіна), якую арганізавала царыца. Хоць яе наступнік, Тутмас III, прыклаў шмат намаганняў, каб знішчыць усе статуі і надпісы, якія б нагадвалі пра гэтую вялікую жанчыну, справядлівасць з цягам часу была адноўленая. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі польскія археолагі, якія і цяпер апякуюцца храмам. Падчас майго візіту на месцы таксама працавала польская каманда.

І, нарэшце, традыцыйна апошні пункт маршруту на левым беразе — гэта храм Медзінет Хабу. Звычайна гэты велізарны храмавы комплекс застаецца ў цяні іншых суседніх аб'ектаў — як і Рамзес III, яго стваральнік, застаецца ў цяні свайго славутага папярэдніка і заваёўніка Рамзеса II. Пры гэтым комплекс Медзінет Хабу велізарны і досыць добра захаваўся. Землятрус не так моцна па ім прайшоўся. Да таго ж большасць эстэтычных рашэнняў пры яго пабудове была запазычаная з будаўнічай праграмы Рамзеса II.

### Па слядах Агаты Крысці

Галава за гэты дзень, праведзены на левым беразе Ніла, ужо перапоўненая ўражаннямі, трэба нейкі адпачынак. Я дамовіўся з Бесам пра наём фелукі (так называюць традыцыйныя парусныя лодкі), якая выправіць мяне па Ніле ў пагоню за апошнімі промнямі абагоўленага Сонца. Пашанцавала, ёсць ветрык, таму мы можам адправіцца на поўдзень, супраць цячэння вялікай ракі, уздоўж такіх рэліктаў былой каланіяльнай эпохі, як гатэль *Winter Palace*, дзе Агата Крысці пісала раман «Смерць на Ніле».

## Кракадзілаў у гэтых мясцінах ужо няма, але плаваць у Ніле ўсё адно небяспечна

Калі фелука рабіла рэзкі разварот і бартом ледзь не чэрпала ваду, то было адчуванне, што смерць на Ніле напаткае і мяне. Але абышлося. Дарэчы, кракадзілаў у гэтых мясцінах ужо

*Падказка.* Калі вы хочаце добрага гіда з сумленнымі расцэнкамі, то даю вам кантакт Беса:
Hagag Rushdi Taufik,
**elbessrshde@yahoo.com**.
Тэл. (002) 01224239059.
Размаўляе па-англійску і па-французску.



**Храмавы комплекс Карнака** на здымку 1914 года, зробленым з аэраплана.

WIKIMEDIA COMMONS


Руіны храма ў Карнаку.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY NGVPROD

няма, яны рассякаюць воды Ніла толькі за Асуанскай плацінай. Але плаваць у гэтай рацэ ўсё адно небяспечна з-за вялікай забруджанасці.

Дзве гадзіны на фелуцы — гэта незабыўныя ўражанні. Міма праплывае сумны круізны лайнер, з якога раней бы вывальваліся п'яныя брытанскія турысты, а цяпер ён нагадвае непрытульнага «Лятучага галандца». На нас здзіўлена пазіраюць мясцовыя рыбакі. На беразе жыццё асабліва і не змянілася з часоў Новага

ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА


Гіпастыльная зала Карнака.

царства: валы цягнуць плугі, егіпцянкі носяць на галовах кашы. Сялянская ідылія, здаецца, закансервавалася навечна.

## Бацька фараонаў

Назаўтра раніцою паром перапраўляе мяне зноў на правы бераг, да «горада жывых». Пакуль з Хургады не прыбылі аўтобусы з пакетнымі турыстамі і сонца не пачало свой бязлітасны марш, трэба паглядзець храм Карнак. Егіпцяне называлі яго Іпет Сут — «самае дасканалае месца». Галоўны храм егіпецкай дзяржавы на працягу амаль двух тысячагоддзяў.

Цэнтральны санктуарый быў прысвечаны богу сонца Амону, сынамі якога лічыліся фараоны. Амаль усе вялікія фараоны імкнуліся пакінуць свой след тут, часам знішчаючы працу папярэднікаў. У выніку паўстаў велізарны храмавы комплекс, самы вялікі храм старажытнага свету. Сэрца ж храма — гіганцкая гіпастыльная* зала, лес калон якой адлюстроўвае моц і веліч фараонаў.

* **Гіпастыльная** — калонная зала, якая складаецца з розных частак, нефаў, якія падтрымліваюцца калонамі.

## Перасоўванні па Егіпце

Замежным турыстам усё настойлівей раяць карыстацца толькі арганізаванымі турамі. Але ніякай забароны на самастойны прыезд няма. Сапраўды, для Егіпта існуе праблема тэрарызму, але шукаюць ахвяраў якраз у месцах масавага турызму. Вакзалы, гатэлі, людныя вуліцы ахоўваюцца ўзброенай паліцыяй. Усе прадстаўнікі сілавых структур, з якімі я сутыкаўся падчас вандроўкі, імкнуліся толькі дапамагчы.

Ёсць два асноўныя шляхі для самастойнага перамяшчэння па краіне: аўтобусы і цягнікі. Аўтобусы досыць камфортныя: вялікія крэслы, кандыцыянер у салоне, адпраўляюцца па раскладзе, але не арганізаваныя ў цэнтралізаваную сістэму. Існуе шмат прыватных кампаній, кожная з якіх мае свой вакзал. Часам актуальны расклад руху немагчыма адшукаць у інтэрнэце, нават на арабскамоўных версіях сайтаў. Таму пошук патрэбных маршрутаў ператвараецца ў складаную лагістычную задачу.

З цягнікамі іншая бяда: яны ідуць па асноўнай егіпецкай магістралі, ад Асуана праз Каір да Александрыі. Егіпецкая чыгунка мае свой сайт з раскладам, але цягнікі вельмі ненадзейныя. Уласны досвед быў вельмі сумным, бо расклад тут рэч зусім умоўная, спазненні на некалькі гадзін — звычайная рэч. Прытым самі па сабе цягнікі досыць камфортныя, крэслы, зноў жа, вялікія, можна нават зарадзіць тэлефон (але вай-фая няма). У буйных гарадах дзейнічае міжнародная сетка таксі *Uber*, што вельмі выручае з улікам сквапнасці мясцовых таксістаў.

А 11-й гадзіне прыбываюць нарэшце вельмі чаканыя тут турысты з Хургады: беларусы і ўкраінцы. Іншых замежнікаў тут практычна і няма. Мясцовыя ▶




**Луксорскі храм**
і ацалелы абеліск перад ім.

гіды паважліва распавядаюць, што гэта яны тут апошнія Рамзесы. Нешчаслівыя турысты водзяць карагоды каля жука-скарабея: сем разоў навернеш кола — і будзе табе ўдача. Я ж кідаю апошні позірк на рэльефы Рамзеса II, які і тут на калясніцы з лука нішчыць сваіх ворагаў, і рушу да Луксорскага храма.

Мой шлях сімвалічна паўтарае штогадовую цырымонію, якая адбывалася ўвесну ў старажытных Фівах, калі разліваліся воды Ніла. Падчас урачыстага фестывалю статую Амона-Ра перавозілі па рацэ цэлай флатыліяй барак, дзе ў Луксорскім храме, «гарэме поўдня», бог сонца злучаўся са сваімі жонкай і сынам. Гэты фестываль мусіў зноў жа звязваць культ багоў і культ егіпецкіх цароў, пад эгідай якіх квітнела «чорная зямля», як самі егіпцяне называлі сваю краіну.

Большая частка храма была пабудаваная пры фараоне Аменхатэпе III, які правіў трыццаць гадоў, што было надзвычай доўга па тагачасных мерках. Увесь гэты час яму трэба было дэманстраваць сваім падданым невычэрпную сілу. Цэнтральны двор храма атачаны папірусападобнымі калонамі, але адмыслова адкрыты небу, бо прамяні бога сонца мусілі ва ўсю моц грэць жрацоў, якія там збіраліся для сваіх рытуалаў.

Але самае важнае значэнне меў прыхаваны пакой унутры свяцілішча, дзе на сценах выяўлена гісторыя, як Амон-Ра патаемна прыходзіць да маці Аменхатэпа III і апладняе яе сваім сонечным семенем. Сама ідэя боскага паходжання царскай улады аказалася настолькі прывабнай, што і Аляксандр Македонскі, захапіўшы Егіпет, таксама абвясціў сябе сынам Амона-Ра і ў знак удзячнасці перабудаваў гэты храм.

## Падарунак французам

Найбольш сур'ёзную страту Луксорскі храм пацярпеў ужо ў 1830-я гады, калі егіпецкі віцэ-кароль падарыў два велізарныя абеліскі Францыі. Адзін з іх у выніку застаўся на месцы, але другі дабраўся да Парыжа і ўпрыгожвае да нашага часу плошчу Згоды ў цэнтры французскай сталіцы.

## Муміі людзей і звяроў

Ёсць яшчэ час наведаць і тутэйшыя музеі, якія былі прыстасаваныя пад вялікі паток турыстаў. У Луксорскім музеі экспазіцыя адносна невялікая па аб'ёмах, але знаходкі тут надзвычай цікавыя, бо артэфакты паходзяць з Карнака (нават рэканструяваная цэлая сцяна гэтага храма) і некропаля Фіваў. Статуі багоў і фараонаў, экспанаты з грабніц — такога дабра тут хапае, але ёсць і ўнікальныя рэчы: дзве фараонскія муміі,

Рамзеса I і Яхмоза. Апошні цар лічыцца заснавальнікам XVIII дынастыі, паколькі выгнаў з Егіпта заваёўнікаў-гіксосаў. Апроч самой муміі Яхмоза, уражваюць і шыкоўныя прадметы з пахавання яго маці, якое засталося неразрабаваным.

## У якасці ахвяраванняў багам егіпцяне рабілі муміі жывёл — кракадзілаў, бабуінаў. А найбольш катоў, якіх захаваліся тысячы

Побач яшчэ адзін невялічкі турыстычны музей, які адмыслова прысвечаны працэдуры муміфікацыі. Ён зусім невялічкі па памерах, але экспанаты якасна падабраныя. Лічылася, што пасмяротнае жыццё гарантаванае, калі цябе бог Азірыс пазнае пасля смерці. Гэта нарадзіла цэлую індустрыю муміфікацыі, якой падлягалі не толькі фараоны і арыстакраты, але і многія простыя людзі. У музеі можна дасканала прасачыць працэс — тут выстаўленыя аўтэнтычныя пінцэты, якімі праз нос даставалі мозг, скальпелі, якімі ўскрывалі бок, пасля чаго даставалі ўнутраныя органы і раскладалі іх па спецыяльных вазах. Цела засыпалі натрыевымі солямі і ўрэшце закручвалі ў бінты.

Вельмі шмат увагі надавалася і таму, што кладзецца ў пахаванне, паколькі ад гэтага будзе залежаць дабрабыт і сытнае пасмяротнае




**Мумія ката** з музея муміфікацыі.

жыццё. Але далёка не ўсе маглі сабе дазволіць такі раскошны інвентар, як Тутанхамон. Звычайна клалі фаянсавыя фігуркі *ушэпці*, якія мусілі прыслужваць памерламу ў замагільным свеце.

У якасці ахвяраванняў багам ці ў знак павагі да сакральных жывёл, што жылі ў храмах, егіпцяне рабілі і муміі жывёл: кракадзілаў, бабуінаў, баранаў. Нядаўна ў Сакары знайшлі першую мумію львяняці, але куды больш распаўсюджаная знаходка — гэта муміі катоў, якія былі знойдзеныя тысячамі.

У XIX стагоддзі была спроба зрабіць бізнэс на гэтых муміях. Іх вывезлі ў Англію, дзе прадавалі на аўкцыёне — але па выніку гэтых няшчасных катоў перамалолі і пусцілі на ўгнаенні ліверпульскіх палёў. Часы змяніліся, і зараз егіпцяне ўжо рупліва сочаць, каб ніякія каштоўнасці з краіны не вывозіліся. Калі вас зловяць з гэтым, то пагражае працяглы турэмны тэрмін.

Але мне ўжо пара пакідаць Луксор, шлях мой ідзе на поўдзень, да вытокаў Ніла, да свяцілішча баранападобнага бога Хнума і да храмаў Нубіі, якія выратоўвалі ўсім чалавецтвам пасля будаўніцтва Асуанскай плаціны... ◆

### Махлярства

На жаль, у Егіпце трэба быць максімальна асцярожным, паколькі тут у турыстычнай сферы надзвычай пашыранае махлярства. Ні ў якім разе нельга садзіцца ў таксоўку ці замаўляць абед у рэстаране без дамоўленага кошту ці меню, бо вас будзе чакаць фантастычны рахунак. Ніколі не верце людзям, якія будуць прапаноўваць вам дапамогу, напрыклад: гэты музей зачынены, давайце я вам пакажу патаемны базар, дзе сёння ідзе распродаж. Ігнорце! Бо гэта будзе лухтой, музей насамрэч адчынены, а вас спрабуюць надурыць. Таксама выпрацаваная і махлярская сістэма здачы жытла, з якой не змог справіцца нават *Booking.com*. Правярайце па дзесяць разоў тое месца, дзе вы запланавалі спыніцца. Чытайце заўжды самыя негатыўныя водгукі, бо яны будуць найбліжэйшыя да праўды. Ніколі не верце рэйтынгу 10.0, бо ён будзе накручаны фальшывымі водгукамі.




**Такія баркі мусілі перавозіць памерлых валадароў у царства мёртвых.** Экспанат з Луксорскага музея.

**Асаблівасць выжлаў —** спадчынна замацаваная здольнасць, пачуўшы дзічыну, заміраць у стойцы.

# Выжал, які не ганчак



**Сучасныя слоўнікі усё часцей падаюць значэнне гэтага слова памылкова. Добра, калі наш сучаснік прынамсі ведае, што выжал — гэта нейкі паляўнічы сабака. Але які? Тлумачыць доктар гісторыі Алесь Белы.**

## «Ні пёс, ні выжал, хоць з хаты выжань»

Так сталася, што са словам «выжал» у многіх беларусаў сёння падсвядома і інстынктыўна асацыюецца нешта негатыўнае. І гэта не выпадкова. Так сталася, што воляй лёсу ў пэўны час гэты сабака стаў пэўным увасабленнем сацыяльнага канфлікту паміж элітамі грамадства і простым людам. Выжал для беларускіх сялян стаў істотнай часткай варожага ім панскага свету, адным з сімвалаў панскага самадурства ды эгаізму. Гэты сабака ў сялянскім уяўленні быў нібыта злосным, жорсткім,

**Выжлы** (рус. *легавые*) — група парод паляўнічых сабак, якія ў наш час выкарыстоўваюцца для палявання са стрэльбай на дзікіх птушак. Агульная асаблівасць выжлаў — спадчынна замацаваная здольнасць, пачуўшы дзічыну, заміраць у стойцы.

Большасць парод выжлаў (у сучасным разуменні гэтага слова) паходзіць ад старажытных паляўнічых сабак Заходняй і Паўднёвай Еўропы, якія выкарыстоўваліся для палявання на птушак (перапёлак, курапатак, рабчыкаў і г. д.) з сеткамі. Знайшоўшы птушку, сабака клаўся перад ёй, залягаў (адсюль руская назва *легавая*), пасля чаго птушку разам з сабакам накрывалі сеткай. Першапачаткова гэтыя сабакі мелі доўгую поўсць і, імаверна, вялі сваё паходжанне з Іберыйскага паўвострава. Пазней з'явіліся птушыныя выжлы іншага паходжання, з радаводам ад розных пародаў ганчакоў — сабак, якія мелі кароткую поўсць. Маючы вельмі жвавы тэмперамент і рухавасць, яны не клаліся, адсачыўшы птушку, а рабілі нерухомую стойку. Англійскія паляўнічыя называлі такіх сабак «пойнтарамі» — паказальнікамі.

Паступовае паляпшэнне трапнасці агнястрэльнай зброі і вынаходніцтва шроту, з'яўленне моды на стральбу па птушках на ляту спрыялі большай папулярнасці англійскіх сабак са стойкай. З часам у большасці краін сталі аддаваць перавагу больш універсальным кантынентальным выжлам, якія дастаюць птушку з вады і сушы, ідуць па крывавым следзе, робяць стойку па зайцы і г. д.

арганічна варожым мужыкам, а ў ідэалагічна матываваных літаратурных творах нават выступаў выканаўцам бязлітасных смяротных выракаў простаму люду. Такі вобраз знайшоў адлюстраванне ў фальклоры, а пасля яго дадаткова, свядома ці падсвядома, замацавалі ў сваіх творах і беларускія літаратары.

## Выжал для сялян быў сімвалам панскага самадурства ды эгаізму

У вядомай беларускай казцы «Як Сцёпка з панам гаварыў» дасціпны мужык-пасланец паведамляе пану-самадуру адну за адной кепскія навіны, паступова рыхтуючы яго да найбольш трагічных. Гэты ланцужок пачынае раскручвацца са сціплага сцізорыка, які ламаецца аб любімага панскага выжла, калі з таго лупяць скуру. «Панскі выжал, гэта той самы, можа, пан памятае, што ўскочыў быў у студню, а Мікіту пасылалі даставаць, дык ён і ўтапіўся там. Эге ж, той самы выжал, што пан любіў яго браць на паляванне. Здаецца, калі не мыляюся, **пан аддаў за таго выжла суседняму пану трох мужыкоў**...».




**Нямецкі выжал** пароды курцхаар.

Негатыўны вобраз выжла адбіўся і на сялянскай фразеалогіі. Паводле сучасных успамінаў Ліліі Ігнатовіч, якая родам з ваколіцаў Поразава цяперашняга Свіслацкага раёна на Гарадзеншчыне, у яе сям'і слова «выжал» пагардліва ўжывалася ў дачыненні не да сабакі, а да чалавека, які заўсёды шукаў штосьці найлепшае для сябе. А яшчэ ёсць прыказка пра чалавека, ні да чаго не прыдатнага: «Перавярнуўся чалавек: ні пёс, ні выжал, хоць з хаты выжань».

Беларуская савецкая літаратура з яе акцэнтацыяй на сацыяльных момантах і класавых канфліктах дадаткова згушчала фарбы. Прывядзём некалькі характэрных прыкладаў.

У апавяданні Міхася Лынькова «Ядвісін дуб» панскія выжлы, паводле чутак, да смерці парвалі Ядвісінага дзеда Януся, а ў фінале твора (пасля прыходу Чырвонай арміі ў верасні 1939 года) просты люд самога галоўнага крыўдзіцеля і мучыцеля Ядвісі, яе дзеда і іншых злосна называе «рудым выжлам».

У Якуба Коласа ў дзіцячым апавяданні «На сваім хлебе» апісваецца сацыяльны канфлікт паміж любімай выжлай пана Барнацкага Лютняй («з шляхецкага сабачага роду, з роду выжлаў») і простым дварняком Тропікам. Спачатку Лютня фанабэрлівая, але пасля прыходу чырвоных (1920 год) пан уцякае і яна перавыхоўваецца ды пачынае сябраваць з Тропікам.

У баладзе Уладзіміра Дубоўкі «Крычаўская спакуса» так ▸

апісана пакаранне аднаго з правадыроў Крычаўскага паўстання XVIII стагоддзя Івана Карпача (дарэчы, гістарычна няпраўдзівае, бо насамрэч таго пасадзілі на пáлю):

> «На Карпача, што пасеяў спакусу,
> у медзвядзіную скуру зашыўшы,
> выпусціць зграю някормленых
> выжлаў...»

Гэты ж самы штамп — «напусціць зграю выжлаў» — Дубоўка ўжыў і ў вершаванай казцы «Разумная дачка», толькі тут патэнцыйнай ахвярай выступіла дзяўчына, што яшчэ больш мусіла падкрэсліць меркаваную жорсткасць як пана, так і ягоных выжлаў.

Характэрна, што погляд на выжла з іншага боку міжкласавага бар'ера істотна адрозніваўся. Літаратары, якія паходзілі са шляхецкіх асяродкаў, пісалі пра гэтую жывёліну нейтральна. Так, у апавяданні «Вужовая карона» з цыкла «Беларусь у фантастычных апавяданнях» Ян Баршчэўскі без аніякага ценю асуджэння піша пра выжла, з якім аканом даручае селяніну паляваць на глушцоў, цецерукоў і курапатак.

### Выжлы = «легавые»

Зрэшты, калі мы ўспомнім, у якім значэнні звычайны, не звязаны з паляваннем сучасны чалавек ужывае рускае слова *«легавые»*, адпаведнік нашага «выжла», — дык таксама перадусім усплываюць негатыўныя асацыяцыі. Так у простанародным ці «блатным» кантэксце з пагардай і асуджэннем называюць супрацоўнікаў міліцыі/паліцыі або дэтэктываў. Хоць «віна» саміх сабак гэтай пароды толькі ў тым, што яны дасканала рэалізуюць свой паляўнічы інстынкт і верна служаць гаспадару.

Але негатыўны вобраз выжла ў творах Коласа, Лынькова ці Дубоўкі — яшчэ не самае горшае, што можа здарыцца са словам і паняццем, якое яго абазначае. Бо гэтыя аўтары прынамсі мелі ўяўленне, які ўвогуле сабака абазначаецца гэтым словам. У наш жа час імкліва адбываецца скажэнне яго сэнсу.

Яшчэ нядаўна амаль усе беларускія слоўнікі адназначна тлумачылі слова «выжал» як

**«Бяжыць выжал па разоры»** гучыць прыгожа, але гэта не літаратурная цытата, а назва аднаго з тураў тэлевізійнай віктарыны «Размаўляем па-беларуску» тэлеканала «Беларусь 3», арыентаванага на веданне беларускай лексікі (2017). На жаль, і ў гэтым выпадку слова «выжал» тлумачыцца як «гончы сабака», то-бок адбываецца размыванне і скажэнне сэнсу слова, яго ўніфікацыя з адпаведным рускім *«выжлец»* з цалкам іншай гісторыяй і сэнсам.

адпаведнік рускага «легавая», што было слушна. А сёння адзін за адным новыя слоўнікі самавольна перавызначаюць сэнс слова: беларуска-рускі слоўнік для школьнікаў Аляксандра Булыкі, школьны тлумачальны слоўнік Вольгі і Марыі Верціхоўскіх, анлайн слоўнікі *skarnik.by* і *verbum.by*... У адных выпадках яго перакладаюць на рускую як *«выжлец»* (самец ганчака), а ў большасці — проста як *«гончая»*. Чаму такое разуменне «выжла» склалася ў рускай мове — згадаем ніжэй, але для беларускай традыцыі гэта абсалютны дысананс, поўны разрыў пераемнасці.

Праўда, некаторыя сучасныя раённыя газеты, ужываючы ў сваіх беларускамоўных публікацыях па правілах палявання слова «выжал», якое цяпер не зусім зразумелае большасці сучасных чытачоў, адразу ж у дужках даюць і яго карэктны рускі адпаведнік — *«легавая»*. Так робяць, напрыклад, «Міёрскія навіны», «Герой працы» (Шуміліна), «Перамога» (Дзятлава) і інш. І я асабіста ўдзячны рэдакцыям за гэта. Добра, што ў іх ёсць яшчэ людзі старога гарту, якія не страцілі сувязь з традыцыяй.


**Нямецкія выжлы** на гравюры XIX стагоддзя.

ETYMOLOGICZNAMENAZERIA.WORDPRESS.COM

## Быў танны, стаў дарагі

Слова «выжал» вядомае ў беларускай мове ўжо сама меней 500 гадоў, прынамсі з часоў вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Але калі для забяспечаных паляўнічых XIX і пачатку XX стагоддзяў выжал — гэта самая вытанчаная, разумная і ўрэшце дарагая парода сабак, то ў тэкстах XVI стагоддзя яна нечакана аказваецца адной з самых малакаштоўных.

**За дамавога брахуна тры капы грошай, за курча і за хорта тры рублі грошай, за выжла дзве капы грошай...**

Так, у трэцім Статуце ВКЛ 1588 года за страту або калецтва выжла ў параўнанні з іншымі сабакамі прызначалася ці не найменшая з усіх кампенсацыя: «За пса дамавога брахуна тры капы* грошай, за наследніка і за набрэшніка звярынага тры рублі грошай, за бабровага пса тры рублі грошай, за курча і за хорта тры рублі грошай, **за выжла дзве капы грошай**, за ўзлайніка звярынага тры капы грошай, за шчаю паўтары капы грошай, за падстрэлчага пса тры капы грошай, за пса абсочнага тры рублі грошай, за медзялянскага пса тры рублі грошай, за харта падсаколяга тры рублі грошай».

* Старабеларуская адзінка лічэння: шэсцьдзясят штук чагосьці.


PSY.PL

Венгерская выжла.

А ў часы першага Статута 1529 года, на 60 гадоў раней, разрыў у коштах паміж найбольш каштоўнымі сабакамі і выжлам быў яшчэ большым. Тады за следніка і бабровага пса належала 12 коп грошай, за курча і харта падсаколяга — 10 коп, за кабяля дамовага (відаць, вялікага вартавога сабаку) — 5 коп, а за харта і за выжла «заечага або звярынага» — усяго толькі 3 капы. Пасля ж, як мы бачым, расцэнкі знізіліся яшчэ больш.

У чым тут справа? А ў тым, што змест і сутнасць палявання ў XVI і ў XIX стагоддзях кардынальна адрозніваліся. XVI стагоддзе ў нас — гэта яшчэ амаль Сярэднявечча, і паляванне тады было заняткам вельмі небяспечным і жорсткім. Тады палявалі на мядзведзя, дзіка, зубра і тура, прытым з рагацінай. І было гэта як пэўнай рэпетыцыяй фехтавальнага ды рукапашнага бою ў прамежках паміж бясконцымі войнамі, так і банальным сродкам здабывання мяса дзічыны да шляхецкага стала.

Асноўнай жа функцыяй як выжла, так і *агара* (польска-літоўскай разнавіднасці ганчака) у той час было паляванне на зайцоў. Паколькі як прэстыж гэтага віду здабычы, так і колькасць здабытага мяса значна саступалі іншым відам палявання, то і адпаведныя сабакі цаніліся невысока.

А ў XIX стагоддзі паляванне — ужо зусім іншы тып забавы. Буйной жывёлы ў лясах да таго часу істотна паменела, а вартасць чалавечага жыцця, наадварот, узрасла. Ды і тэхнічны прагрэс на месцы не стаяў: паляўнічыя стрэльбы былі ўжо амаль такімі ж трапнымі, як сёння. З выжламі на зайцоў палявалі ўжо хіба толькі зрэдку, а ў асноўным ►

## «Выжал знаходзіць, агар гоніць»

У кнізе польскага пісьменніка, сакратара караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Лукаша Гурніцкага *«Dworzanin Polski»* (1566) прыводзіцца такі гістарычны анекдот. Іспанец Педра Руіс, які ў 1551–1571 гадах жыў у Вільні, стварыўшы тут першую школу права пры касцёле Святога Яна, неяк звярнуўся да Мікалая Радзівіла Чорнага, вялікага канцлера ВКЛ і віленскага ваяводы, каб той пазычыў яму сабаку для палявання на зайца. «А якога, васпан, хочаш: выжла ці агара?» — запытаўся Радзівіл, жадаючы пакпіць з іншаземца. «А што такое выжал і што такое агар?» — «Ну, такога, які знойдзе зайца, або такога, які дагоніць?» — «Мне трэба такога сабаку, каб і знайшоў, і дагнаў. Бо, як на мой розум, занадта вялікая раскоша на аднаго зайца трымаць ажно двух сабак!»

Выраз «Выжал знаходзіць, агар гоніць» (*«Wyżeł znajduje, ogar goni»*) з рэплікі Радзівіла ў перадачы Гурніцкага ўвайшоў у польскую мову як прыказка і захаваўся ў ёй аж да нашых дзён. Так кажуць тады, калі трэба падкрэсліць адсутнасць універсальнага сродку для вырашэння нейкай праблемы. Патрабуецца ж менавіта набор некалькіх сродкаў або інструментаў, а перадусім — спецыялістаў.

на птушыную дзічыну: глушцоў, цецерукоў, курапатак, дубальтаў і іншых. Пры гэтым высока цэніцца ўжо не столькі сама здабыча, колькі эмоцыі ад зносін з прыродай, трапнага стрэлу, добрай працы сабакі-памочніка. Фізічная моц і асабістая мужнасць паляўнічага пры ўдасканаленні зброі адыходзяць на другі план.


Адна з падгруп выжлаў, родам з Брытанскіх астравоў — сетары.

ZWIERZETAINFORMACJE.PL

### Розная эвалюцыя

Паралельна з эвалюцыяй агнястрэльнай зброі і зменамі ў «філасофіі» палявання адбывалася і селекцыя сабачых парод. Як піша расійскі гісторык палявання Алег Ягораў, у XVI стагоддзі выжал — гэта яшчэ і не сучасны ганчак, і не сучасная «легавая», а ўніверсальны паляўніча-прамысловы сабака, падобны да французскай групы парод «брак». Гэтая парода была вядомая і ў Маскоўскай Русі, хоць і была там менш распаўсюджаная.

**Калі ў нас выжал развіваўся ў бок «легавых», то на ўсходзе ён быў адным з матэрыялаў для селекцыі ганчакоў**

А потым эвалюцыя выжла ў Рэчы Паспалітай і ў Расіі пайшла рознымі шляхамі. Калі ў нас ён паступова развіваўся ў бок якасцяў, характэрных для сучасных «легавых», дык на ўсходзе выжал быў адным з матэрыялаў для селекцыі ганчакоў. Таму па-руску самец ганчака сёння называецца *«выжлец»*, а спецыяліст па працы з ганчакамі — *«выжлятник»*. І менавіта гэта збівае з тропу складальнікаў сучасных беларускіх слоўнікаў, якія, на жаль, усё больш думаюць па-руску і цалкам залежныя ад рускамоўных і рускацэнтрычных гістарычных крыніц.


KULTURALOWIECKA.PL

**Уладзімір Корсак з выжлам.** Маёнтак Анінск Себежскага павета Віцебскай губерні (цяпер Пскоўская вобласць Расіі). Пачатак XX стагоддзя.

### «Польскі выжал»

Глыбокі знаўца тэорыі і практыкі палявання Уладзімір Корсак, нашчадак славутага роду полацкіх баяраў і вялікі знаўца і аматар беларускай прыроды, у сваім класічным падручніку па паляванні «Год паляўнічага» (1922) паставіў выжлаў сярод усіх паляўнічых сабак на самы верх: «На першым месцы стаіць выжал, найшляхетнейшая і найбольш развітая парода сабак, глыбокага інтэлекту, межаў якога да канца даследаваць не можам. Бачым мы тут выбітныя і індывідуальныя здольнасці, у некаторых цалкам сярэднія і нават слабыя, іншыя ж на дзіва высокія, пры якіх сабака разумее амаль усё, што яму гавораць, ловячы жвавымі вачыма кожны рух твару любімага гаспадара, а прыродным інстынктам адчуваючы ягоны настрой і схаваныя ў глыбіні душы болі або радасці».

Але ўжо ў часы Корсака (канец XIX — першая палова XX стагоддзя) у Беларусі, Літве і Польшчы не заставалася абарыгеннай пароды выжлаў. Магчыма, таму, што ў належны час ніхто не займаўся сур'ёзнай селекцыйнай працай і стварыць стандарт пароды не ўдалося. Тады ў нас ужо вялі рэй, як і амаль усюды па свеце, модныя брытанскія (сетары і пойнтары) і нямецкія (курцхаары, дратхаары, грыфоны) пароды.

Да пачатку XIX стагоддзя, як сцвярджаюць польскія даследчыкі, на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай яшчэ пераважалі выжлы мясцовай пароды. Пра выгляд і характар такіх сабак захаваліся толькі ўрыўкавыя звесткі ў мемуарнай і ў меншай ступені ў кіналагічнай літаратуры. У прыватнасці, мясцовага выжла атаясамліваюць з сабакам, якога вядомы нямецкі кінолаг Хегевальд называў «польскім вадалазам».



**Уладзімір Марыян Корсак** (1886—1973), славуты польскі і беларускі паляўнічы, аўтар класічных падручнікаў па паляўнічай справе.

Гэтая парода быццам бы вылучалася з усіх выжлаў надзвычайнай здольнасцю да плавання і выдатным паляўнічым інстынктам, што дазваляла гэтым сабакам знаходзіць і прыносіць падбітых птушак з цалкам недаступных паляўнічаму месцаў. Поўсць яго нагадвала поўсць пудзеля, і нават знешнім выглядам сабака нагадваў гэтую пароду. Але падчас спёкі ён хутка стамляўся. Гэты выжал меў даволі ўпарты, незалежны характар, і таму яго дрэсіроўка вымагала немалых высілкаў — што магло стаць адной з прычын заняпаду пароды. Тым больш што ён саступаў сетарам і пойнтарам у нюху.

Магчыма, такіх сабак пераважна і ўяўлялі сабе нашы продкі, калі чулі слова «выжал». А сам польскі выжал, як лічыць кінолаг Ян Штольцман, канчаткова звёўся недзе пасля паўстання 1863—1864 гадоў. Пасля ж гэтым словам звалі ўжо сабак блізкіх па функцыянальнасці замежных парод. ◆

## Адкуль слова «выжал»?

Адкуль жа паходзіць слова «выжал», якое існуе ў розных мовах? Па-польску гэта *wyżeł*, а ўвогуле падобнымі словамі гэтая група парод абазначаецца таксама ў многіх славянскіх мовах (чэшскай, славацкай, украінскай, славенскай, сербскай і харвацкай мовах), а таксама, што важна, у венгерскай. У філолагаў і гісторыкаў на гэты конт ёсць шмат версій.

Спробы вывесці слова «выжал» са славянскіх моў не падаюцца пераканаўчымі. Прапаноўваліся версіі — і ад дзеяслова «выжаць» (нібыта выгнаць звера з гушчару), і ад «выць». Таксама з'яўляліся нямецкія і лацінскія версіі. Але мне найбольш пераканаўчай падаецца венгерская. Паводле яе, венгерская парода *vizsla* і была першаўзорам (але не абавязкова продкам) для ўсіх цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх выжлаў. Гэтае слова можа паходзіць ад венгерскага дзеяслова *vizsgálni* — «вышукваць, даследаваць». Такое вызначэнне найлепш і характарызуе паводзіны выжла ў ягоным пачатковым успрыманні, што па-руску выказваецца словам *«ищейка»*. Ды і ў многіх беларускіх гаворках ужытая ў дачыненні да чалавека характарыстыка «выжал» азначае «пранырлівы». І геаграфія распаўсюду слова, і храналогія найлепшым чынам падмацоўваюць такую гіпотэзу.

Шырокі і хуткі распаўсюд слова і самой пароды ў нас мог адбыцца ў ягелонаўскую эпоху — у канцы каралявання Казіміра Ягайлавіча ў Польшчы і Літве, калі ягоны сын Уладзіслаў быў каралём Чэхіі (з 1471 па 1516 год) і Венгрыі (разам з Харватыяй, з 1490 па 1516 год). Абсяг краін з гэтай тагачаснай «ягелонскай садружнасці» якраз і супадае з арэалам слова «выжал» і роднасных яму.

Венгерская выжла існуе дагэтуль і з'яўляецца пэўным сімвалам гэтай краіны. Гэта спакойны і добразычлівы ў дачыненні да чалавека сабака з шорсткай поўсцю рудавата-залацістага колеру, вельмі трывалы і настойлівы на паляванні.

Дарэчы, венгерская выжла пасля дзвюх сусветных войнаў таксама аказалася на парозе знікнення, выцесненая брытанскімі і нямецкімі пародамі. І была ўратаваная літаральна ў апошні момант, калі сабакаводы і паляўнічыя па ўсім свеце, асабліва ў Чэхіі і ЗША, адкрылі для сябе гэтую сімпатычную сабаку і далі пародзе другое жыццё. На жаль, з тутэйшым выжлам ніхто своечасова не спахапіўся: час пасля 1863 года быў для таго неспрыяльны.

Хлеб, выраблены паводле старажытнарымскага рэцэпта.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ZHURAVLEVAB

# Хлеб і да хлеба

## Што спажывалі старажытныя рымляне

**Па словах паэта-сатырыка Ювенала, рымляне цікавіліся ў сваім жыцці толькі дзвюма рэчамі: хлебам і відовішчамі. Пра відовішчы ў «Нашай гісторыі» ўжо неаднаразова пісалася раней: пра гонкі на калясніцах у № 1/2020 і гладыятарскія баі ў № 3/2020. Цяпер жа Аляксей Казленка піша, як у Старажытным Рыме было з хлебам.**

### Горад-мільённік

На мяжы старой і новай эры значная частка тагачаснага цывілізаванага свету ўваходзіла ў склад Рымскай імперыі. Цэнтрам гэтай сусветнай вялікай дзяржавы з’яўляўся Рым — горад на сямі пагорках. Сюды сцякаліся людзі і багацці з усёй імперыі.

Ужо ў канцы I стагоддзя да н. э. насельніцтва горада перавышала 700 000 чалавек, а праз 100 гадоў яно павялічылася да 1 млн. Вакол горада імператар Аўрэліян у канцы III стагоддзя збудаваў сцяну ў 13,7 км даужынёй. Прастора ўнутры сцяны была шчыльна забудаваная. Нават у сярэдзіне IV стагоддзя, калі Рым ужо перастаў быць сталіцай, у ім было 2 імператарскія палацы, 24 базілікі, 274 булачныя, 1 797 асабнякоў знаці, 46 603 шматкватэрныя дамы, 867 лазняў, 2 цыркі, 2 тэатры і 2 амфітэатры.

### Тавары са ўсяго свету

У эпоху росквіту імперыі паміж I і III стагоддзямі штогадовыя спажывецкія патрэбы гарадскога

насельніцтва Рыма складалі каля 150 000 тон хлеба, 75 млн літраў віна (так-так, паўлітра на кожны кілаграм хлеба), ад 20 да 30 млн літраў алею для прыгатавання ежы і гігіенічных працэдур, а таксама яшчэ 1 млн літраў для асвятлення.

## Хлеб, віно і алей — тры асновы рымскага рацыёну

Большая частка гэтых грузаў дастаўлялася ў горад па моры з Егіпта і Паўночнай Афрыкі, а таксама іншых правінцый імперыі. Лекара Галена, які жыў у Рыме ў канцы II стагоддзя, уражвала разнастайнасць паходжання прадаваных тут прадуктаў: аліўкі з грэчаскіх астравоў, перац з паўднёвай Індыі, рыбны расол з Іспаніі, дзевяць відаў папірусу з Егіпта і іншыя тавары.

Марской брамай горада быў порт Остыя ў вусці ракі Тыбр на рымскім Ніжнім (цяпер Тырэнскім) моры. Імператар Клаўдзій у 48 годзе загадаў ачысціць гавань ад рачных наносаў і пабудаваць тут новы мол з маяком. Для таго, каб пабудаваць для яго падмурак, ля ўваходу ў гавань затапілі велізарны карабель.

У 106-м імператар Траян пачаў у вусці Тыбра дадатковыя работы, у выніку якіх за 4 км на поўнач ад Остыі з'явілася шасцікутная штучная гавань, так званы Порт. Агульная даўжыня астыйскіх прычалаў у II стагоддзі н. э. перавышала 6 км, што дазваляла адначасова прыняць у гавані да 700 караблёў. На беразе былі пабудаваныя склады з цэглы, тут жа размяшчаліся гандлёвыя канторы і жылыя памяшканні. Збожжа і іншыя тавары перагружалі сюды з караблёў, а затым ужо на невялікіх чаўнах і баржах везлі ўверх па Тыбры ў Рым.

Асноўным сродкам перавозкі былі велізарныя караблі водазмяшчэннем больш за 400 тон. Перавага марскога гандлю вызначалася высокім коштам перавозкі па сушы і велізарным аб'ёмам прадукцыі, якую спажывала насельніцтва сталіцы. Марскія перавозкі былі нашмат таннейшымі. Карабель змяшчаў значна большы аб'ём грузаў, чым фурманка. Галоўным арганізатарам збору і транспартавання збожжа выступала дзяржава, якая размяркоўвала гэтае права паміж буйнымі падрадчыкамі. Кошт грузу аднаго 400-тоннага карабля з пшаніцай з Егіпта складаў прыкладна 1 млн сестэрцыяў (на цяперашнія грошы каля 650 000 долараў ЗША), што было эквівалентна мінімальнаму маёмаснаму стану сенатара. Аперваць такімі сумамі ►


MODELSHIPS.DE

**Мадэль гандлёвага рымскага судна** I стагоддзя да н.э.

### Асы, сестэрцыі і дынарыі

Самай дробнай рымскай манетай быў бронзавы ас; далей ішоў сестэрцый з меднага сплаву, які быў роўны 4 асам, а затым срэбны дынарый, роўны 4 сестэрцыям або 16 асам. Параўноўваючы сённяшнія цэны на хлеб у супермаркетах, можна меркаваць, што **рымскі ас па сваёй купчай здольнасці прыкладна адпавядаў цяперашняму 1 долару ЗША**, 1 сестэрцый — 4 доларам, а 1 дынарый — 16 доларам.


WIKIMEDIA COMMONS


PORTUSPROJECT.ORG

**Графічная рэканструкцыя гандлёвай гавані** ў вусці Тыбра часоў імператара Траяна.




Гара Монтэ Тэстача ў Рыме.

▶ маглі толькі буйныя кампаніі, цесна звязаныя з палітычнай элітай. Норма прыбытку ў гэтай справе магла вагацца ад 15 да 20%. Лічыцца, што дзяржаве забеспячэнне сталіцы хлебам абыходзілася штогод у 135 млн сестэрцыяў, ці 15% дзяржаўнага бюджэту.

**Везці назад пустыя амфары было нерэнтабельна, таму «тару» проста разбівалі**

### Кошт хлеба

Хлеб адыгрываў важную ролю ў міжземнаморскім харчаванні. Дарослы мужчына штодня з'ядаў прыкладна два боханы пшанічнага хлеба, які забяспечваў яму асноўную долю з неабходных на дзень 2000–3000 калорый. Асноўнай мерай аб'ёму збожжа, якую выкарыстоўвалі рымляне, быў модый (8,704 літра). З гэтай меры выпякалася 20 стандартных боханаў хлеба вагой каля 1 рымскага фунта (327,45 грама) кожны. Даросламу мужчыну хапала гэтай ежы на 10 дзён.

У Рыме мінімальная цана модыя пшаніцы на рынку складала пры Гаю Юлію Цэзару ў сярэдзіне I ст. да н.э. 12 асаў, а пры Нероне праз 100 гадоў — 32 асы. Пры гэтым у сельскіх раёнах Італіі збожжа магло каштаваць у 2 разы менш, а ў Егіпце — толькі 8 асаў, г. зн. у 4 разы менш. Бохан свежага хлеба ў Рыме прадаваўся за 2 асы, а ў Егіпце — удвая танней.




**Бохан рымскага хлеба, знойдзены ў Пампеях.** Надрэзы на хлебе рабіліся для таго, каб яго лягчэй было ламаць.

## Монтэ Тэстача — могілкі амфар

Адным з найбольш незвычайных помнікаў росквіту гандлю ў I–III стагоддзях н. э. з'яўляецца 45-метровы пагорак непадалёк ад цэнтра сучаснага Рыма, так званы Монтэ Тэстача, які амаль цалкам складаецца з абломкаў мільёнаў гліняных амфар. У гэтых амфарах у астыйскі порт увозіліся віно, аліўкавы алей, рыбны соус і іншыя прадукты. А паколькі везці назад пустыя амфары было нерэнтабельна, то іх проста разбівалі і ўтылізавалі такім чынам. Каля 30% знойдзенай тут керамікі паходзіць з паўднёвай Іспаніі.

Багаты матэрыял па цэнах на прадукты можна атрымаць з надпісаў, пакінутых на сценах дамоў у горадзе Пампеі незадоўга да вывяржэння вулкана Везувій 24 жніўня 79 года. Адзін з такіх надпісаў — цэннік, выдрапаны на сцяне карчмы:

## Рацыён тагачаснага рымскага гараджаніна

ў асноўным складаўся з хлеба, сыру і віна. Пра гэта сведчыць адзін з пампейскіх надпісаў, дзе пералічваюцца выдаткі аднаго з іх на працягу пяці дзён:

1) хлеб — 2, сыр — 0,25, аліўкавы алей — 0,75, віно — 0,75 сестэрцыяў
2) хлеб — 2, хлеб для рабоў — 0,5, масла — 1,25, цыбуля — 1,25, віно — 0,5 сестэрцыяў
3) хлеб — 2, хлеб для рабоў — 1, аўсянка — 0,75 сестэрцыяў
4) хлеб — 2, віно — 0,5, віно — 4, сыр — 0,5 сестэрцыяў
5) хлеб — 0,5, жонцы — 2, збожжа — 4, агуркі — 0,25, ладан — 0,25, сыр — 0,5, каўбаса — 0,25, мяккі сыр — 1, аліўкавы алей — 1,75 сестэрцыяў

віно — 1 ас за 0,5 літра;
хлеб — 2 асы за бохан;
алей аліўкавы — 21 ас за 0,5 літра;
кавалак мяса — 1 ас.

## Дарослы рымлянін штодня з'ядаў 650 грамаў белага хлеба

Яшчэ адзін надпіс з Пампей дазваляе ацаніць выдаткі гарадской сям'і з трох чалавек на працягу 8 дзён. У сярэднім штодзённыя бягучыя выдаткі ваганіся ад 5 да 28 асаў, а самыя высокія склалі суму 60 асаў. Разам за 8 дзён быў выдаткаваны 221 ас, што пры тым жа ўзроўні спажывання складае 9 945 асаў = 2486 сестэрцыяў у год.

### Багатыя і бедныя

Як і сучасныя метраполіі, антычны Рым быў дарагім горадам. Рымскі пісьменнік Пліній Малодшы, сенатар і былы консул, сцвярджаў, што для таго, каб лічыцца багацеем, патрабуецца 20 млн сестэрцыяў (каля 13 млн сучасных долараў). Сам Пліній меў 12–15 млн, а яго гадавы даход ацэньваўся сумай ад 80 000 да больш чым 1 млн (530–657 тысяч долараў). Сам ён лічыў яго сярэднім і скардзіўся на выдаткі, звязаныя з неабходным паводле статусу ладам жыцця.

Але большасць насельніцтва жыла зусім не так раскошна. Майстры-рамеснікі, гандляры і прадпрымальнікі, якія пастаўлялі тавары і паслугі для эліты, адвакаты сярэдняй рукі, настаўнікі і лекары ў сярэднім зараблялі каля 3 500 сестэрцыяў штогод (14 000 долараў), што пры ўмераным спажыванні дазваляла ім назапасіць неабходны капітал на старасць. А найніжэйшая мяжа дабрабыту для гэтага класа пралягала дзесьці ў раёне 800 сестэрцыяў гадавога даходу (3 200 долараў). Гэта забяспечвала мінімальны прадуктовы кошык, але ўжо не дазваляла адкладаць грошы на старасць.

Пры гэтым прыкладна палова гарадскога насельніцтва не мела нават гэтага. На працягу II стагоддзя колькасць грамадзян, якія атрымлівалі ад дзяржавы бясплатны хлеб, вырасла са 150 да 175 тысяч чалавек. Гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра мужчын, якія былі кармільцамі сем'яў. Паёк уключаў 5 модыяў = 40,5 л нямолатага збожжа, да якіх пазней дадаліся алей і нават свініна. Гэтага было цалкам дастаткова, каб забяспечыць асноўны рацыён аднаго дарослага чалавека, але для пражыцця сям'і з трох або нават пяці ратоў такой колькасці не хапала.

Бясплатны хлеб прызначаўся для ўсіх грамадзян, у тым ліку багатых, але менавіта для беднаты ён меў крытычнае значэнне, дазваляючы ёй неяк зводзіць канцы з канцамі. Без гэтай дапамогі жыццё ў сталіцы імперыі было б беднякам не па кішэні, як і для беднаты сучасных найбуйнейшых мегаполісаў. Але можна меркаваць, што ў невялікіх гарадах у глыбіні правінцый кошт жыцця быў нашмат ніжэйшы. ◆



**Вырабнікі хлеба ў Старажытным Рыме таксама маглі дазволіць сабе жыць і паміраць багата.** Аб чым сведчыць грунтоўная грабніца пекара Эўрысака ў Рыме, пабудаваная напрыканцы I стагоддзя да н.э.

WIKIMEDIA COMMONS

# Манета манет

**Трохметровую бронзавую «Манету» паставіў з нагоды свайго 20-годдзя Банк Дабрабыт каля свайго галаўнога офіса на Камуністычнай, 49 у Мінску. А на ёй — барэльефы дзесяці манет розных эпох гісторыі Беларусі. Давайце расшыфруем.**

**1.** Самая старажытная манета, адлюстраваная на помніку, — срэбны куфічны дырхем IX стагоддзя. Гэтая грашовая адзінка была найбольш надзейнай валютай свайго часу. Дырхемы Арабскага Халіфата з задавальненнем прымаліся ва ўсіх землях ад Паўночнай Афрыкі да Скандынавіі на працягу больш чым двух стагоддзяў. За вялікі давер да іх нумізматы празвалі гэтыя грошы «долярамі Сярэднявечча».



Вядома, і да куфічных дырхемаў на тэрыторыі Беларусі хадзілі нейкія грошы. Аднак менавіта арабскія манеты нашы продкі ўпершыню пачалі масава закопваць на чорны дзень — сотнямі і нават тысячамі штук. Асабліва колькасць скарбаў з дырхемамі ўзрасла на Беларусі з другой паловы IX стагоддзя. Не ўсе з закапаных скарбаў іх уладальнікі пасля адкапалі, многія ляжаць у зямлі стагоддзямі. У вёсцы Казьянкі пад Полацкам у 1973 годзе знайшлі скарб, у якім налічвалася звыш 7 600 срэбных дырхемаў.

**2.** Гэтая знакавая манета пазнаецца дзякуючы вялікаму шчыту з падвойным крыжам. Так выглядаў герб княжацка-каралеўскага роду Ягелонаў. Ён быў змешчаны на адной з першых уласных манет Вялікага Княства Літоўскага — срэбным пенязі, якія выпускаўся з 1387 па 1392 год.

Аўтар скульптуры — Кастусь Касцючэнка, які стварыў таксама манумент «Вароты памяці» ў Трасцянцы. Ён кансультаваўся з супрацоўнікамі Гістарычнага музея, Нацбанка і прыватнага музея «Грошы»: далёка не ўсе манеты Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага сапраўды былі распаўсюджаны на Беларусі. Некаторымі з іх разлічваліся толькі на тэрыторыі Польшчы, Украіны ці цяперашніх краін Балтыі.

ФОТА АЛЯКСАНДРА ЗАДОРЫНА




пабачыла свет. Спачатку навукоўцы лічылі, што да яе мае дачыненне Казімір Ягелончык. Але пазней беларускі даследчык Дзмітрый Гулецкі выказаў меркаванне, што яна можа адносіцца да часоў Вітаўта. Існуе і кампрамісная версія: а што, калі яе выпускалі адразу пры некалькіх князях? Такім чынам, гэты пенязь мог вырабляцца як у пачатку, так і на працягу амаль усяго XV стагоддзя — кропка ў гэтай дыскусіі яшчэ не пастаўлена.

Цікава, што «Калюмны» даволі часта сустракаюцца і на больш позніх манетах ВКЛ — іх змяшчалі туды да таго часу, пакуль не памёр апошні прадстаўнік дынастыі Ягелонаў, Жыгімонт Аўгуст, у 1572 годзе.

Пачатак біцця ўласных грошай ВКЛ часцей за ўсе звязваюць з хрышчэннем Літвы ў каталіцтва, якое адбылося ў 1387-м. Але ёсць і меркаванне, што першыя манеты княства з'явіліся яшчэ пры Альгердзе. Увогуле ж, раннелітоўскіх манет гэтага перыяду захавалася вельмі мала. Былі яны вельмі маленькімі і важылі каля 1 грама.

**3.** Яшчэ адзін старажытны пенязь з гербам «Калюмны» — геральдычным сімвалам роду Гедымінавічаў. Гэта адна з самых таямнічых і загадкавых манет ВКЛ. Дакладна невядома, пры якім вялікім князю яна



**4.** У пачатку XVI стагоддзя выпуск сваёй манеты стаў для ВКЛ звычайнай справай. Змяніўся і выгляд манет. На змену змрочнаму гатычнаму стылю прыйшоў узнёслы стыль эпохі Адраджэння. На рэгулярнай аснове пачаўся выпуск дукатаў і талераў, што стала вельмі важным дасягненнем, бо талер быў у той час агульнаеўрапейскім стандартам срэбнай манеты, а дукат — залатой. Імі можна было разлічвацца ў любой еўрапейскай краіне і нават у Турцыі, незалежна ад таго, партрэты якога караля на іх адлюстраваныя.



Праўда, фактычна ў міжнародным гандлі дукаты і талеры Вялікага Княства Літоўскага (пазней — Рэчы Паспалітай) амаль не ўдзельнічалі. Яны выпускаліся невялікімі партыямі і неслі ▸

хутчэй прэзентацыйную функцыю: падкрэслівалі моц дзяржаўнай улады, выступалі ў якасці каштоўных падарункаў і ўзнагарод. Кожны раз, калі Рэч Паспалітая выпускала дукаты і талеры, яна быццам бы гаварыла свету: «Глядзіце, нашы справы пайшлі на лад!» Таму для іх стварэння заўсёды імкнуліся запрашаць найлепшых еўрапейскіх майстроў.

Фрагмент з надпісам «*Sigis.Avg*» расказвае пра дукат Жыгімонта Аўгуста (1544–1572). Менавіта ён пачаў выпуск першых дукатаў і талераў ВКЛ. Гэтая манета сустракаецца вельмі рэдка і мае вялікую калекцыйную каштоўнасць — на нумізматычных аўкцыёнах стаўкі за яе пачынаюцца ад 100 тысяч долараў.

**5.** Партрэтная частка залатога дуката Стэфана Баторыя (1575–1586). Пры гэтым каралю адбылася канчатковая ўніфікацыя манетных сістэм ВКЛ і Польскага Каралеўства. У выніку гэтай рэформы з'явілася адзіная грашовая сістэма Рэчы Паспалітай. Дукаты Стэфана Баторыя сустракаюцца куды часцей, чым Жыгімонта Аўгуста — на аўкцыёнах яны разыходзяцца коштам «усяго» ад 2 тысяч долараў.

**6.** Рэверс срэбнага талера Жыгімонта Вазы (1587–1632) прыцягвае ўвагу больш за іншыя. Па-першае, гэты талер займае большую частку франтальнага боку скульптуры, а па-другое, змяшчае шмат разнастайных геральдычных сімвалаў. Сярод іх — знакамітая «Пагоня», польскі арол, гербы Швецыі і вострава Готланд, а таксама пшанічны сноп — уласны герб дынастыі Вазаў. Мастацкае аздабленне манет у гэты перыяд вельмі каштоўнае.

Чытайце таксама ў №6 за 2019 год: «Нават у труну жонцы ён паклаў паўстанцкія манеты». Караль Прозар, герой з Дудутак і Хойнікаў



**7.** Яшчэ адзін фрагмент манеты з «Пагоняй» — пробны срэбны талер Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764–1795), які быў распрацаваны, але не пайшоў у тыраж. Ён з'яўляецца часткай смелай, але не зусім удалай грашовай рэформы, якая адбылася ў 1766 годзе. Менавіта тады Рэч Паспалітая пачала выпускаць манеты палепшанай якасці — з большым утрыманнем срэбра, чым у суседзяў. Але гэта прывяло да таго, што больш за 90% выпушчаных у Варшаве талераў штогод вывозілі за мяжу. Больш каштоўныя польска-літоўскія грошы купцы абменьвалі на замежныя манеты больш нізкай якасці.

**8.** Залаты дукат, амаль схаваны за іншымі выявамі, можна пазнаць па частцы надпісу «*Concordia Res Parvae Crescunt*», што ў перакладзе з лаціны гучыць як «Згода робіць малое вялікім». Гэта манета паўстання 1830–1831 гадоў, якая стылістычна нагадвала дукат з Нідэрландаў. Паколькі літоўска-беларуская шляхта брала актыўны ўдзел у гэтым паўстанні, то яна ахвотна карысталася «мяцежнымі» грашыма. Пасля задушэння паўстання большасць з іх пайшла на пераплаўку, аднак некаторыя знаходзіліся ў абарачэнні аж да 1838-га.




**9.** Фрагмент манеты з гербам СССР — аверс савецкіх капеек, якія выпускаліся з 1961 па 1991 год. Савецкія капейкі на сённяшні дзень можна лічыць самымі распаўсюджанымі манетамі на тэрыторыі Беларусі за ўсе часы. Нельга дакладна сказаць, што перад намі — 1, 2, 3, 5, 10, 15, 20 ці 50 капеек, бо з такога ракурсу яны ўсе выглядаюць аднолькава. Выключэннем былі толькі юбілейныя манеты.

**10.** З нашага сённяшняга жыцця на бронзавую кампазіцыю патрапіла манета наміналам 2 рублі. Вонкава яна падобная да 2 еўра і 2 польскіх злотых — не толькі з-за амаль аднолькавых памераў, але і за кошт таго, што таксама складаецца з дзвюх рознакаляровых частак.

Першыя масавыя манеты Рэспублікі Беларусь былі ўведзеныя ў абарачэнне ў 2016 годзе, хоць вырабілі іх яшчэ ў 2009-м. Цікава, што Беларусь дагэтуль не мае асабістага манетнага двара: спачатку беларускія металічныя грошы сыходзілі з канвеераў у Літве і Славакіі, а з 2019 года іх чаканка адбываецца ў Маскве. ◆

**Алег Галкін**

Аўтар выказвае падзяку за дапамогу ў працы над артыкулам **Раману Крыцуку** і **Іллі Чарняўскаму.**

# «Працi ўсіх імперый і карон»

**Мала хто ведае, што свой верш на музыку паланэза Агінскага напісаў і вялікі Уладзімір Караткевіч. Той тэкст амаль забыты, але які ж ён актуальны! Піша Валянціна Андрэева.**

Тэкст на гэтую мелодыю замовіў Караткевічу хор горада Смаргонь да 200-годдзя з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага — гэта значыць, у 1965 годзе. Цікавасць смаргонцаў менавіта да Агінскага тлумачылася вельмі проста: ён быў іх земляком, бо меў радавую сядзібу ў Залессі цяперашняга Смаргонскага раёна. Тое, што вырашана было звярнуцца менавіта да Караткевіча, таксама было, відаць, невыпадковым: усё ж такі гістарычная тэматыка была «спецыялітэтам» любімага народам аўтара «Дзікага палявання караля Стаха» і іншых папулярных твораў (вялікі артыкул Андрэя Скурко пра Уладзіміра Караткевіча чытайце ў №12/2019 «Нашай гісторыі»).

Працаваў над тэкстам Караткевіч з характэрнай для сябе заўзятасцю.

Ён пастанавіў для сябе пісаць тэкст, слухаючы музыку. А паўстагоддзя таму гэта было зусім не так проста, як цяпер, калі досыць адкрыць Ютюб. Нават прайгравальнік для пласцінак быў тады не ў кожным доме.



**Уладзімір Караткевіч і Лявон Баразна на кухні той самай кватэры Язэпа Хаўратовіча на Савецкай.** Фота з кнігі ўспамінаў пра Лявона Баразну «Як рыцар у кальчузе», якая цяпер рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Тэхналогія».

Каб найграваць сабе паланэз, Караткевіч ездзіў да свайго сябра Язэпа Хаўратовіча, што жыў каля цяперашняй плошчы Незалежнасці, на Савецкай. Хаўратовіч вядомы як гісторык, які ў той час працаваў у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ (так званым Гістпарце), а пасля амаль 30 гадоў аддаў працы ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя», стаў адным з ягоных твараў. З Караткевічам ён пазнаёміўся праз добрага сябра апошняга, мастака Лявона Баразну, які ў 1972 годзе трагічна загінуў пры да сёння не высветленых абставінах. Ёсць цалкам верагодная версія, што да гэтага прыклалі руку супрацоўнікі КГБ, якім Баразна муляў вочы сваёй актыўнай грамадскай і нацыянальнай пазіцыяй. З Лявонам Язэп Хаўратовіч быў знаёмы і сябраваў з дзяцінства, бо яны былі землякамі і аднагодкамі. А пасля пасябраваў і з ягоным сябрам Валодзем Караткевічам.

У Хаўратовіча была спецыяльная прыстаўка да тэлевізара, што прайгравала пласцінкі. Але ж як ты будзеш пісаць, калі ў кватэры чужыя? Таму пісьменнік прыходзіў на Савецкую дом 14, кватэра 12, пакуль Хаўратовічы былі на працы. Ключ гаспадары адмыслова пакідалі пад каберцам, тады людзі масава так рабілі.

Пасля такіх візітаў гаспадары знаходзілі побач з ключом запіскі накшталт такой: ▸

**«Развітанне з Радзімай» (Паланэз Агінскага)**

Родны кут, Смаргонскі кут,
Калыска светлая мая,
«Бывай!» — гавораць мне твае лясы,
Але мяне ад іх не адарваць,
Як іх з гаротнага майго не вырваць сэрца.

Родны край, навек бывай,
Шлагбаума меч над галавой…
Усё далей ад Залесся колаў стук...
І слёзы ў вачах маіх стаяць,
Сінеючы, як плынь святой маёй Віллі.

Буду ўспамінаць алеяў сініх ціхі спеў,
І вадаспад ніжэй млына, што бачыў нас
У той апошні час
З каханаю маёю,
І магілы даўнія дзядоў,
Рады сівых капцоў,
Цяжкіх не ад граніту, а ад бэзу,
І цёплы дом са свечкамі калон,
І спрэчку з танцам беларускім паланэзу.

Усё далей вядзе выгнання шлях
Ад ніў, дзе ты, любоў, жыла,
Дзе ты навекі адышла...
Ды прыйдзе час — насустрач дню
Ўваскрэснеш ты жывой з агню.
І я прыйду і абдыму цябе,
Мая любоў, мая айчына.

Чуеш крок загонаў? Крочаць легіёны.
Прыйдзем
Мы яшчэ змагацца за цябе, радзіма,
Як Кастусь з Касцюшкам супраць цёмных зграй...
Проці ўсіх імперый і карон
Людзей пакліча волі звон,
І ў бітве пераможа ён.

Мір тым, хто гіне за народ,
А пераможцам — славы ўзлёт...
Няхай дзяўчаты ўвянчаюць іх
Галінамі дубоў залескіх.

Але як забыць цябе,
Радзіма, край маіх бацькоў?
Павінен разлучыцца я з табой,
А я б памёр у бітве за цябе
І загайдала бы мяне Вілля,
Закалыхалі беларускія дубы.

Край, навек бывай. Адзіная мая любоў.
Адзіная любоў. Навек бывай.
Нічога, добры мой,
Адзіны мой, нічога.
Я жывы.
А жывы, пакуль здалёк
Даносіць спевы рэк і дрэў,
Няхай я адарваны ад цябе —
А нават у чужым, чужым краі
Змагацца буду за цябе,
Мая радзіма.

(1965)

Сонца праменне стужкай вузкай
Ператкала помны вечар.
Край бацькоўскі, край мой беларускі,
Я табе кажу на развітанне: «Да спаткання, да сустрэчы».
Я табе кажу на развітанне: «Да спаткання, да сустрэчы».
Водар закінутага саду,
Ў небе зорка Мілавіца,
Таямніцы паркавых прысадаў
Пэўна, не аднойчы на чужыне будуць мроіцца і сніцца.
Пэўна, не аднойчы на чужыне будуць мроіцца і сніцца.

Зноў залунае наш штандар,
Палыхне ўначы пажар,
І паходнаю трубой
Зноў пакліча нас з табой на мужны бой
Мая Радзіма — край адзіны.
Да яго з выгнання шлях вяртання — шлях змагання.

Ростань на ростанях краіны,
Раніць думкі шлях абраны.
Прагне сэрца ў родныя мясціны,
І Радзімы вобраз ажывае растрывожанаю ранай.
І Радзімы вобраз ажывае растрывожанаю ранай.
Дахі мястэчак, стрэхі вёсак,
Вежы замкаў і палацаў,
Гонкіх храмаў звонкі адгалосак
Клічуць да сябе, бо немагчыма з гэтым краем развітацца.
Клічуць да сябе, бо немагчыма з гэтым краем развітацца.

Зноў залунае наш штандар,
Палыхне ўначы пажар,
І паходнаю трубой
Зноў пакліча нас з табой на мужны бой
Мая Радзіма — край адзіны.
Да яго з выгнання шлях вяртання — шлях змагання.

Вoі прагнуць волі, воля — свет і доля.
Броні звон ды коні, коні — кліч «Пагоні».
Крочым з багны ночы, з ночы шлях прарочы.

Зноў залунае наш штандар,
Палыхне ўначы пажар,
І паходнаю трубой
Зноў пакліча нас з табой на мужны бой
Мая Радзіма — край адзіны.
Да яго з выгнання шлях вяртання — шлях змагання.

Золак, ахутаны туманам,
Далягляды ў барвах бэзу.
І гучаць нябёсныя арганы,
І жывуць у сэрцы, і зліваюцца у гуках паланэзу.
І жывуць у сэрцы, і зліваюцца у гуках паланэзу.

(2000)

**Параўнайце два варыянты тэксту на паланэз. Злева — напісаны Караткевічам для Смаргоні. Справа — той, на які спяваюць Вераніка Круглова і Зміцер Вайцюшкевіч, аўтарства Сержука Сокалава-Воюша.**



З АРХІВА ЯЗЭПА ХАЎРАТОВІЧА

**Адзін з караткевіцкіх чарнавікоў тэксту да паланэза Агінскага.**

### Паланэз Агінскага



або Паланэз №13 — самы вядомы твор гэтага жанра не толькі ў спадчыне кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага (1765–1833), але і за ўсю музычную гісторыю Беларусі. Тужлівая мелодыя з'явілася ў 1794 годзе, пасля таго як удзельнік паўстання Касцюшкі Агінскі мусіў эміграваць з краіны. Адсюль і трэцяя распаўсюджаная назва паланэза — «Развітанне з Радзімай».

**Паланэз Агінскага на словы Вячаслава Шарапава ў выкананні «Песняроў».**





**«Развітанне з Радзімай» на словы Сержука Сокалава-Воюша ў выкананні ўдзельнікаў праекта «Я нарадзіўся тут».**

Візуальнае адлюстраванне паланэза Агінскага можна пабачыць на беларускіх грашах. На рэверсе 50-рублёвай банкноты ёсць ноты — гэта фрагмент шостага такта паланэза.

▶ «Паважаныя Ніна і Язэп!

Урэшце та адарваўся ад спраў і знайшоў час прыйсці і слухаць. Слухаў сто разоў, і калі мне спачатку здавалася, што я нешта разумею, то ў канцы другой гадзіны я запэўніўся, што я варты жалю графаман з вухам, на якое яшчэ ў дзяцінстве наступіў адзін з вучняў Смаргонскай акадэміі, той самай, для якой патрэбен паланэз. (Во стыль! Во нямецкі сказ!) Аднак нічога, слухаць больш не спатрэбіцца. Залаты ключык загарну ў паперу (нібыта ліст) і закіну ў паштовую скрынку, бо, можа, ён вам патрэбен. Зачыніў бы дзверы проста, ды ў вас замок не такі. Шчыры дзякуй за ўсё. Неяк ужо з Лявонам [Баразной] зойдзем да вас. Пайду дахаты. Буду пісаць смаргонскі нацыянальны гімн.

Увесь Ваш Ул. Караткевіч.

P. S. Яшчэ раз прабачце за ўварванне».

Гэты ліст і чарнавікі, дзе адлюстраваліся мукі творчасці класіка, Язэп Хаўратовіч захаваў. А верш у Караткевіча ў выніку атрымаўся магутны.

Нават чарнавыя варыянты часам гучаць прароча. Вось як гэты:

«Чуеш крок загонаў?
Крочаць міліёны.
Прыйдзем мы яшчэ змагацца
за цябе, свабода,
Як Кастусь вялікі супраць
цёмных зграй…
Проці ўсіх імперый і карон
Народ пакліча волі звон
І ў бітве пераможа ён…» ◆



**Язэп Хаўратовіч** у 2020 годзе.

ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ АНДРЭЕВАЙ



# Гэта першы ў гісторыі здымак беларускага горада.

## Гэта Гродна, 1861 год, за два гады да паўстання Каліноўскага. Зрабіў фота аўстрыец Антон Рорбах.

7 студзеня 1839 года дырэктар Парыжскай абсерваторыі Дамінік Франсуа Арагон у сценах Акадэміі навук зрабіў даклад, у якім быў згаданы вынаходнік новага тэхнічнага мастацтва — Луі Жан Мандэ Дагер. У жніўні 1839-га было надрукавана тэхнічнае апісанне дагератыпіі — менавіта так называлі першыя фотаздымкі. Менавіта таму слова «фатаграфія» прыйшло да нас з французскай мовы, хоць увогуле запазычана яно з грэчаскай і перакладаецца як «святлапіс», ці тэхніка малявання святлом.

Час панавання дагератыпаў, якія рабіліся на меднай пласціне, быў нядоўгі. На пачатку 1850-х гадоў шэраг вынаходніцтваў здзейсніў англійскі вучоны Уільям Генры Фокс Талбат. Ён упершыню ў фатаграфіі выкарыстаў паперу, прамочаную хларыстым срэбрам. Талбат таксама вынайшаў негатыўна-пазітыўны працэс — калатыпію.

Першыя фотаатэлье з'явіліся ў Беларусі ў канцы 1850-х. Фотаздымкі таго часу вылучаюцца невялікім памерам (10×6 см) і выдатнай якасцю.



Таксама ён здымаў у Рэжыцы, Вільні і іншых мясцінах. Усе гэтыя здымкі лічацца першымі фотавыявамі Дзвінска, Коўна, Гродна.

Здымкі Гродна, зробленыя Рорбахам, датаваныя лістападам 1861 года. Фатографа цікавіла найперш будаўніцтва чыгуначнага моста, аднак ён намагаўся зафіксаваць яго на фоне старажытнага горада. Таму Гродна Рорбаха — гэта размешчаны на наднёманскіх пагорках горад барочных святыняў, куды паступова ўваходзіць індустрыяльная эпоха.

**Гродна Рорбаха — горад барочных святыняў, куды паступова ўваходзіць індустрыяльная эпоха**

Са здымкамі за межамі фотасалонаў справа ішла складаней. Для здымак на вуліцы трэба было лепшае абсталяванне.

Аўтарам першых здымкаў беларускіх краявідаў аказаўся падданы аўстрыйскага імператара Антон Рорбах. Ён нарадзіўся ў 1825 годзе ў Сегедзе на тэрыторыі сучаснай Венгрыі. У 1848-м Рорбах атрымаў адукацыю фармацэўта ў Венгерскім каралеўскім універсітэце ў Пешце. Пасля зацікавіўся фатаграфіяй і ў 1857–1859 гадах зрабіў серыю здымкаў будаўніцтва чыгуначнага моста цераз раку Цісу ў сваім родным горадзе.

Будаўніцтвам некаторых участкаў чыгункі, якую фатаграфаваў Рорбах, кіраваў французскі інжынер Эрнэст Сезан. Ён і папрасіў Рорбаха прыехаць у Расійскую імперыю, каб задакументаваць будаўніцтва мастоў на чыгунцы з Санкт-Пецярбурга ў Варшаву. Будаўніцтва гэтай чыгункі вялося з 1850-х гадоў і акурат падыходзіла да канца. У яго было заангажавана шмат прыватных замежных фірмаў, якія будавалі найперш масты і іншыя інжынерныя канструкцыі.

Антон Рорбах праехаў па большай частцы яшчэ не адчыненай чыгункі і зрабіў серыю панарамных здымкаў мастоў цераз Дзвіну ў Дзвінску і цераз Нёман у Коўне ды Гродне.

Неўзабаве грымнула паўстанне 1863 года, і царскія ўлады на доўгі час узялі друкаванне фотаздымкаў, а тым болей фатаграфаванне «на пленэры» пад пільны кантроль. Бо надта часта канфіскоўвалі растыражаваныя здымкі герояў або ахвяр паўстання, якія жыхары беларускіх гарадоў захоўвалі як рэліквіі. Ды і масты з чыгуначнымі вакзаламі сталі важнымі стратэгічнымі аб’ектамі. Таму ізноў масава фатаграфаваць пачалі беларускія гарады толькі недзе гадоў праз дваццаць — дваццаць пяць, калі тэхнічны прагрэс было ўжо не спыніць. ◆

**Андрэй Вашкевіч**

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**






Гісторык **Мікола Волкаў** адшукаў **эскізы медалёў за вызваленне Беларусі ў 1944 годзе.**

## Вялікая чума 1710 года ў Мінску

Гісторык **Дзяніс Лісейчыкаў** даўно паляваў за апісаннем чумы 1710 года ў Мінску і нарэшце знайшоў сведчанні відавочцы мору — настаяцеля Мінскага дамініканскага кляштара. Урывак з дзённіка настаяцеля быў апублікаваны на старонцы Лісейчыкава ў Фэйсбуку:

«Лета цалкам нешчаслівае, бо паморак пачаў пашырацца не толькі па гарадах, але нават і па вёсках. І так Польшча, Літва, Валынь, Русь і Прусія зрабіліся тэатрам гэтай шкадлівай распаўзальнай заразы. У нас у Мінску паморак пачаўся толькі ў кастрычніку і трываў аж да сярэдзіны студзеня наступнага года. Баніфратры вымерлі ўсе. Памерлыя былі ў кожным манастыры. Вольнымі ад гэтай заразы засталіся толькі манастыры ордэнскіх паненак. ... 13 жніўня ў Залачове [пад Львовам] памерла мая сястра Крысціна Домбская... 12 верасня атрымаў вельмі жалобную навіну аб смерці свайго брата... 24 верасня мы вярнуліся ў Зазер'е, адкуль нас не хацелі пускаць, бо акурат тады ў Мінску распаўсюдзіўся паморак. У нашым манастыры памёр ксёндз Дамінік Хмялеўскі са сваім служкам. Касцёлы ўсе пазачынялі».



**Рэшткі дамініканскага кляштара і касцёла Фамы Аквінскага** ў Мінску, 1944 год.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ДАКУМЕНТАЦЫІ

## Наша бортніцтва — сусветная каштоўнасць!

«Важная падзея: наша бортніцтва атрымала статус сусветнай нематэрыяльнай каштоўнасці! — піша ў тэлеграм-канале "Беларускі Бабілон" экскурсавод **Цімох Акудовіч**. — Калі раптам хто не ведае, бортніцтва — гэта здабыча мёду ў дзікіх пчол. Мёд у старыя часы быў дарагім прадуктам, адпаведна, ягоная здабыча мела свае традыцыі і рытуалы, якія часткова дайшлі да нашых дзён. Ну і кажуць, што сам мёд адрозніваецца.

Агулам я досыць скептычна стаўлюся да любых спісаў нематэрыяльных каштоўнасцяў, бо найчасцей у гэтыя спісы ўключаюць самі традыцыі, а не людзей, хаця такія каштоўнасці могуць жыць толькі ў людзях — і ніяк па-іншаму. Але ў дадзеным выпадку ўсё выглядае проста цудоўна!

Па-першае, заяўку падрыхтавалі, падалі і працягнулі недзяржаўныя ўстановы "Братэрства босых бортнікаў" (Беларусь) і "Bractwo Bartne" (Польшча).

Па-другое, для падрыхтоўкі заяўкі быў сабраны велізарны матэрыял на беларускім Палессі і на польскім Падляшшы: фота, відэа, інтэрв'ю, замалёўкі. Дзякуючы гэтаму амаль што зніклая справа была надзейна зафіксаваная.

Па-трэцяе, ЮНЕСКА проста так не ўносіць у спіс традыцыйныя

